


**ВЫПУСК 116**

АНХЕЛА ЭСПІНОСА РУІС

# КОЛЕР КРЫЛАЎ

*Паэзія і проза*

Мінск, «Кнігазбор», 2019

УДК 821.161.1-3
ББК 84(4Беи)-44
Э84

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 116.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

Літаратурная прэмія Міхася Стральцова 2019 года
рашэннем журы ў складзе Алены Стральцовай,
Уладзіміра Някляева, Барыса Пятровіча,
Міхася Скоблы і Аксаны Спрынчан прысуджана
**Анхеле Эспіноса Руіс**
за пачуццёвае і метафарычнае багацце паэтычнай мовы
і адважнае імкненне асэнсаваць таемнасць
беларускага быцця.

**ISBN 978-985-7207-50-3**

# П А Э З І Я

*Практычна кожны літаратар пачынае свой творчы шлях ад паэзіі, і я — не выключэнне. Лірыка складае большую частку маёй творчасці, і я найбольш актыўна ёй займаюся да сённяшняга дня. У гэтай кнізе вершы з мінулых зборнікаў «Раяль ля мора» (2015), «Памяць пра будучыню» (2015), «Pomme de ciel» (2017), а таксама творы і вершы, якія ніводнаму зборніку не належаць.*

# Са зборніка «Раяль ля мора»

## УВЕРЦЮРА

Твае вочы — чорныя, як камяні доўгага ды звілістага шляху,
Пранікаючыя, як апошні патрон паміраючага партызана.
Твая скура — загарэлая, як пясок далёкага пляжа,
Чыю назву я ўжо не памятаю, і не хачу памятаць.
Светлая ды нявінная, як поле сланечнікаў, мая паненка,
Твае грудзі — мілыя, як пагоркі травы,
Твой голас — песня вячэрняга, летняга салаўя.
Твой жывот — залатое поле пшаніцы,
З каранямі ў цэнтры Зямлі.
Твой розум — адказ на ўсе мае пытанні
Тваё сэрца з расталага лёду
Усталёўвае рытм маіх крокаў.
Твае ногі — крылы маіх мараў.
Твае мяккія рукі і мае, грубыя ды шурпатыя,
Ствараюць новы свет.
Гэта ты мне сказаў даўно, у абдымках,
А цяпер, перад самотным адлюстраваннем у халодным люстэрку,
Жадаю, каб хоць на імгненне,
Ты ўзгадаў мяне,
Сваю каханую.

## СТАРЫ ЗДЫМАК

Знайшоўся у скрыні стары здымак:
Прыгожыя, такія прыгожыя падлеткі,
Крыху старэйшы хлопчык і дзяўчынка
Вячэраюць разам.

Бачу цябе, што ўсміхаўся, як тады,
І сябе амаль пазнаю.
«Хутка! — думаю. — Трэба набыць рамку!
Трэба захаваць гэты ўспамін
Ад ненажэрных зубоў часу!»

Так, я гатовая павесіць здымак на сцяну,
Глядзець на яго моўчкі,
Стрымліваць слёзы, рабіць выгляд,
Што яшчэ не страцілі гэтую частку
Свайго жыцця.

## МОЙ КАХАНАК

Каханку мой!
Твае рукі належаць будучыні,
А я належу цяпер тваім рукам.
Я адчуваю твае ласкі і адраджаюся
У табе. Ты — маё жыццё.
Твае рукі — мой першы кантакт са смерцю.

## ІМПЕРЫЯ

Будзем шпацыраваць па пустых вуліцах,
Сярод апусцелых будынкаў.
Будзем сумаваць па нашым Вавілоне.
Мелодыя мінулага часу будзе гучаць
У мілых галасах птушак,
У світанні над горадам,

У сценах цішыні ды адзіноты.
А мы будзем удваіх шпацыраваць,
Басанож, рука ў руцэ, па зламаным свеце,
Пакуль кветкі растуць між старадаўніх камянёў
Нашай былой імперыі.

## БЕЗДАПАМОЖАСЦЬ

*Светлай памяці Рыгора Барадуліна*

Чаму не згасла сонца?
Чаму не пераапранулася неба
У чорныя хмары?
Чаму не змоўк смех?
Чаму не перасталі гуляць дзеці на вясёлай вуліцы?
Чаму, усё ж такі, пачалася вясна?
Чаму вярнуліся чорныя ластаўкі
Да нашага гаўбца?
Чаму цябе няма?
Чаму яго няма?
Чаму радуюцца людзі?
Хіба не бачаць, што не стала паэзіі?

## ЗЯМЛЯ, КРУЦІСЯ ХУТЧЭЙ!

Зямля, круціся хутчэй,
Каб я згубілася ў часе!
Каб я нічога не бачыла,
Каб не чула,
І не адчувала.
Зямля, круціся хутчэй,
Каб я таксама
Хутчэй спявала
У чароўным лесе,
Дзе стаіць старадаўняя вежа нашых мараў.

Зямля, круціся хутчэй!
Ператвары мяне ў птушку,
Каб я глядзела зверху на турботу,
Каб нарадзілася ад цябе зноўку,
Сярод попелу.

## ГОРАД

Легенда абвяшчае, што дзесьці ёсць горад,
Восенню золата і агню,
Дзе зіма паветра рэжа, як тысяча нажоў,
Пакідае кроплі крыві, з якіх будуць расці кветкі
Вясны, якая заўсёды спазняецца.
Горад, які абмываецца ўспамінам пра паўночнае мора
Ды старадаўнія сны.
Дзесьці ёсць горад, дзе трэба прабачаць неба
За ягоную шэрасць, за шчырасць.
Горад, куды ўсмешкі лятуць на смерць,
Дзе хаваецца каханне пад белай коўдрай,
А паэзія — пад зямлёй.
Горад, які перажыў сто бітваў,
Верхам на першабытным кані.
Горад, дзе, быць можа, жыве той чалавек,
І губляецца сярод сумных, чужых твараў у метро,
І адначасова бачыш, і не бачыш.
Горад, дзе хтосьці знаходзіць шчасце...
А хтосьці, ну, не тое, праўда, што шчасце,
Але вельмі падобнае адчуванне.
Гэтага дастаткова.

## РАЯЛЬ ЛЯ МОРА

У гэтую раніцу позняе вясны або ранняга лета,
Стаяў раяль на беразе нашага мора.
Хвалі тонка лашчылі ногі фартэпіяна,
Марская пена старалася пераймаць бель слановай косці.

Ніхто ў рыбацкай вёсцы не мог нават уявіць,
Адкуль узяўся прыгожы драўляны раяль,
Які таямніча стаяў на залатым пяску,
Ціхі й грацыёзны, велічны й самотны, ля мора.

Можа, калісьці сыдзе з неба на зямлю,
Анёл са спакойнымі, яркімі вачыма,
І зайграе старажытную, даўно забытую мелодыю,
Каб спяваў у захапленні той раяль на беразе раю.

# Са зборніка «Памяць пра будучыню»

## ТАСТАМЕНТ

Грошай я ніколі не мела,
Залатую кропку з коскай
Хай атрымае ў спадчыну іншы філолаг,
Які разумее, што гэта — сімвал кахання
(Два поўныя сказы аднолькавай важнасці
Існуюць разам;
Няма ніякіх «але», «альбо», «хаця» паміж імі).
Піяніна хай тату аддадуць,
Ён сапраўдны музыка,
Інакш інструмент сумаваў бы.
Кнігі для брата, якія па-іспанску,
Іншыя — публічным бібліятэкам.
Маёй душою падзяліцеся, паэты,
Яе на ўсіх хопіць, па долечцы кожнаму,
Кроў — рэкам,
Попел — мору.

## І. АГАПЭ

Рука матулі лашчыць першы раз малога,
Брат абараняе сястру перад холадам,
Дзядуля вучыць унука гуляць у шахматы,
Сябры забываюць праблемы абдымкамі...
Дык веру ў агапэ.

## II. ФІЛІЯ

Пакуль будзе на свеце добры незнаёмец,
Пакуль будзе справядлівы ідэал,
Пакуль будзе шчыры падарожнік,
І закаханы паэт, гатовы схлусіць,
Я буду верыць у філію.

## III. ЭРАС

Душа з душою займаюцца каханнем
Паміж зоркамі неба,
Там, дзе яшчэ ў нейкай форме
Існуе вечнасць.
Мае думкі пра цябе вадаспадам
Апаноўваюць маю галаву.
Няма іншык рук, апроч тваіх,
І веру толькі ў тваё імя — эрас.

## ТРЫМАЦЬ ТВАЮ РУКУ

Першы раз у жыцці, ці амаль,
Я хачу быць трохі эгаісткаю:
Хачу выплакацца ў тваіх абдымках,
І займацца каханнем з табою,
Каб забыць боль старых ран.
Хачу вылечыць сваю душу асалодаю,
Хоць і часова, недасканала,
Хачу кахаць цябе языком,
Каб твой прысмак застаўся ў маіх словах,
Хачу адчуць цябе ўнутры сябе,
Каб стогны не давалі чуць буру.
І хачу трымаць тваю руку,
Калі смерць прыйдзе па мяне.

## НЯПЭЎНАСЦЬ

Калі можна давяраць навукоўцам,
Будучыня адбудзецца, як і планавалася.
Я не была гатовая да такой магчымасці, шчыра кажучы,
Трэба будзе выбіраць новыя мары
(Бо старыя ў шуфлядзе памерлі ўжо),
Спакойна перачытваць вершы і выкідаць непатрэбнае,
Праць майткі і набываць новыя,
Заплаціць адразу тое, што вінная,
І падумаць, ці кахання аднаго дастаткова,
Каб у нас нешта выйшла.
Ну, гэта калі можна давяраць навукоўцам,
А не проста чакаць канца свету
У тваіх абдымках.

## СОН

Час ад часу мне сніцца такі дзіўны сон,
Нібы я прачынаюся, і не ведаю беларускую мову.
Не тое producing нават, але й французскую забыла,
Толькі ангельскую крыху памятаю,
І сваю родную.
А я нібы спакойна працую:
Чыноўніцкая пасада,
З дзявятай да пятай ў цені вечара
(І нават не думаю пра Лорку).
Я прачынаюся разам з хлопцам-іспанцам,
Якога кахаю памяркоўна і бяспечна,
І расказваю яму пра сон,
Дзе я была беларускаю паэткаю.
Ён пяшчотна смяецца, кажа:
«Што за краіна, як ты сказала?
Ты — паэтка?»
А я адказваю, што ўжо не памятаю.
Забываю сон патроху, яго вецер нясе,

Калі прыязджаю на працу, яго ўжо няма.
І цябе ўжо няма.
Добра, што гэта толькі сон,
І другі раз прачнуся, у пустым ложку,
Побач з родным болем тваёй адсутнасці.

## ГЕРНІКА

Гэта было ў Мадрыдзе, а менавіта
У цэнтры мастацтва каралевы Сафіі
(Які мясцовыя жыхары называюць «Сафіду» —
Націск на «у»).
Малы хлопчык спалохаўся, калі ўбачыў
Велізарную карціну «Герніка» Пікасо
(Дарэчы, правільна чытаецца «Пікаса» —
Націск на першым «а»).
Малы спытаў маладую маму:
— Мама, што за карціна?
Мама падышла і зачытала:
— Называецца «Герніка», даражэнькі. Падабаецца?
Хлопчык абурыўся і адказаў, ледзь стрымліваючы слёзы:
— Не! Брыдкая карціна, цёмная! Я баюся!
Чаму яна такая?
Мама паціснула плячыма:
— Не ведаю, Пікасо заўжды быў дзіўным, сонейка.
І яны пайшлі далей.
Насамрэч, Пікаса намаляваў гэтую карціну
Не дзеля таго, каб упрыгожваць буржуазную гасцёўню,
А каб людзі не забывалі пра вайну,
Што ў яго, на шчасце ці на жаль,
Не выйшла.

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

Калі я дзеяслоў — спрагай мяне.
Калі я песня — спявай мяне.
Калі я раман — губляйся ў маіх старонках.
Калі я паэзія, хачу, каб мяне пісаў ты,
Без цэнзуры,
Без чарнільных плямаў,
Без вайны.
Зрабі мяне сваім натхненнем.

## ЛІСТ ТАБЕ

Учора Еўтушэнка чарговы раз
Патлумачыў сваёй колішняй каханцы,
Што Расія існуе толькі ў вершах Пушкіна
І прозе Талстога.
Пішу табе, каб ты мне зноў сказаў,
Што ты не прыдуманы пісьменнікамі,
Што ты існуеш.
Я змагу тваю смерць вытрымаць
І не шкадаваць нічога.

Калі памяць будзе,
Але твайго неіснавання, прабач,
Я не вытрымаю.
Таму што, калі я існую,
Калі мяне не рыфмавалі паэты,
Я існую, таму што ты дзеля мяне існуеш;
Дакладней, я існую дзеля таго,
Каб ты дзеля мяне існаваў.

## ПАМЯЦЬ ПРА БУДУЧЫНЮ

Калі дзень падобны да дня,
І год да года,
І бяда да бяды, і вайна да вайны,
А змяняюцца толькі людзі,
У каго кепская кароткатэрміновая памяць
(Страшна, але іх неверагодна многа),
Пра будучыню памятаюць паэты й летуценнікі.
Якая будучыня была прыгожая!
Будучыня калісь была поўная мараў,
Мы абяцалі не страчваць надзею, пакуль будзем жыць,
Памятаеш, я збіралася ў цябе закахацца?
Мне цяжка паверыць, што ты забыўся.
Ад цябе не чакала такой здрады.

# Са зборніка «Pomme de ciel»

## NATURE VIVANTE

Са страхам, асцярожна й пазнавата,
Як травень месяц, цёплы ды крылаты,
Паўзе па ўсёй планеце, як змяя,
Ў таемным ценю дня,
Нягледзячы на познюю ўжо дату,
Хаваючы сябе, нібы ад ката
Ад ластаўкі, гіля ды вераб'я,
Праменьчыкам жыцця,
Пакуль сінечы неба набірае,
А зелень дрэваў шэпча маладая,
Без веры да вясны, як вецер дзьме,
Ратуючы сябе,
Малая ружа напрыканцы мая,
Самотная, прыгожая, слабая,
Са страхам, асцярожная, расце,
Няўзнакі, пакрысе.

## КВЕТКА

О вясновая кветка, першародная,
Ты нараджаешся ў сонных нашых абдымках!
Падымаецца павольна сонца,
Як адважны князь з залатым мячом.
Падымаецца...

Падымаешся ты, о кветка крыві,
Сакральная ды грэшная.
Выцягваеш мяне з туманоў кроз,
Дзе жыве забыццё.

**ПЕСНЯ ДРЭВАЎ**

Пачую калісь, як спяваюць дрэвы,
Запомняць і яны з табой спатканне.
Праз смех, праз слёзы, праз тваё каханне,
Пачую калісь, як спяваюць дрэвы.
Нясе нам вецер ласкі й абяцанні,
Тваёю ў гэтым лесе стану Евай.
Пачую калісь, як спяваюць дрэвы,
Запомняць і яны з табой спатканне.

* * *

Раней мы з табою над небам жылі,
Аблокаў не зналі з табою.
З касмічнае цемры сышлі мы, калі
Ударыў Пярун над зямлёю.

Даждджом на зямлю ўпалі колісь і мы,
Балюча й несвоечасова,
Я — сонца дачкой, сынам ты чарнаты.
Сустрэліся зноў выпадкова.

Знайшліся паловы, настане быццё,
Да пекла хай спусціцца лесвіца.
Хай будзе каханне, хай будзе жыццё,
А мо, прыгажосць не спатрэбіцца.

## НІЧОГА

Пасля цябе нічога
Не змусіць сэрца біцца так. Нікога
Не будзе, каб пісаць яму санеты,
І гэты
Мой сціплы верш узвысіцца да неба:
Так трэба.
Статуяй стану з белай солі.
Ніколі
Не ўстане над планетай болей сонца,
Не будзе зор, кахання, кветак, бога,
Не будзе больш, я паўтару бясконца,
Пасля цябе нічога.

* * *

Пакуль не пагражае нам Сатурн,
Пакуль крылаты дзень не памірае,
Пакуль навокал зелень не сухая,
Пакуль душа не знае чорных урн,

Пакуль кроў льецца нібы дождж, без болю,
Пакуль сінее вечар загарэлы,
Пакуль вясеннім мёдам тваё цела
Шчэ пахне, ды маё марскою соллю,

Пакуль святла хапае на зямлі,
Пакуль шчэ маюць сэнс пустыя словы,
Пакуль не сціхла рэха нашай мовы,
Пакуль не спім у даўнім забыцці,

Пакуль змяя не запаўзла ў наш рай,
Датуль мяне ты, вечную, кахай.

## БЫВАЙ

Бывай, о неба цёмна-залатое!
Бывай, язмін апошняй летняй ночы!
Бывайце, цнота ружы маладое,
І лістападаўска-марскія вочы!

Бывай, о мімалётная маланка!
Бывай, салодка-горкі смак жыцця!
Бывайце, рукі шчырага каханка
І мілагучны голас салаўя!

Бывай, бо сёння вернемся мы ў прах!
Бывай, бывай, бо мне даўно пара!
Бывай, мой асабісты Млечны Шлях,
Бывай, мая палярная зара.

## НЕВУЦТВА

Каб я ведала, што вясна
Працягнецца толькі хвіліну,
Каб я ведала, што рака
Замерзне ўзімку з табой,
Каб я ведала, што душа
Не вытрывае больш пакутаў,
Каб я ведала, што пчала
З пчалою — яшчэ не рой...
Я стала б ценем
Тваіх ног,
Каб ісці разам з табою,
Ценем
Тваіх думак,
Каб марыць разам з табою,
Ценем
Твайго ценю,
Каб дыхаць толькі табою,

І не замінаць ніколі
Табе, табе, табе...

## РАЗВІТАННЕ

Жахлівы ранак у магічнай прозе,
Прытульваешся ззаду непрыстойна.
Сляды супольнай жарсці спяць спакойна
Ў паветры, як на скуры й на падлозе.

Напаў на нас пах сотні хрызантэм,
Ідзём рука ў руцэ тужліва, мілы.
Зноў вецер дзьме, як чорны дым без сілы...
Як хмара ўсмешка — сёння мы памром.

І слёзы Вісла п'е на развітанне,
Якімі плача сумны наш трамвай...
А едзем мы, ды пакідаем рай:
Каменні ў небе, на зямлі — ваганні.

Бо дзіўная каханне, кажуць, з'ява.
З пяшчотай абдымае нас Варшава.

## КОЛЕРЫ ВЯНУЦЬ У ЛЕЦЕ

Вецер насіў вясны колеры,
Вецер пафарбаваў неба.
Добра дзьмуў вецер для лётчыкаў,
Ластавак чорных над глебай.

Мілы, ты — летняе сонца, мне
Побач ляцець небяспечна.
Я праз цябе ўпала зоркаю,
Толькі ў табе стала вечнай.

Хутка сцямнела нам раніцай,
Хутка мой дотык стаў пылам,

Рэха майго крыку «памятай!»
Не даравала магіла.

Хутка знямела каханне, бо
Ты незнаёмы ў тым свеце.
Вецер вясенні нам здрадзіў, так!..
Колеры тонуць у Леце.

**ТЫ СПІШ**

Дождж ліецца, плачуць салаўі,
Падхоплівае вецер шэпт бярозы.
Ты спіш, ты добранькі такі!..
Я чую, як квітнеюць туберозы.

На рукі да мяне хадзі,
Любоўю накармлю цябе сваёю.
Ты спіш, ты добранькі такі!..
Квітнеюць ружы на шчацэ крывёю.

Перажылі мы ўсе баі,
На небе загрымела зноў вайна.
Ты спіш, ты добранькі такі!..
Супроць жыцця паўстане смерць адна.

Ляжыць каханне на зямлі,
На ложку паміраюць пацалункі.
Ты спіш, ты добранькі такі!..
Я сплю, і спяць свядомасць, слёзы, думкі.

**МІХАСЮ СТРАЛЬЦОВУ**

Нябеснай калыханкай засынае
Павольна сонца між духмяных руж,
І ззяе зорка закаханых душ.
Вятрыска ў летнім садзе заціхае.

Стаіць у садзе старажытны дуб,
Паміж галінаў клетка залатая,
А ў клетцы плача птушачка начная,
Як згублены ў сумневах самагуб.

І гэта толькі ты, мая турма,
Бо жарсць твая ўзяла мяне ў палон.
Як птушка на самоце сэрца б’е.

Ты кветка дню, ты рэха салаўя,
Мая няволя — цуд мой, ды праклён,
Гучыць мой сумны голас для цябе.

## ЗОРКІ БЫЛІ СУПРАЦЬ НАС

*Да А. А.*

Ты быў маёй недасяжнаю марай,
Я — твой пякельны экстаз.
Катам ты стаў, а тваёй я ахвярай,
Зоркі былі супраць нас.

Лашчыў спіну вятрыска кахання,
Сцяг наш лунаў напаказ.
Кінула ноч карабель у блуканні,
Зоркі былі супраць нас.

Па навальніцы, пасля твайго болю,
Пасля вайны мілых фраз,
Раны нам прыйдзецца вылечыць соллю,
Зоркі былі супраць нас.

Не вінаваць сябе, мілы, не трэба!
Лёс даў суворы наказ:
Наша расстанне было воляй неба —
Зоркі былі супраць нас.

Ты ў маёй памяці будзеш заўсёды,
Джаліцьмеш сэрца штораз.
Не пераможам мы сілаў прыроды,
Зоркі былі супраць нас.

Страчаны вечна ды вечна чаканы,
Покуль не з'есць мяне Час...
Зоркі былі супраць нас, мой каханы,
Зоркі былі супраць нас.

## СНЕЖАНЬ

Прачнуўся снежань, снег не запазніўся:
Мяне віхор халодны падхапіў,
Душа ўздымаецца без успамінаў,
Я вольная — асанна на зямлі!

Снег падхапіў і грэх мой першародны,
Дзіўлюся ў захапленні, як дзіця,
Я чыстая — асанна на вышынях!
Бо снег жыве, а ты — ужо вада.

## ПАЎНОЧНЫ ВЕЦЕР

Паўночны вецер, дзьмуў ты нада мною,
Спякотны вецер, як пякельны лёд,
Маёй душы ты падарыў узлёт
Грахоўным вершам, потам ды крывёю.

Паўночны бог, магутны, злы тытан,
Грымотнага дажджу галосны крык,
Ты перамог мяне, шалёны бык,
Ты падхапіў мяне, як ураган.

Паўночны вецер, мілае стамленне,
Глухое навальніцы рэзкі шквал,
Злуюся на пагоду, сонца й ранак...

Твой шэпт прынёс і страх, і захапленне,
Як бард, пяшчотны, грубы, як вандал,
Мой вікінг, мімалётны мой каханак.

## АНТЫВОСЕНЬСКАЯ

Спачатку падмяталі лісце
З брукаванкі старога горада,
Самотнага.
Пасля старанна высушылі
Ўсе лужыны.
Потым падагрэлі зямлю
Неяк знутры,
Невядома як.
Рэпатрыявалі ластавак
І дэпартавалі першы снег,
Прыбралі хмары
І пафарбавалі ноч у светлыя колеры.
Ніколі дагэтуль і думкі не было
Пра тое,
Наколькі мяне сонца
Часам
Раздражняе.

* * *

Сустрэнемся з табою на студзеньскім світанку.
Пара: як выйдзе сонца, нас выдаліць святло...
Малююць нас узоры беласнежнага ранку,
А зямля нам рэжа ногі, нібы шкло.

Сустрэнемся мы ў ценях бязлітаснага дня.
Сустрэнемся, бо сэрца прывыкла да самоты:
Даўно ў душы замерзлі намёкі небыцця,
А ці помніш, як баяліся цямноты?

Сустрэнемся з табою, як змоўкне салавей,
З надзор'я як загляне ўніз месяц, нібы з гліны.
Сустрэнемся з табою на пяць хвілін раней,
Чым настане камендавцкая гадзіна.

## ЗАБАРОНЕНА

1. Грамадзянам забараняецца насіць кветкі.
Настойліва раіцца насіць замест іх зброю.

2. Сценам забараняецца спяваць.
Настойліва раіцца слухаць.

3. Грамадзянам забараняецца захоўваць у сябе кнігі.
Настойліва раіцца рэгулярна чысціць паліцы.

4. Мамам забараняецца спяваць калыханкі,
Настойліва раіцца поўнае маўчанне.

5. Грамадзянам забараняецца ўсміхацца
З шырынёю больш за 1,5 см у абодва бакі.

6. Зоркам забараняецца свяціць
У адлегласці менш за 157 светлавых гадоў ад закаханых паэтаў.

7. Паэтам забараняецца закохвацца.
Настойліва раіцца застрэліцца
Пасля падачы адпаведнай заявы ў цэнтральную камісію.

8. Грамадзянам забараняецца пісаць вершы,
Пры парушэнні гэтай забароны настойліва раіцца звярнуцца
Адразу да сёмага (7) пункта

Дзякуй за ўвагу.

## ІЛЬВІЦА

Па паляванні я — твая ільвіца:
Нікуды не ўцячэш, бо ты ўжо мой.
Дастаў Амур стралою залатой,
Па паляванні я — твая ільвіца.
У сэрцы быў гарачы, жорсткі бой,
Напала на цябе, як бліскавіца.
Па паляванні я — твая ільвіца:
Нікуды не ўцячэш, бо ты ўжо мой.

* * *

Каханне, дыханне, пот, трызненне, кроў,
І скуры са скурай салодкая стома,
Прызнанне, жаданне, знішчэнне Садома,
Каханне, дыханне, пот, трызненне, кроў,
Маўчанне, расстанне, апошні крык грому,
Спатканне, гучанне неакрэсленых слоў,
Каханне, дыханне, пот, трызненне, кроў,
І скуры са скурай салодкая стома.

## КОРАТКА ПРА ЛОРКУ

Далёкая Гранада — спяваў калісьці Лорка.
Паэт спіць пад зямлёю, а над Альгамбрай зоркі
Чытаюць яго вершы планетам і цямноце.
Пісаў паэт «каханне», а думаў аб самоце.

## ЧАРНАТА

Мяне ніхто не навучыў, што рабіць,
Калі гнеўныя хмары плямяць неба,
І не відаць ні зоркі, ні планеты,
А на дварэ прахалодна й самотна;
Калі дрымота поўніць галаву,
Імгла напаўняе сэрца,
І адказы змешваюцца з пытаннямі;
Калі губляецца ціхі, кволы ранак,
І паміж намі нешта адначасова
Здараецца і не здараецца.
Застаецца ўстаць з падлогі,
Сцерці з сябе старажытны пыл,
І прайсці свой шлях да канца,
Хоць павольна, хоць у цемры.

## САМАЛЁТ

*Прысвячаецца Хаяа Міядзакі*

Узляцеў папяровы, як дух, самалёт,
А насустрач яму — зарапад.
Ён — як цёмнае сонца й гарачы, як лёд,
І не будзе малочнага шляху назад!

Самалёт-летунок, такі лёгкі, як сон,
Успамінаў прымроены рой,

Гэта вечнасць хвіліны, кахання палон
І крылянне сняжынак зімой.

Зоркі-чайкі ракою да мора плывуць,
Да нябёс — чарада нерэід...
Ці глынём мы пакорна прагорклую ртуць,
Ці не ўбачыць ніколі Зямля пірамід.

**ЛАСТАЎКАМ**

Ластаўкі чорныя з берага Ніла,
Гнёзды ўяце вы ў душы.
Рунь маладая расце на магілах,
Так, у пачатку вясны.

Яблыня ўжо — не спакуса для Евы,
З вамі ляцяць туманы.
Будзіцца зелень магутнага дрэва,
Так, у пачатку вясны.

Ластаўка цемры ляціць да парога,
Ў ружах губляюцца сны.
Шчасны кот пераходзіць дарогу,
Так, у пачатку вясны.

Недзе зязюля пяе над ракою:
«Скуль вы ляціце й куды?»
Вецер задзьмуў над зямлёю сырою,
Так, у пачатку вясны.

Плачуць дзесь новым жыццём немаўляты,
Плача снягір дзесь лясны,
Дзесь падымаецца цень ваш крылаты,
Так, у пачатку вясны.

Ластаўкі летась забралі ўсе мары,
Летась чамусьці і ты

З імі зляцеў за ружовыя хмары,
Так, у пачатку вясны.

Сёння скажыце, праклятыя, злыя
Ластаўкі: па каго вы?
Ці праляціце вы з брызам, што вые
Так, у пачатку вясны?

## ІСНАВАННЕ

Калі стаю, дзе ты стаяў
Пад старажытным дрэвам,
Там, дзе паэт спазнаў святло
І яблык гожай Евы;
Дзе прагучалі ўпершыню
Ламенты і балады,
Diabulus in musica
І райская трыяда;
Дзе падаюць з нябёсаў сны
І пыл далёкіх зорак,
Там, дзе лунаюць над зямлёй
Шматмоўныя гаворкі...
Калі стаю, дзе ты стаяў,
Спыняецца дыханне:
Здаецца, помню, што ты быў,
А памяць — існаванне.

* * *

Далёкае места плавае
Ў моры цёмнага піва.
Нам — ноч,
Птушкам — ніву.

Далёкае места плавае
Ў моры замежных моў.

Нам — каханне,
Птушкам — кроў.

Далёкае места плавае
Ў моры разбітага шкла.
Птушкам — неба,
Нам — віна.

## КІХОТАВА ВІНО

Кіхот упадабаў віно,
Цяпер ён прагне сам дрымоты,
Душыць духоўны хоча боль
У келіху крыві ды поту.

Кіхотава пяе душа,
А душыць песню цёмным півам.
Ужо не бачыць Дон Кіхот
Бляск зорак над начною нівай.

Кіхот упадабаў віно,
Прыйшло пахмелле. Дульсінея
Ўцякла далёка ды даўно,
Як і Кіхотава надзея.

Кіхот не верыць у дабро.
Кіхот не верыць у цямноту.
Кіхот... Ён верыць у віно
У келіху віны й самоты.

* * *

Плыве няўзнак рака
Чырвонага віна. Віны няма.
Грымяць далёка буры,
А ты бяжыш мурашкамі па скуры.

Стаіць бетонны дом,
А ты мне снішся ціхім, шэрым сном.
Гучыць нервовы смех
І рэха стрэлу на мяжы, як грэх.
Прабач, каханы мой,
Не можна збегчы з клеткі залатой,
Бо ты, як я — слабы,
І збегчы нам ужо няма куды.
Даруй мне, мілы мой,
Цямнота авалодае табой...
Плыве няўзнак рака
Тваёй, маёй крыві. Няма віна,
А падалося мне,
Што сёння мора ўбачыла ў акне.

**ЛІСТАПАД**

Зіма, як белы павук
Заткала вокны старажытнымі ўзорамі,
Вусны крывёю ды болем,
І сэрцы абыякавым холадам.
Які люты час лістападаўскі
Для закаханых!
Жарсць ідзе спаць, і прачынаецца
Свядомая, разумная муза.
Лістападзе, ты — жнівень паэтаў!

** * **

Дождж, дождж першабытны
Ад самога пачатку часу, прасторы,
Мыслення.
Ломіцца ноч, як забытая лялька,
І дождж ідзе.
Абяцаю табе небыццё

Назаўжды. На пяць хвілін,
На дзве гадзіны, на дваццатае стагоддзе.
Мімалётная вечнасць. Дождж.
Не абяцай мне сонца,
Якога тут няма,
І святла.
Раніца. Канец часу, прасторы,
Кахання.
Яшчэ адну хвіліну...
Дождж, дождж апошні.
Быццё.

* * *

Падае чырвонае лісце
Першы раз, як быццам бы апошні.
Недапітая гарбата астывае
Ў забыцці.
Ляжыць коўдра меланхоліі
Пад нагамі тваімі,
Няўзнакі.
Восеньскі вецер нясе золата
І зламаныя крылы грэшных анёлаў
Назаўжды,
Без вяртання...
Навошта нам ведаць, колькі часу,
Калі спыніліся ўсе гадзіннікі
Раптоўна,
І пануе выразны пах голых каштанаў
Мімалётна,
І вечнае дрэва жыцця
Лашчыць хмары маёй ночы?
І лісце падае, фарбуе паветра
Сваімі малінавымі пацалункамі,
І лёгкае дыханне губляецца,

Хаваецца пад мёртвай коўдрай
Нашай.

## ГАРОДНЯ

Да зямлі зноў вярнуся, дзе Нёман плыве,
Выпадкова на вуліцы ўбачу цябе.
Ты мне ў вочы паглядзіш, быццам першы раз,
І забудзем прастору, забудзем і час,
Выхаванне, каханне, свядомасць, быццё:
Да цябе я вярнуся; са мной — забыццё.
У шчаку пацалуеш на беразе раю,
Пакаштую цябе, яблык твой пакусаю.
Ты захопішся мной, як Адам захапіўся,
І мы там саграшым, дзе Хрыстос прызямліўся.

## БЕЛАРУСЬ СПІЦЬ

Беларусь спіць пад цёплай, шэрай коўдрай,
І не можа пазбавіцца кашмараў.
Баіцца зваліцца з ложка,
Амаль не рухаецца.
Я хачу спяваць ёй калыханку,
І пацалаваць на ноч.
Спі ціха, спакойна, мая дзяўчынка,
Прачынайся ранкам, з новым днём,
Калі сонца знішчыць цемру
Мячом святла,
Калі прыйдзе вясна ў каляровай сукенцы,
Спі спакойна й прачынайся ў той час,
Калі спакою будзе недастаткова.

## ДЗВЕРЫ ЗАЧЫНЯЮЦЦА

Паветра цяжэйшае на пустым месцы,
Дзе колісь ляжалі ружы
У памяць аб тых, хто сышоў
На пустым месцы.
Кветкі ніколі не павінны ляжаць
Пад зямлёю,
Без святла, без будучыні,
Паміраючы заўчасна,
Нашмат раней, чым настане
Апошні ўздых.
Асцярожна! Дзверы зачыняюцца назаўжды.
Тых, хто застаўся...
Разам з сухімі пялёсткамі падхопіць вецер,
Якога няма пад зямлёю,
Бо паветра цяжкім зрабілася.

## БЕЛАРУСКАЯ МЯЖА

I

Памежнік упусціў мяне без праблем,
Мяне і — за мною — агромістую валізу,
Нягледзячы на тое, што там была схаваная
Большая за норму колькасць надзеі,
Добрых пачуццяў і жаданняў,
Вершаў на роднай мове
(На няроднай так не ўмею),
Пытанняў і адказаў,
Каляровых успамінаў,
Постмадэрнісцкіх думак,
Паўднёвага тэмпераменту,
І старадаўніх сакрэтаў.
Памежнік упусціў мяне з усмешкай,
Магчыма й менавіта таму.

II

Здавалася б, нічога не змянілася,
Каб праспаць кантроль і не ведаць,
Што Беласток, што Гародня,
Што неба, што зямля,
Што бульба, што яблык
На тэрыторыі без уладара,
Дзе пачынаецца магія,
І здараюцца цуды
(Над)звычайнага быцця.

III

Кажуць мудрыя людзі,
Што калі падчас падарожжа,
Чалавек нешта забыў, згубіў,
Дык атрымае з той вандроўкі
Штосьці нашмат істотнейшае.
У Беларусі засталася частка маёй душы
(Яна праз мяжу не прайшла).

## МОВЕ

Мая ты сірата, гаворыш ганарліва,
Што зноўку кветкі народзіць табе ніва.

Пакрыўджанай жывеш уласнымі дзяцьмі,
А ўсё ж твой шэпт нам сніцца: ўставай, далей ідзі.

Баліш ты мне, душа, як родны джаліш край,
Тваю тугу я бачу, я чую твой адчай.

Твой дух жалобна плача, твой крык паветра рэжа,
Апошняю ты ўпала з Вавілонскае вежы...

Табою гучыць сонца, табою гучыць неба,
Табою гучаць спевы, што пяе ўлетку глеба,

Табою робіць цуды дзівосны чарадзей,
Табою свае песні ўе мілы салавей,

Табою пакутую, табою я чакаю,
З табою народ дойдзе да страчанага раю.

Табою гучыць рэха далёкага кахання...
Не будзеш ты праклятай на вечнае маўчанне!

# Са зборніка «Бяскрылле ў вялікім горадзе»

* * *

Не плачу, не сумую, не шкадую,
Што трохі пахадзіла па зямлі,
Бо ты мяне кахаў яшчэ жывую,
Бо мы з табой, хоць коратка, былі.

На гэтым свеце шмат упадабала:
Паветра, мора, сонца, снег, сяброў,
І смех, якога нам заўжды замала,
І вечна-мімалётную любоў.

Каханне палюбіла, пацалункі,
І вечар, як спявае салавей,
І словы, песні, танцы, мары, думкі,
І позіркі гарэзлівых вачэй.

А сёння ўжо час — дадому трэба.
Усё, што мела, я бяру з сабой.
Не плач па мне: глядзі яшчэ на неба,
Далей за небасхіл, над галавой...

Там зоркі, што лунаюць над планетай,
Раскрыюць цалкам праўду пра мяне:
Як давялося жыць — дык жыць паэтам.
А дыхаць і пісаць — як вецер дзьме.

## МАЯК

Здараецца, што небасхіл і мора,
Павольна блякнуць, не відаць нічога,
Між хвалямі губляецца дарога,
І цемры больш над намі, чым учора.

Знікаюць успаміны, час, прастора,
З’ядае лодку ціхая знямога,
Плыве пад сцягам ісціны трывога,
І тоне чалавек самотны з гора.

Калі сыходзяць сілы ўсе няўзнак,
Калі святла вакол цябе нябачна,
Калі чакаеш з неба божы знак,

А стома не дае заснуць ніяк,
І бездань на цябе глядзіць двухзначна,
Не забывай: на свеце ты маяк.

## БЯСКРЫЛЛЕ

Ляціць! Снег ляціць над планетай,
І ззяе агонь небасхілу,
Сняжынкі лятуць, як каметы
Малітваў ды зорнага пылу.

Палярнае ззянне сусветаў,
Тут блякне святло, як чарніла.
Здаецца, я стану паэтам:
Са спіны растуць у мяне крылы.

Займаюцца хмары каханнем,
Пяшчота ляціць над зямлёю.
Павольна квітнее міргане
Ружова-блакітнай крывёю.

Вось ноч нараджае світанне!
Вось смерць нараджаецца з гною!
Чуваць адно зорак дыханне,
Вось цемра ляціць нада мною.

П'янею святлом, і чакаю:
Стаю над касмічнай дарогай.
Так ясна, так блізка да раю,
Дрыжаць мае крылы ды ногі.

Ляціць! Снег ляціць, забываю,
Навошта бяссілле, знямога,
Бяскрылле пад ценем адчаю...
Як скочу — спытаюся ў Бога.

## IN MEMORIAM

Жывеш цяпер у цёмным доме,
І ходзіш ты разбітым шклом:
Аддаўся роспачы і стоме,
Як цемры й цішы цэлы дом.

З вайны вярнуцца немагчыма,
І з некаторых гарадоў...
Глядзіць дзіцячымі вачыма
Сляпая, жорсткая любоў.

## МАНІФЕСТ

*Прысвячаецца ўсім, хто калісьці думаў пра сябе,*
*што не варты кахання*

О, як жа я люблю жывых людзей:
Жывых, сапраўдных, сумных, лёсам бітых!
Той, хто пазнаў пакуты, той мацней
Ацэніць і палюбіць dolce vita!

Люблю недасканалых і зямных!
Прабачце, ідэалаў мне не трэба,
Люблю душэўны абсалютны слых,
Не пакахаю чалавека з неба!

Люблю я тых, хто ведае бяду,
Не трэба мне пустых, як з фільмаў, фразаў.
Хачу быць пэўнай: калі я ўпаду,
Падымемся з зямлі мы зноўку разам!

## ЛІРА-ПАРАДОКС

Мне сніўся верш учора...
І больш за тое — цэлая падборка,
Там ціхім стала мора,
А развітанне — горкім,
І мігацела да світання зорка.

Там я была паэткай.
Твой вобраз за метафарамі тонкі...
Былі сухія кветкі
І жоўтыя старонкі.
Мне сніўся верш, і сніўся неўзаметкі.

Мне сніліся мы самі,
Мне сніліся заўчасная размова
І холад паміж намі,
І памірала слова
На вуснах, пацалункам між радкамі.

На крылах, над зямлёю,
Мне снілася каханне, што з санетаў:
На небе мы з табою
Ляцелі, як каметы,
Пад намі — паралельныя сусветы.

## САМОТА

*Максіму Багдановічу*

Толькі ў самоце
(У светлай самоце),
Чалавек можа
Адчуць свабоду.
Толькі самотны,
Адзін адзінотны
Знае надзор'я
Прыроду.
Толькі крылатай
Душой будзеш вечным
Толькі дзіцячым,
Але мудрым вокам.
Толькі забытай
Сярэбранай песняй,
Станеш адзінай
Самотнай
Істотай.

## ЗАКАХАЦЦА

Я хачу закахацца ў цябе безадказна,
Пазіраць на цябе, хоць употай, здалёку,
І згараць ад любові ўнутры невыказнай,
І ўздыхаць безнадзейна, цярпець адзінока,

Абы цешыцца поглядам, жэстам ці марай,
І каб кожнае слова ўздымала да неба,
Не пакіну я ў сэрцы балючага шнара:
Я хачу закахацца, мне болей не трэба,

І кахаць без кахання, а значыць, без веры,
І стаяць на каленях — маліцца, як Богу,

І пісаць, што кахаю, адно на паперы
Існаваць для цябе, не чакаць больш нічога.

## КАВЯРНЯ «ЧАС». МЕНЮ

— Пацалунак — пяць секунд
— Абдымкі — дзесяць секунд
— Сяброўства — адзін месяц (30,5 сутак)
— Каханне — адзін год (365 сутак)
— Памяць — два гады (730 сутак)
— «Назаўжды» (паводле галівудскага рэцэпта) —
чатыры гады (1461 суткі)
— Павага — адно чалавечае жыццё (76 гадоў)
— Душа — у залежнасці ад сезона, просім спытацца
ў касе.
— Разуменне — скончылася. Атрымаем на працягу
наступнага тыдня.

## ПТУШКА

Была дзяўчынкай, склаўся так мой шлях:
Схадзілі ў заапарк дзіцячай мары,
Паказвалі жывёлак, тыя ж чары...
Сядзеў у клетцы велічэзны птах.

Нязграбны: выклікаў і смех, і страх.
Каб зналі, дзеці, долю той пачвары!
Апошні ён у нас, жыве без пары,
І від яго ўмірае на вачах.

Таксама я каторы год на свеце
Жыву, як тая птушка, на самоце.
Хоць цалкам не здалася шчэ нудоце,

Баюся летуценняў аб пяшчоце;
Я ведаю, дый напішу ў санеце:
Няма другой такое на планеце.

## 10 РЭЧАЎ, ЯКІЯ Я ЛЮБЛЮ

*Верш-спіс*

1. Першы снег зімы.

2. Марскі небасхіл падчас захаду сонца.

3. Імгненне, калі вось-вось толькі прайшоў невыносны боль.

4. Голая хвіліна перад сном у абдымках каханага.

5. Цёмны шакалад.

6. Амальгама гукаў у паветры музычнай школы.

7. Несвоечасовыя кветкі (жывыя).

8. Унутраная свабода.

9. Чалавечае сяброўства.

10. Маленькія, сціплыя, штодзённыя цуды.

## 10 РЭЧАЎ, ЯКІЯ МНЕ НЕ ПАДАБАЮЦЦА

*Верш-спіс II*

1. Слёзы з бабуліных вачэй.

2. Позіркі спачування. Позіркі неразумення.
Позіркі, якія старанна шукаюць у табе хібу.

3. Калі трэба ўставаць вельмі рана, і на вуліцы дождж
і мароз, і ложак такі цёплы і прыемны, і яшчэ ты
застудзіўся.

4. Стэрэатыпы.

5. Халодная абыякавасць да іншых людзей.

6. Калі нехта іншы з'еў той апошні кавалачак торта з лядоўні, які ты хацеў з'есці ўвечары.

7. Калі губляецца шанец на шчасце праз чысты страх.

8. Заўчасная смерць добрых людзей, з эгаістычнага пункту гледжання.

9. Бяссілле.

10. Бяскрылле.

**CANTUS I**

Ты існуеш пад коўдрай залатой восені
І ў сняжынках першага снегу,
Існуеш у вясёлцы над шэрым горадам,
За хмарамі высокага неба.
Ты існуеш у першай кветцы вясны,
У промнях сонца мінулага лета,
У канстэлацыях і на крылах знічак,
Існуеш у цёплым паветры, у лёгкіх,
І жывеш унутры майго сэрца.
Пачынаецца год:
Пачынаецца год без цябе.
Ты існуеш у разбітым шкле,
У парваных гірляндах,
У раскіданых недакурках і канфеці.
Няма ў маім свеце нічога,
У чым не існуеш ты,
А затое я адна.
Можа быць, у наступным жыцці,
Заіснуеш у маіх абдымках.

## РАЗМОВА

Ты казаў: нам пара дарасці, стаць дарослымі трэба.
Я табе: паглядзі на блакітнасць бязмежнага неба.

Ты казаў: ужо позна, наперадзе адчай ды змаганне.
Я табе: вось квітнее, як ружа, святло прадкахання.

Ты казаў: гэты свет — гэта холад, бяссілле, труна.
Я табе: пасля вечнай зімы прыйдзе зноўку вясна.

Ты казаў: нас даўно загубіў першародны наш грэх.
Я табе: калі ўпалі з табой, дык як знічкі, як снег.

Ты казаў: толькі розум і боль на зямлі нас трымаюць.
Я табе: чую столькі любові, зірні, я ўзлятаю!

Ты казаў: не сыходзь, не ўзлятай, заставайся зямною.
Я табе: ты не бойся ляцець, заставайся са мною.

## ЭЛЕГІЯ

Салавей між лістотай і плача, і спявае,
А воўк з'ядае вечар і плача, і спявае,
І ластаўка на небе і плача, і спявае,
Нясе тваю душу да новае вясны.

Ты паўсюдны, ты вечны, а цябе не хапае,
Ты ў часе і ў прасторы, а цябе не хапае,
Ты ў смерці і ў жыцці, а цябе не хапае,
Спявае ноч і плача пад бязмежным надзор'ем.

Світанне не прыходзіць. Ты пад коўдраю зорак
Халодных спіш. А ціша пануе над зямлёю,
Планета над табою і плача, і спявае,
Я не магу паверыць, што цябе не пабачу.

Нашто тады мне вочы? Я цябе не пабачу.
Нашто тады мне вушы? Я цябе не пачую.

Нашто тады мне вусны,  рукі, ногі і сэрца?
А дух мой першабытны і плача, і спявае.

Хацела б дакрануцца, хоць пальцам на секунду,
Пакінуць на секунду крыж сваіх успамінаў,
Што разрывае скуру да гарачай крыві...
Падняць, хоць на секунду, той крыж тваіх абдымкаў.

Салавей між лістотай і плача і спявае,
А песня ўжо не тая, бо цябе не хапае,
І зоркі ўжо не тыя, і пакуты не тыя,
А я ўзлятаю ціха над цёмным небасхілам.

Спявае неба й плача — цябе няма са мною,
Сціх даўно мой голас, і скончыліся слёзы,
Нашто тады сусвет? Без цябе ён пусты,
Чарната залюляе, і сплю заўжды без сноў.

## СТРАХ

Баюся вымаўляць загучна словы:
Скажу — і разаб'юцца з цішынёю.
Таму без маскі мне няроднай мовы
Баюся быць сабою.

Як узлятаюць з вуснаў! Смех, любоў,
Пяшчота, шчасце, доля ды спакой.
Баюся дакрануцца я да слоў:
То бурбалкі, што лопнуць над зямлёй.

Баюся й напісаць тваё імя,
Бо застанешся рэхам мімалётным.
Маўчы, мой любы! Раптам знікну я...
Як будзеш жыць нямым, глухім, самотным?

Баюся вымаўляць загучна словы,
Абы не знішчыць — не скажу я ўголас.

Што сказ — то самалёцік папяровы,
І кожны верш, як колас.

## ПАКАХАЦЬ

У жыцці зазнала нямала:
Знаю радасць, адчай і тугу,
Але ты не прасі, каб кахала,
Развучылася я, не магу.

Аддалася з дзіцячаю верай,
Не таму, не тады, а дарма:
Засталіся радкі на паперы,
А каханне ўнутры больш няма.

Абяцаю быць добрай і мілай,
Будзе сціплай і ціхай любоў
Майго сэрца: даўно няма сілаў
Пакахаць па-сапраўднаму зноў.

Падару, калі хочаш, пяшчоту,
Ноччу — жарсць і гарэзлівы рай.
Цеплыня забівае самоту,
Пакахаць не змагу — забывай.

## СМЕЦЦЕ

Кнігі?
Жывыя дрэвы:
Ахвяра
Літаратурным багам,
Графаманскім чарцям.

Ружы?
Пустое поле:

Смецце — важная справа,
Як і вясна.

Зоркі?
Халоднае святло.
Словы на мовах
Далёкіх іншасветаў.

Ты?
Невыразны ўспамін
У галаве, якая поўная
Ластавак і пчол.

Ты?
Мёртвае сэрца
За ўсмешкай, якая
Да вачэй не дацягвае.

Ты?
Кніга, ружа, зорка,
Жыццё і смерць.
Мімалётнасць неба.

А я?

* * *

Я жыву ва ўспамінах аб ціхіх тваіх пацалунках,
У халодным ложку жыву і ў начной глухаце,
Я жыву ўнутры кніг: у забытых старонках і думках,
У паветры і ў бруднай зямлі; і паўсюль, і нідзе.

Я за морам жыву, за лясамі й гарамі, далёка,
Я жыву за надзор’ем, у цемры, жыву ў забыцці,
Я на крылах жыву, і ў самоце лячу я высока,
Я жыву, не жыву, ды стамляюся ў гэтым жыцці.

Буду жыць, як паклічаш, з табою на гэтай планеце,
Адно слова тваё, хоць адно — нараджуся я зноў,
Хачу жыць, прызнаюся я шэптам табе, на тым свеце,
Дзе жыве маладая, святая, зямная любоў.

## АД НЕКАХАНАЙ

Глядзіш за мной, далей, бы цераз мёртвую карціну,
Інакш цалуюць вусны, кліча голас, ззяюць вочы.
Затое я фантазія далёкага ўспаміну,
І цёплая ў сівыя ночы.

Не здолею ніколі заслужыць твайго кахання,
Ты мог бы зненавідзець, палюбіць мяне любую,
Я здань, балючы вобраз, цень яе, адлюстраванне...
Але, прынамсі, я існую.

Я знаю: пераглядваеш яе старыя здымкі,
І я цябе глыбока ў сэрцы не задавальняю,
А не сыходзіць: дазволіш, паляжу яшчэ ў абдымках?
Не пакідай мяне без раю.

## СІЛА

Табою кіруе віна,
А мною кіруе самота,
І ціха ляцім над зямлёй
Чырвонаю, мёртвай лістотай.

Табою кіруе вясна,
А мною кіруюць сакрэты,
Ляцім мы з табой над вадой,
Далёка, як сны, як каметы.

Табою кіруе віно,
А мною кіруе ўспамін,

Ляцім так высока! Хачу
Застацца адзін на адзін,

Бо намі кіруе Любоў.
Любоў — найвышэйшая сіла.
Змірыцца не можа душа:
Няўжо назаўсёды згубіла?

* * *

Сон.
Восень
Спусціцца
Па лесвіцы.
Я схаваюся
Ад прасторы й часу,
Ад цэлага сусвету
Пад залатою коўдраю
Нашага халоднага ложка.
Ніхто на зямлі не заўважае,
Наколькі зіма будзе лютай,
Наколькі наш горад шэры,
Наколькі не хапае
Чыстага паветра.
Я засынаю,
А ў абдымках
Знікаеш
Ціха
Ты.

## КАРТА

Выберы карту,
Любую карту,
Якую хочаш, тую й бяры,

Яна нам скажа
Пра падарожжы,
Пра мора й сонца
Пра ліхтары,
Святло якіх
Твой шлях пакажа.
Выберы карту,
Бяры жыццё,
Яна нам скажа
Пра ўчора й заўтра,
І пра ўспаміны,
Пра забыццё.
Выберы карту,
Будзе каханне,
Будзе замежжа,
І новы дзень,
Будзе радзіма,
Будзе вяртанне
І ветру песня,
І дрэваў цень.

* * *

З майго пустаслоўя
Расце, расце
Паўверш, паўхлусня
Табе, табе.
Калі заквітнее,
Тады, тады
Сустрэнемся зноўку
Я, сэрца й ты.
А калі ўзляцела
Душа, душа,
І ўжо паміpае
Зямля, зямля
Тады бяры кнігу

Чытай, чытай,
Зрабі з пустаслоўя
Рай.

## ШЛЯХ

Не маўчы, не сумуй:
Крычы,
Не хавайся, не плач:
Крычы,
Не сыходзь, не спыняйся і не забывайся:
Крычы, крычы, крычы!
Не здавайся, не спі:
Ідзі,
Не бяжы, але ўсё ж:
Ідзі,
І не бойся ніколі, і не кінь свой шлях, проста
Ідзі, ідзі, ідзі.

## ПЫТАННІ

Скажы, Сізіф, ці пабачымся,
Калі вызвалішся на працы?

Скажы, Бетховен, ці чуеш
Пульс шалёных сэрцаў?

Скажы, Фрэйд, ці дазволіш мне
Думаць унутры тваёй галавы?

Скажы, Сапфо, ці маеш
Якія планы пасля ўрокаў?

Скажы, чытач, ці засталіся
У цябе пытанні?

## МАРСКІЯ ЎСПАМІНЫ

Калі месяц купаецца ў моры,
І вада пранікае ў святло,
Калі хвалі хаваюцца ў цемры,
І спяваюць русалкі без слоў,

Калі вецер нясе твае мроі,
Калі рыба гаворыць са мной,
Калі лета ляціць і знікае,
Калі хмараў сярэбраны рой,

Тады бачу ў снах тое, як разам
Мы хадзілі: той час залаты.
Як кахаліся месяц і мора!
Як з табою кахаліся мы!

## ПЕРШЫ СНЕГ

Занятае сэрца блакітнай журбою,
З’ядае мяне першабытны ўраган.
Ужо не жыву без цябе, ні з табою,
Цалуе мне вочы халодны туман.

Занятыя вусны чужым пацалункам,
Лятуць легкакрылыя словы, лісты,
Дала я свабоду і марам, і думкам:
Лятуць, быццам ластаўкі злой глухаты.

Занятыя рукі прыглушанай зоркай,
Маўчанне над намі лунае, як грэх,
Няўзнак чырванее святло адвячорка,
І падае ціха сярэбраны снег.

## ВАЛЬС (3/4)

Вальс гучыць, ляцяць сукенкі,
Ноч цячэ, цячэ й віно,
Мне чыталі ўжо Бадлера
І Рэмбо.

Вальс гучыць, знікаюць ружы,
І ляцяць чароды слоў,
Ці пазналі, jasna Panno,
Вы любоў?

Вальс гучыць, глядзяць музыкі
На жанчын і на дзяўчат,
Вунь скрыпач смычок трымае,
Нібы кат.

Вальс гучыць, цябе шукаю,
Але труць у галаў б’е.
Ты сядзіш. Няўжо не бачыш
Тут мяне?

Вальс гучыць. Давай, танцуйма!
Абдымі, як першы раз.
Мы адны: хай будуць слёзы
І экстаз.

## НА РУКАХ

Які ж ты жорсткі! Ты быў зацвярдзелым,
Ты знаў сто тыпаў болю,
Гвалтоўнасць, катаванне,
Гільяціны, расстрэлы...
Але не ведаў волі,
(А каханне?)
Размаўляў на мёртвых мовах,
А я б не выжыла ў такіх умовах...

Бо на любоўных войнах, як заўжды,
Хто я? Ахвяра.
А ты...
Ваенны ты карэспандэнт,
І ведаеш, агонь з'ядае мары,
Песні, словы,
Таму ты быў гатовы
Разбіць мне сэрца ўшчэнт,
Каб ратаваць... А ты быў жорсткім, злым,
Я думала, яшчэ працуюць крылы,
Ты станеш лёгкім, мілым,
Але, відаць, ты быў заўжды не тым:
Ты быў праклёнам, плачам, катастрофай,
А ў сэрцы ты хаваў маю Галгофу.
Любоў мной панавала
(А гэтага замала),
Табою — толькі страх,
Як я цябе кахала!
І я ў цябе памерла на руках.

## ВОСЕНЬ, ДОЖДЖ, ВЕЧАР

Восень, дождж, вечар. Помніш спатканне?
Падалі зоркі з неба, як снег.
Дотыкі, ласкі, стогны, дыханне,
Дрыжыкі, шэпты, срэбраны грэх.

Помніш той вечар? Ціха дзьмуў вецер,
Вецер нёс рэха ста галасоў,
Мы засталіся самі на свеце:
Мы з табой, ложак, холад, любоў,

Помню твой водар сярод лістоты
Восеньскай коўдры, дым залаты,
Смех і сумневы, сум і пяшчоту.
Сэрца, прызнайся: помніш і ты?

Помніш той вечар? Думаю часам,
Не пакідае даўні ўспамін:
Вечнымі сталі, вечнымі разам,
Цэлая вечнасць — дзесяць хвілін.

Вецер падняўся — з горыччу вые,
Чуеш? То рэха песні дажджу.
Ноч пра нас помніць, мы шчэ жывыя,
Я не забуду, я не хачу.

**ПЕКЛА**

Па мяне,
Па мяне ты спусціўся
З бяззорнага неба,
Забыўся
На тое,
Што гэта
Табе ўжо не трэба,
Спусціўся,
Як лісце, няўзнак, залатое,
Бо мара паэта:
Знайсці
Маладую каханку,
Сказаў мне ісці,
Ды стаяў гераічна на ганку...
Па мяне,
Праз ваду, праз агонь,
Быццам ластаўка ці салавей,
Дакранулася зноўку далонь
Да цябе,
О сучасны Арфей!
Па мяне ты прыйшоў, па мяне.
Я пайшла,
Я пайшла за табой,
Залатою стралой,

А цяпер...
А цяпер не паглядзіш назад,
І сышоў лістапад,
Я на свеце адна
А мяжу ўжо прасекла,
І мяркую, што варта было
Заставацца
У пекле.

**ІМЯ (МАЛІТВА)**

Імя тваё — старажытная песня,
Палымяны танец халоднай зброі,
Усім вядомай праўды крыві ды гною,
Якую абаранілі праклятыя паэты.
Імя тваё губляецца ў вадзе Леты,
Праўда твая горка расце ў роце
Белаю малітвай забытым багам:
Роспачы, Гневу, Пяшчоце.
Імя тваё — камень, самабытны, першы,
У найстарэйшым Слове, і ў Кнізе, і ў вершах,
У доўгіх маналогах старагрэцкіх акцёраў,
Імя тваё — мілагучная ода
Недасяжнаму мору
І марознай дрыгоце,
Часу, Прасторы, Самоце,
І далёкай пустыні, і глыбокай рацэ.
Тваё цела — статуя сакральнай дасканаласці:
Даруй маёй бязбожнай, апаганьваючай руцэ.

**НЕБАСХІЛ**

Паглядзела ўгару: небасхіл на світанні, як сон,
Пелі дзесь салавей з жаўруком ідэальна, унісон,
Было позна й зарана: нікому не бачна мяне,

А паўсюль было ясна чуваць — адзінота пяе.
Але ў спевах касмічнай самоты гучала любоў:
І прачнулася ў целе раптоўна гарачая кроў.
Падымаліся ногі павольна, няўзнак, над зямлёй:
Мае крылы жадаюць прыгод, без цябе ці з табой.
Паляцела да неба высока, так лёгка, як пыл,
Нада мною лунала надзор'е; ля ног — небасхіл,
І развеяўся ціха туман мімалётных начэй,
Нарадзілася раптам святло — і замоўк салавей.
Нарадзіўся сусвет, нарадзілася зноўку сама:
І было відавочна — сыходзіць без словаў зіма,
Дачакалася промняў забытых надзей залатых,
Можа быць, нездарма засталася на свеце жывых.

**ПОЗІРКІ**

Ранак. Горад сівее.
Лёгкім ходам, мастацкім,
З вечнай, шчырай усмешкай
Па зямлі йдзе дзівачка,

З мілай песняй на вуснах,
Што без слоў падпявае.
Хай паўсюдна ёй добра,
А заўсёды чужая.

Без схаваных намераў,
Як сучасны Кіхот,
Вось бяжыць на спатканне:
Назірае народ.

Кажуць, з'ехала з глузду,
Розуму не хапае,
Можа быць, калі-небудзь...
Дзеўка шчэ маладая!

Але гэта няпраўда:
Разумее, вядома,
Стрымліваецца толькі,
То праз такт, то праз стому.

Адчувае ўсе вочы,
І старых, і малых,
Ёй усё зразумела:
Людзі глядзяць на іх.

Позіркі, можа, здзіву,
Можа, неразумення,
Позіркі нават страху,
Позіркі абурэння.

Позіркі, як прамені
Крыўды й расчаравання,
Позіркі ціхай злосці,
Позіркі шкадавання.

А яна ўсё ж з усмешкай,
Гэта ў іх, як у казцы:
Хай пабачаць хоць раз
Чалавечае шчасце.

## АПОШНІ ПАЛЁТ

І мне сёння нарэшце пара: да сваіх узлятаю,
Пасля доўгіх гадоў летуценняў, пакутаў, чакання,
Бо на гэтым жа свеце нішто ўжо мяне не трымае:
Што ж мне тут хараство, асалода ды нават каханне?

Знаю месца: высока, там горад, быццам на далоні,
А паветра там ласкавым робіцца ноччу, як сон.
Вы не бойцеся: я знікну хуценька вунь з падваконня,
А душа паляціць да нябёсаў святым дзьмухаўцом.

Застануся і ў вершах, і ў песнях, мабыць, ва ўспамінах,
Была з вамі шчаслівай, сябры, дый таму не памру.
Абяцаю: на горкія слёзы не будзе прычынаў,
Вольнакрылаю птушкаю зноўку ўзлятаю ўгару.

Мая радасць, ты знай, за мяне хваляваюца не трэба:
Стане сумна — шукай мяне ў зорках, у кожнай планеце,
Заўтра будуць з табою і сонца, і мора, і неба,
Заўжды помні: з табой мне было нават добра на свеце.

* * *

Хачу я зноў палашчыць твае рукі,
Згубіцца ў іншасвеце тваіх думак,
Я знаю: нам жыццё нанова верне
Святы, пяшчотны, ціхі пацалунак.

Крылаты ты, з лятучаю душою,
Я стала вальнакрылаю паэткай,
Мяркую, нас падхопіць добры вецер
І на зямлю вяртацца будзем зрэдку.

Жывыя мы! Жывыя, як у сне!
Мая ты кроза, мара, летуценне,
Мы паляцім далей за прадкаханне
І новае адкрыем вымярэнне.

Твой успамін — святло над акіянам,
З табой пазнала вырай, быццам птушка.
Адзін твой дотык — болей не баюся
Халоднае самоты пад падушкай.

Таму хачу палашчыць твае рукі,
Як перад алтаром цалаваць ногі,
Табою запаўняцца на каленах,
У захапленні, быццам перад Богам.

## ЦУД

> Il me semble que la misire serait moins pénible au soleil.
>
> *C. Aznavour*

Бывае часам, спяваюць і сцены
Для самых недаверлівых вушэй:
У хаце закаханыя сірэны,
У горадзе гукае салавей.

Душа сама паўсюль свой цуд шукае,
Але душы пярэчыць галава...
Перазімуе ружа маладая,
І з-пад асфальту вырасце трава.

О лістапад, зялёнае каханне!
О залаты, о восеньскі настрой!
Народзімся пасля гадоў чакання
На гэтым свеце, сонца, мы з табой!

## ПАМЯЦЬ

Чуеш, як зязюля гукае здалёку?
У лесе яе рэха з'ядае цішыню.
Паглядзі: апошні захад сонца,
Дый няхай зоркі сёння не выйдуць.
А на світанку няхай ніхто не загаворыць:
На світанку не стане слоў.
Маўчы, маўчы!
На світанку не стане часу.
На світанку ночператворыцца
У даўжэйшую, страшнейшую ноч,
Без сноў і коўдры.
На світанку згубяцца самыя яркія адценні неба,
І сухія кветкі мінулай вясны,
І залатое лісце нашай восені
Больш не будзе шэптам гаварыць пра чалавечую любоў.

Заўтра застануцца толькі адарваныя чырвоныя ніткі,
Шэрыя хмары ды вільготная зямля.
Не слухай зязюлі, не слухай, засынай,
Паглядзі яшчэ раз на сонца, трымай маю руку,
Пакуль яшчэ можаш...
Не забудзь.

**КРЭДА**

Чалавечая праблема чалавеку не чужая
Ды няхай і вы мне скажаце: паэтка, гэта спрэчна.
Чалавечая нядоля, сум любы, бяда любая,
І толькі ў спачуванні чалавечым буду вечнай.

* * *

Яшчэ веру, кахаю, чакаю,
Ува мне не памерла надзея,
Прадчуваю, што вернешся з раю,
Як водар лілеяў,
Як толькі світае.

Калі горад сівее зімою
Брудна-шэрым, учорашнім снегам,
Мы ляцім, мы ўцякаем з табою,
Як птушкі адлегі,
Як вецер, як мроі...

Быццам сціхлыя, белыя зоркі,
Быццам чырвань таго небасхілу,
Пацалункам зямель адвячоркам,
Кахаемся, мілы,
Салодка ды горка.

А я веру яшчэ, я чакаю:
Станеш небам, я стану зямлёю,

Будзем жыць, быццам пена марская,
Каханы, з табою
На беразе раю.

## АПОШНЯЯ МАЛІТВА

Апошняя малітва —
Размова са сцяною:
Пачнуцца дні крыві
І гною.

Пасля чырвонай дамы
Ёсць драмы,

Па забыцці кахання —
Вяртанне,

Па холадзе начэй —
Алей,

Пасля віна віны
Ёсць ты,

Пасля мёртвага збожжа,
О Божа:

Апошняя малітва...

## ЗДРАДА

*Квадэрна вія*

Прачнуўся позна ранак са смакам чорнай кавы,
Прачнуўся пацалунак непазбежнай аблавай,
Лістападаўскі позірк, знаёмы твар, а смех,
Нібы касцельны звон, што пяе пра твой грэх.

Хай адчыняцца дзверы, хай заплача зямля,
Няхай у рай патрапіць зялёная змяя,
Хай выключаць і месяц, і зоркі залатыя,
Няхай натоўп пачуе: над намі вецер вые,

Рагоча бліскавіца, а пекла растае,
Нічога не паробіш, апынуўся на дне:
Цяпер для нас «каханне» — амонім слова «здрада»
Й плыве хлусня да вуснаў, як Уліс да Элады.

## РЫГОРУ БАРАДУЛІНУ

На кветкі вучням грошай не стае:
Апошнімі рублямі на Нямігу
Схадзілі і купілі тваю кнігу:
Услых чытаюць — чуеш? — на рацэ.

Вада нясе па горадзе твой голас,
А Слова падымаецца да неба,
І Словам абяцае дзецям хлеба
Тваім магутны, гожы жытні колас.

Ты вечным стаў, як летняе паветра,
Жыць будзеш у дзіцячай нашай мары,
І будзеш, родны Дзядзька, жыць у сне.

Хай праспяваюць дрэвы, лісце ў ветры,
Хай праспяваюць зоркі, вечар, хмары,
Што смерці мы не аддамо цябе.

## ГАНЧАР

Таямнічы ганчар
Стварыў перада мной
Твой загарэлы твар
З найлепшай сваёй гліны.

Каханне, забыццё,
Ганчар сваёй рукой
Малюе нам жыццё
Хвіліну за хвілінай.

І зоркі з гліны з небам,
З салёнай гліны мора,
Трава, рака ды глеба,
І мары, і ўспаміны,

Без цябе, як без хлеба,
А ці не толькі ўчора
Стварыў стары ганчар
Каханне, мары, неба,
Хвіліны, зоркі, мора
І твой твар?

**Я ХАЧУ...**

Я хачу быць дажджом, што прамочыць да ніткі,
Хачу быць першай кветкаю зімы,
Няхай і буду толькі кахання перажыткам,
Хай буду толькі следам на зямлі,
Ці хмараю на небе, нібы па навальніцы,
Альбо вясёлкай стану над табой,
Хачу быць першай кропляй вясенняе крыніцы,
І піць твой мёд, нібы галодны рой.
Хай буду толькі ценем, хай буду толькі крозай,
Хай буду ўзорам на тваім акне,
Няхай маю душу размалююць марозы,
Але дай хоць убачыць шчэ цябе!

## ТОСТ

Падымаю свой келіх за кветкі,
Што ў марозе растуць з-пад бетону.
І жадаю ўсім цёплага дожджыку,
Сілаў і плёну.

Падымаю свой келіх за птушак,
Што дасюль не баяцца зімы.
Каб крылатым было на радзіме
Утульна заўжды!

Падымаю свой келіх за музаў,
За ўсіх вольных, вар'ятаў, паэтаў,
За надзею ў гарачае сонца,
У зоркі й каметы.

## ШАХМАТЫ

Пачатак чорна-белае вайны:
Вось цені розуму танцуюць моўчкі,
Ідзе ўжо бітва, буду пешкай зноўку,
Бо ты — кароль пракляты — ля сцяны.

Раптоўна набліжаюцца сланы:
Хаваешся ты хітрай ракіроўкай,
Але калісь пакінеш сваю схоўку,
Наступны ход, каханы, зробіш ты.

Не гераіня я з эпічных одаў:
Ліліт мацнейшая ў гульні, чым Ева,
Каханне для мяне — цярпенне, згода,

Чаканне, крок направа, крок налева...
Напрыканцы, пры разумнейшых ходах,
Любая пешка стане каралевай.

## МАЕ ІНТАРЭСЫ

Люблю шпацыраваць па начных снах,
Плаваць у класічнай музыцы,
Граць на сэрцы і крыху на душы,
Маляваць будучыя мары,
Збіраць зоркі, якія падаюць з летняга неба,
Слухаць дождж пад коўдрай жоўтай восені,
Каштаваць новыя смакі салодкіх каханняў,
Вандраваць у раманах і вершах,
І больш за ўсё люблю любіць
Шчыра і без страху.

## САБОР

Ён не такі, як тыя, што ў Парыжы,
Наш з табой сабор...
Не мае залатых дзвярэй і вокнаў,
І вежаў да зор.

Мне здаецца, боль ты мой, мы з імі верым
У розных багоў.
Ты сам ведаеш, mon âme, што ў Парыжы
Вераць у любоў.

Пабудуйма, хай з пяску, а каля мора
Лятучы сабор,
Хай без веры, без любові, без Парыжа,
І без зор.

## ПРОКСІМА ЦЭНТАЎРА

Да наступнай зоркі тысяча гадоў
На аўтобусе, што з хуткасцю святла;
Давядзецца ўжо застацца тут са мной
Альбо з'ехаць заўтра раніцай з сяла.

Мо, не варта на мяне глядзець так сумна?
Я пабуду яшчэ дзень над летнім небам,
Я вандроўніца, але з душой раздумнай,
Пагадзіся, сонца: мне спяшаць не трэба.

Да наступнай зоркі, мілы, я дайду,
Знаеш, я заўжды была крыху паэткай,
Хоць, ляцець... Няхай і не зусім лячу,
А зямлю кранаюць ногі толькі зрэдку.

**ЧЫТАННЕ**

Хачу глядзець на поўныя паліцы,
І марыць пра зачыненыя светы,
Пра лёсы, пра прыгоды, пра партрэты,
Схаваныя ў старонках таямніцы.

Не трэба нават піць з тае крыніцы,
І не пакінуць мне ў яе манеты,
І так вярнуся ў казкі ды санеты,
Вярнуся я да жарснай навальніцы,

Вярнуся да балючага кахання,
Да лета, да наіўнай маладосці,
Вярнуся да вясенняе адлігі,

І буду зноў чытаць аж да світання,
І зноў згублюся ў вечнай прыгажосці,
А сёння я хачу глядзець на кнігі.

**ПАРАСОН**

Я ненавіджу хмары ды дажджы,
У восені не буду больш паэткай,
Хай прыйдуць вершы ўлетку.

За шэрасцю на небе ўжо не ты:
Ты быў забыты, нібы парасон,
Магчыма, гэта сон.

Сягоння за акном вада й самота,
А дзе тваё цяпло, як кубак кавы?
Сышла пустая слава.

Змакрэла зрэшты й я дажджом ды потам,
Змакрэлі крылы, дык ляціце, ногі!
Змакрэлі ўсе дарогі!

Грыміць з надзор'я голас голых дрэваў:
Хадзіць пад навальніцай няма сілаў,
А я цябе згубіла.

Дзеля цябе я стану зноўку Евай,
Бо помню, плачу, думаю, шукаю
Руіны майго раю.

Дзеля цябе я рызыкну, mon âme,
Хоць ненавіджу хмары ды дажджы,
Але ж чакаеш ты.

Па навальніцы вырашым мы самі,
Які адказ на вечнае пытанне:
Ці вера, ці каханне.

## ДЗІРКА

Не ведаю, чаму,
Але часам выкідваю
Кавалачкі сэрца
Ў чорную дзірку,
Якая ляжыць у мяне
На стале.
У пачатку я туды
Кідала толькі сухое лісце,

Пустыя вершы,
Прыдуманыя словы,
А цяпер,
Не ведаю, чаму,
Не магу стрымлівацца,
І выкідваю боль,
Нават якасны боль,
Попел цыгарэт
І гарачага кахання,
Яйкі феніксаў,
Якія не памруць,
І не народзяцца
Ў іншым вымярэнні,
І не заўважаю,
Што знікаю сама,
І ператвараюся ў бруд
Далёкай галактыкі,
А сэрца — ў зорны пыл.
На стале дзюра,
І ўва мне дзірка,
Якая мяне з'ядае.

## ЗАЛАТАЯ КЛЕТКА

Я хацела б стаць восеньскай кветкай,
Белай і ціхай у навальніцы халоднага агню,
І каб ты вывучыў мяне на памяць,
Каб узгадваў кожную дробязь,
Кожную радзімку на твары,
І кожны шнар на душы,
Нягледзячы на сярэбраную здраду часу.

Восеньскія кветкі, агнявыя ружы,
Мімалётныя і легкакрылыя,
Як феніксы ў залатой клетцы,
Да якой заўжды хочацца вярнуцца,

Хай і перад ёй мяжа сусветаў,
Хай і перад ёй рэха музычнага надзор’я,
І шматгалосся, якое кліча іх з усіх бакоў.

Калі будзе боль, хай будзе толькі ад цябе.
Калі будзе сум, хай будзе на тваім плячы.
Калі будзе маўчанне, хай будзе ў тваіх вачах.
Калі будзе экстаз, хай будзе ад тваіх гарачых вуснаў.
Калі будзе турма, хай будзе ўнутры твайго сэрца.
А калі будзе каханне... Калі будзе,
Не адпускай мяне ніколі больш.

## 10 ФАКТАЎ ПРА МЯНЕ

*Верш у фэйсбучным фармаце*

1. Я згараю ад жадання, як любоўны фенікс, а потым нараджаюся зноў і зноў дзеля кахання.

2. Я хаджу з маленькім нататнікам, дзе апісваю вершы, якія лятуць міма.

3. Я доўга ўцякала, шукала сваіх. Нейкі час нават чакала, калі яны мяне забяруць. Ад сябе не ўцячэш затое.

4. Я хлусіла пяць разоў за ўсё жыццё. Пра кожны раз памятаю, і ў чатырох выпадках з пяці — шкадую.

5. Я жыву на вайне з самой сабою, але амаль цалкам прымірылася са светам, што ўжо нямала.

6. Я да шаленства закаханая ў чалавека, які з’яўляецца маім натхненнем, маёй Дульсінеяй. Калі ён акажацца ілюзіяй, я ілюзію і пакахаю назаўжды.

7. Калі я далёка ад родных мясцін, мне наймацней не хапае мора. Цяжка дыхаць, калі не марскім паветрам.

8. Хоць і агульна люблю кнігі больш шчыра і пяшчотна, чым людзей, у мяне ёсць некалькі сапраўдных сяброў, якім давяраю болей, чым самой сабе.

9. Я ведаю больш за дзясятак моваў. Кожны раз, калі пераходжу на іншую мову, у мяне змяняюцца голас, жэсты і нават крыху характар.

10. Я не схавала ніводнага няпраўдзівага факта ў гэтым спісе, мне можаце паверыць на слова.

* * *

Няхай замоўкне заўтра салавей,
І зорнае святло
Патушыцца ў світанак,
І сыдзе хай цяпло,
І не пачнецца ранак.
Сёння веру.

Хай заўтра будзе бруд замест зямлі,
І камень замест хлеба,
Асфальт над крохкай ружай,
І цемра замест неба,
І ўся вясна пад сцюжай.
Сёння веру.

Хай заўтра прыйдзе вечная зіма,
І між рукамі хмары,
Махляр замест Кіхота,
Туга хай замест мары,
Замест цябе — самота.
Сёння веру.

Што мне зямля? Што салаўіны спеў?
Дзеля цябе я вытрываю голад,
Адчай і гнеў,
І сум, і горкі холад,

І страх, і цемру, нават катаванне
Бо сёння... Сёння веру
(У каханне).

## АБДЫМКІ

*Малітва каханаму*

Абдымі мяне: тады з табою станем адным цэлым,
Абдымі мяне: цябе няма, а ты — усё, што маю,
Абдымі мяне: твая пяшчота ёсць ключом ад брамы
Майго ўласнага раю.

Абдымі мяне, пакуль у цябе будуць яшчэ сілы,
Абдымі мяне, пакуль любіць не скончацца прычыны,
Абдымі мяне, як быццам пражываем на зямлі
Апошнія хвіліны.

Абдымі мяне раней, чым з табой станем зорным пылам,
Абдымі мяне раней, чым знікне хараство сусвету,
Абдымі мяне раней, чым палятуць і птушкі ў вырай,
Калі скончыцца лета.

## ЗА БЫЦЦЁМ

Ты паўстаў
Шчырай супярэчнасцю,
Цудоўнаю да жаху, звычайнаю да болю.
Ты змагаешся з адчаем
Далёкіх і блізкіх іншасветаў.
Ты мімалётна,
Але ўпарта
Ломіш
Дасканалую паслядоўнасць
Чорнага надзор'я.
Ты вечны ў сваёй барацьбе
І калісьці перарасцеш прастору.

Я адначасова
Паўстала й не паўстала
На гэтым свеце
(На тваім, на сваім?)
І на безлічы іншых.
Я губляюся
У неўпарадкаванай раўнавазе,
Якая называецца мізантропіяй або...
Зорны пыл сыплецца між пальцаў.
Мы не сустрэліся ў часе,
А я паміраю, як нарадзілася:
За быццём.

## СОН

*С. прысвячаецца*

Ты мне снішся яшчэ,
Ты мне снішся раз-пораз,
На світанку, як снег,
Першы снег на мяжы між тугою й прасторай.
Ты мне снішся, як грэх,
Першабытны, нямы,
Ты мне снішся самотным,
А зрэдку, ты знаеш, мне снімся і мы:
Сніцца дотык рукі,
Сніцца шэпт у вушах,
Сніцца сэрца тваё
Унутры майго цела,
Сняцца вусны на скуры,
Салодкі твой пах.
А скажы: ці не сніцца табе,
Як цябе я хацела?
Сніцца проста любоў
І каханне, жаданне,
Гарачая кроў,

Сніцца часам юрлівы твой голад...
Прачынаюся зранку: пакой — як турма,
За акном — сум, зіма,
Між прасцінамі — гнеў, і самота, і холад.

## СЛОВА

Што ж трэба,
Каб паляцела слова,
Як птушка,
Аж да неба?
Як сон, які хаваем пад падушку?
А што рабіць, каб фраза стала новай
Душою,
Каб паляцеў стралою
Кожны сказ?
Што ж трэба нам, каб мова,
Каб кожны тэкст, і сказ, і фраза й слова,
Даходзілі штораз?
Што ж трэба,
Каб лірыкі хапала, солі, хлеба,
Каб прагучалі вершы ды радкі,
Каб слова
Жыло і каб жыла між намі мова?
Што ж трэба,
Каб мы з табой жылі?

## У КРЫЎДУ

Мяне часта пытаюць,
Навошта ж мне займацца гэтай справай,
Мёртвай мовай, непатрэбнай,
А я, праз агонь маёй маладосці
(Якая знікае пакрысе),
Злуюся і кажу,

Што беларускую мову я не дам
У крыўду.
Аднойчы хітраваты троль сказаў,
Што беларуская мова не належыць мне,
Каб даваць ці не даваць
У крыўду ці яшчэ куды.
А я
З глыбокім уздыхам адказала:
«Маеш рацыю,
Беларуская мова не належыць мне,
Але я належу ёй».
І дадала троля ў чорны спіс,
А мову ў сэрца.

**STILL LIFE**

Still life. Мёртвая натура:
Змагаецца карціна з забыццём.
Як кветкі на стале, так мы й жывём,
Як кнігі па бязлітаснай цэнзуры.

Still life. Мёртвая натура:
Дзе сцены нараджаюць фотаздымкі,
Марозяцца ўспаміны пра абдымкі,
А ў люстрах цені ды карыкатуры.

Але не пераможа забыццё:
Нягледзячы на цемру і на сцюжу,
З крыві памерлых уваскрэсне ружа...
Still life. Усё яшчэ жыццё.

## ТАНЦЫ

Я не навучылася танга
І вальс не магу.
Не ведаю рукі партнёра,
А толькі тугу.

Так доўга ляцела ў самоце
Нябесных дарог,
Што музыка не дапаможа:
Не чую ўжо ног.

Прыгожа ў такт круцяцца пары
Забытых надзей.
Сяджу незаўважнай, зямною,
Між магаў ды фей.

Мяне раздражняюць натоўпы,
І крыкі, і шум.
Магчыма, ніколі не сыдзе
Унутраны сум.

## ПАРТРЭТУ

Малодшы твар, знаёмая мясціна,
Уласны позірк, як чужы, так цнотны,
Няхай ляжыш забыты ды самотны,
Цябе хай пакрывае павуціна:

Ты вечная шчаслівая хвіліна,
Ты назаўжды прыгожы ды пяшчотны,
Ты чысты, ты нязменны, несмяротны,
Я зорны пыл, я Часу сіраціна.

Даўно баюся бачыцца з табой,
Баюся сілы, што ў тваіх вачах,
Баюся: смерць лунае нада мной.

Яшчэ жыву, затое чую жах:
Чытаю эпітафію на лбе,
Калі гляджу, хоць зрэдку, на цябе.

## ТЫМ, ХТО ТОЛЬКІ ЦЯПЕР ПАЧАЎ ДЫХАЦЬ

Люблю жыццё, паветра ды прыроду,
Цаню маўчанне, ды малюся слову,
Таму пяю свае, чужыя оды
На чалавечых і жывёльных мовах.

Раней, чым буду пакідаць зямлю,
Раней, чым тут адчую свой канец,
Так хочацца сказаць: я вас люблю!
Калі ўзляціць мой дух, як дзьмухавец.

Няхай маю збіраюць пчолы кроў,
І шчыраю хлуснёй маіх вачэй
Убачыць кожны светлую любоў
У самую халодную з начэй.

Але я не памерла. Не памру,
Пакуль не дакранулася да зор:
Дацягваюцца крылы ўжо ўгару,
Высокі падхапіў мяне віхор.

Галопам душы ўсё ж бягуць, як коні,
Паэты будуць вечнымі дзяцьмі:
Памерці — толькі сэрцам на далоні,
А жыць — выключна поўнымі грудзьмі.

## ПАЛЁТ

*Каму прысвечана, той зразумее*

А давай паляцім разам, я дастану табе зорку,
Ты заплюшчвай вочы, за руку трымай.
Працытую які вершык Багдановіча ці Лоркі,
Не заўважыш, хутка знойдзем мы свой рай!

У цябе ж працуюць крылы? Мы пралезем праз аблокі,
Як Ікар, мы дакранёмся зноў да сонца.
Я на небе пацалую твае вусны, твае шчокі,
Добры сёння вецер! Зазірні ў аконца!

Давай рызыкнем, мой любы, не пужаюся з табою,
Нас падымуць успаміны й пачуцці.
Вось фантазію я маю: пакахацца над зямлёю.
Абдымай, спрабуй, любі мяне, ляці!

Не баюся быць адною, але й не люблю самоты,
Калі й выскачу — не дзеля суіцыду.
Ты павер: і я палохаюся вышыні палёту,
Але ж так хачу здзіўляцца краявіду!

## ПОБАЧ

Хацелася б хоць пальцам дакрануцца
Да цёплай скуры мне замест паперы.
Скажы, мая ты кроза, як мяркуеш:
Ці мала нам маёй дзіцячай веры?

У выпадкова купленай газеце
Твой верш — мой верш. Раздзел «Літаратура».
Скажы ты мне, па першым пацалунку
Ці станем мы з табой макулатурай?

Хацелася б хоць пальцам дакрануцца,
А крылы не працуюць. Ты далёка...

Павер, каханы, дай руку, не бойся:
З табою мы ляцелі б так высока!

Хай вечнасць паміж намі, хай паўсвету,
Пераплывём і лодкаю Харона!
Няхай між намі мора, кіламетры...
Я побач: я праз некалькі старонак.

## ЁЙ

Я хачу напісаць сцісла
І выразна
Пра тую, хто задае пытанні,
З іншага боку люстэрка;
Пра тую, хто з'ядае мае словы,
Калі ежа даўно скончылася,
А гарбата падманвае мяне
(Але не яе);
Пра тую, хто трымае мяне моцна за руку,
Не адпускае з горада,
Не адпускае з кватэры,
Не адпускае з галавы,
Не ад рэўнасці,
Ад нянавісці.
Я хачу напісаць пару слоў пра яе,
І яе чырвоны шалік,
І маю шыю.
А тут пустаслоўе,
І не выходзіць
Патлумачыць,
Чаму яна жыве са мной,
А я з ёй пакрысе паміраю.

## НАКЦЮРН

*Таму, чыя ўсмешка асвятляе ўзімку цэлы горад*

Ноты кахання лятуць над ракой, быццам птушкі,
Лятуць, быццам першыя ў хмарах сняжынкі.
Горад сівее, як шэрыя сны пад падушкай.
Лістапад над зямлёю,
Сівеем, мой любы, няўзнак, пакрысе, мы з табою...
За ракою Каляды: нас клічуць святочнага рэха ялінкі
Познім восеньскім шэптам, якім
Так даўно не гавораць жывыя.
Быццам воўк, вецер вые,
Засталіся, каханы, адзін у адзін.
А сэрца гукае, як сумная ўлетку зязюля:
Маладая, гарачая, жарсная кроў
Так пяе, як пяе калыханку матуля:
Пяшчота прачнулася, можа, прачнецца й любоў.
Але тут над халоднай зімой
Прадкаханне пануе. А гэты пакой,
Дзе цяпер, дзе заўжды мы з табою...
Застаецца за вечнай, за светлай мяжою
Адчаю й вясны.
Адчуваеш, як ціха? То мы засталіся на свеце адны.

## НЕ ПАВЕРЫШ...

Не паверыш: у летнія ночы,
Як вяртаецца сэрца дамоў,
І па небе паспешліва крочыць
Успамін светлай зоркаю зноў,

Як сярэбранай хваляю мора
Цяжкай горыччу лашчыць зямлю,
А каметы, былыя танцоры,
Пішуць песні старому гілю,

Калі пахне паветра язмінам,
Калі сон вальнакрылы, як брыз,
Калі месяц бялее, як гліна,
Калі сонца — далёкі капрыз,

Калі помніцца грэх першародны,
Калі ў роце шчэ прысмак віна,
Калі ложак вялікі й халодны,
Калі я застаюся адна,

Не паверыш: цябе я ўзгадаю,
Да цябе дакранулся — няма...
Яшчэ лета на беразе раю,
А ўва мне ўжо настала зіма.

## УСМЕШКА

А ведаеш,
Я й не ўяўляю,
Як жа я буду
Вось сёння, заўтра,
І надалей,
Усё жыццё
Хадзіць па горадзе
З такой усмешкаю,
Ездзіць у аўтобусах
З такой усмешкаю,
У супермаркеце
З такой усмешкаю,
Уставаць раніцай
З такой усмешкаю,
Пад дождж трапляць, але
З такой усмешкаю...
Як было тое?
Што ж там казалі,
Калі з усмешкаю,
А без прычын?

З вершам у сэрцы,
З песняй на вуснах,
З поўнаю радасцю,
А без прычын?
Але ж я ведаю,
Чаму ўсміхаюся,
Жыццё я бачу
Такім, як ёсць...
Але смяюся я
З усіх пакутаў,
З былых праблемаў
І старых бед.
Заіснавалі
З табою, сонца,
Адначасова
На гэтым свеце,
А ведаеш:
Могуць забраць
У мяне ўсё:
Здароўе, грошы,
Маладосць, веру,
Хай і ўспаміны,
Затое, ведаеш,
Ну, немагчыма
Забіраць праўду:
Я ёсць. Кахала
Шчыра ды моцна
Прынамсі, раз.

## ЛІСТ

*Квадэрна вія*

Вясна, цяжар душы: мароз мяне з’ядае:
Сівее ўжо душа, няхай і маладая...

Хварэю, сэрца спіць, мяне кідае вера,
Патрапіла пад дождж — вось мокрая папера.

Дашлю начное мора, не знаю лепшых одаў,
А каб магла, мой родны, дала б табе свабоду.

Шукаю ў галаве патрэбнае мне слова,
Пішу, ды хоць няшмат, але на нашай мове.

Радкі свае адпраўлю, быццам сыноў на бітву,
Упершыню ў жыцці прамоўлю я малітву:

Ляці, мой матылёк, ляці, мая зязюля,
Ляці славесным сонцам, ляці пяшчотнай куляй,

Ляці, малая знічка, прашу, мая камета,
Прашу цябе: ты станеш між хмарамі прасветам.

Крылаты ліст, ляці, як цёплы летні вецер
Ляці хутчэй апошняй надзеяю на свеце.

Адзін ты даляціш да клеткі кожнай птушкі,
Табе перамагчы кашмары падушкай.

## ХАЦЕЛА

Я хацела быць побач, а штораз больш далёка,
Хацела быць паветрам дзеля кожнага слова,
Я хацела быць небам над тваёй галавою,
Засталася зямлёю, ды бруднай, незаўважнай.

Я хацела быць сэрцам, але крыві замала,
Я хацела быць морам, але вады замала,

Я хацела быць сонцам, але святла замала,
Стаць вечнасцю хацела, але часу замала.

Я хацела быць песняй, а засталася шэптам,
Я хацела быць дрэвам, а пакуль я насенне,
Я хацела быць марай, каханнем, летуценнем,
Засталася сабою, а гэта ўжо нямала.

**1914**

Адчуваеш? Зямля прачынаецца сёння не тая
Адчуваеш? Паветра густое, а зграбнасць чужая.
Пачытай, як знікаюць са сказаў пяшчотныя словы,
Паглядзі, як над намі лятуць задуменныя совы...
А ці помніш яшчэ маладосць далікатнага твару?
Калі й вернецца колісь любоў — патрабуе ахвяраў.
Падаецца, святло канчаткова сыходзіць са свету,
Выпівайма, mon âme, ды хоць з Мнемазіны, хоць з Леты!
Ціха! Чуеш? Заўчасная смерць быццам цалкам жывая
Навальнічым настойлівым голасам мне паўтарае:
«Зразумей: гэтым разам святую мяжу перасекла,
І ніхто па цябе, дарагая, не спусціцца ў пекла».
Адчуваеш, як снег будзе брудным наступнай зімою?
Не сыходзь, не ўмірай, не ўлятай, заставайся са мною!

* * *

Аддаю боль ды крыўду лёгкім птушкам на небе,
Хай яны забяруць, хай нясуць да нябыту,
Салавей — сваёй песняй, што гукае над глебай,
Чайка — хваляю мора над празрыстым блакітам.

Аддаю сум і цемру залатым, вольным птушкам,
Аддаю хваляванні, шкадаванні, трывогу,
Камяні, што на сэрцы, і кашмар пад падушкай,
Хай нясуць, як малітву, дабрадзейнаму Богу.

Забяры, фенікс, попел, нараджуся зноў зранку
Пад шчасліваю зоркай, па стагоддзях блукання.
Я цябе пачакаю, пастаю я на ганку,
Пакуль вернешся з весткай сапраўднага кахання.

## АМАЛЬ КАХАНАМУ

Калі фенікс памрэ, калі стомяцца рукі,
Калі вечнае рэха замоўкне няўзнак,
Калі не заквітнее вясной ружа ветру,
Калі тых пацалункаў прыпомніцца смак,

Калі зранку сустрэнуцца сонца ды цемра,
Калі скончацца думкі, і час, і прастора,
Калі стануцца бурай усе летуценні,
У той дзень прыплывуць да нас мары, як мора,

Зацякуць тады зноўку салодкія слёзы,
Што з табой падарылі блакітнай журбе.
Хай і я не кахала, хай і ты ненавідзеў,
Абдымі, я прашу, прытулі да сябе.

## ЗМЕНЫ

Калі б магла змяніць
Адну частку свайго цела,
Толькі адну,
І нічога больш,
Было б дужа цяжка вызначыцца,
Бо ў маім целе многае
Можна было б,
Варта было б
Змяніць.
Напрыклад, я б хацела
Дадаць сабе на спіне
Крылы добрай феі,

Альбо замяніць ногі
На каляровы хвост русалкі,
Альбо дадаць яшчэ пару рук,
Каб пісаць вершы
І граць на піяніна
Адначасова,
І абдымаць сяброў
Удвая часцей.

## МЫ

Калі памерла тая зорка,
Якую бачна шчэ на небе,
Былі з табой прыгожай марай,
Рэхам, святлом,
Вадой пад глебай.

Былі з табой яшчэ паняццем,
Як сум, як радасць, як любоў,
Былі пачуццем, як надзея,
З табой да думак
І да слоў.

Калі памерла тая зорка,
І сціх той голас залаты,
Памерлі песні, рукі, вусны,
І да быцця памерлі
Мы.

## УСПАМІН

Помню,
Бягу за стрыечным
Братам, бягу,
Але я маладзейшая,
І мне цяжка,

Стамляюся,
Ногі яго
Даўжэйшыя,
Бяжым на пляжы,
А дзяцінства застаецца
За намі.

**ЗБРОЯ**

А ведаеш, што вершы — гэта зброя?
Бо слова — гэта куля, а думка —
Гэта нож, што рэжа мрою,
А героі — гэта літары,
Маршуюць у паперы хутка, проста,
Нада мной, перад табою.
А кніга, як вайна, а твая мова
Пацалунак і змяя адначасова.
Бо вершы — гэта зброя.

**ЯМУ**

Табе я не магла глядзець у вочы,
Як два люстэркі моўчкі, светла, вечна,
Бо я не бачу, ты, відаць, не хочаш,
І гэта паміж намі невылечна.

О небыцця святло, святы міраж,
О прывід тых марозлівых Калядаў,
Хай гарадскі снег брудны... Горад наш,
І наш спеў мімалётных барыкадаў!

Агонь гарыць, пяе, цалуе шкло
Пякельным языком, і нас знішчае,
Люстэрка я. Люстэрка ты маё:
Між намі зорка сто разоў нямая.

## СКЛАДАНАМУ ПАНЯЦЦЮ

Маўчанне ды гонар,
Лячу я
Высока:
Не ўсё, як здаецца
Нявернаму
Воку.
Ляціш і ляціш
У моры
Глыбокім,
А плаваюць зоркі
На небе,
Далёка.
Сусвет пахне кветкай
Касмічнага
Поту,
І проста ўсё,
Сумна:
Няма
Паваротаў,
Ляціш і ляціш ты,
Сляпою
Істотай...
І цэніш ты цноту,
Маўчанне ды гонар,
І вечную, вечную
Сваю (назаўсёды)
Самоту.

* * *

Часам адчуваю сябе
Як той парасон,
Які бяруць з сабой,
Калі баяцца дажджу,
А потым выходзіць сонца
З-за хмараў,
І ўвесь дзень цягаюць,
І ён цяжкім
І недарэчным
Робіцца.

## НЕ СЫХОДЗЬ

Не сыходзь,
Бо з табой
Сыдуць кветка, і сонца, і дрэва,
Сыдуць бэз, яго пах,
Сыдуць яблык, змяя, сыдуць Ева
Й Адам, сыдзе неба
І скончыцца шлях
Назаўжды.
Сыдзеш ты,
А ў мяне
Застануцца аблокі, пытанні,
Дажджы,
Вецер, бура, ваганні
Й другая палова
Ад слова
«Каханне».
Не сыходзь...

## PRACA NA WYSOKOŚCI

Шпацыр у Варшаве.
Убачыла знак:
«Uwaga: praca na wysokości».
Значыць, ідзе праца на вышыні...
А я ўявіла адразу,
Як усе багі розных эпох
Дамаўляюцца, спрачаюцца,
Стараюцца выправіць усе памылкі
Стварэння нашага свету.
Хутка дабегла дадому,
Каб яны мяне не заўважылі,
І не выдалілі з зямлі.

## СЦІМПАНКАВАЯ РАПСОДЫЯ III

Зрабіла механічнае сэрца,
Амаль як сапраўднае,
Бо кахаю цябе,
Але баюся падарыць табе жывое...
Мы ж толькі месяц
Сустракаемся.
А ўсё адно маё сэрца,
Якое ў грудзях знаходзіцца,
Даўно не цэлае,
І ў ім занадта шмат крыві,
Не было б табе
Даспадобы.
А глядзі, з якой дакладнасцю
Гучыць цік-так любоўнага гадзінніка.
Батарэя ў яго, тым больш,
Доўгатрывалая:
Хопіць, мяркую, на 200 гадоў
І тры дні.
Цік-так.

## САКУРА

Няхай узлятуць жураўлі
З нашай макулатуры,
Хай лісце зялёнай гарбаты
Стане літаратурай.
А сакура хай жа квітнее,
Няхай жа прачнецца натура.
Я буду заўжды за табою,
Ты будзь пад маёю скурай.

## БЕЛАРУСУ МАЙМУ

Я кахаю цябе (беларуса майго),
Я кахаю пад громам сляпой навальніцы
Й кахаю цябе, калі не спіць сяло,
Калі не даязджае Марфей да сталіцы.

Я кахаю цябе (беларуса майго),
Я кахаю і ў цемры няпэўнае ночы,
Калі сонца з-за хмараў нарэшце зайшло,
Калі сумна пяе салавейчык прарочы.

Я кахаю цябе без «чаму», без «чаго»,
Я кахаю цябе: ты цяпло, ты бяспека,
Я кахаю цябе (беларуса майго),
Зацалую, як месяц, святыя павекі.

## ТАКІ ДЗЕНЬ

Такі дзень, што не свеціць табе і нябесная сфера,
Такі дзень, што сыходзіць надзея, стамляецца вера,
Такі дзень, што чужыя табе словы, голас і край,
Такі дзень, што куды ні бяжы — не патрапіш у рай.
Дзень, калі непрыгодны радочак напіша сам Лорка,
Дзень, калі забывае, дзе Поўнач, Палярная зорка,

Дзень, калі навальніца спявае на ўвесь небасклон
Сваю бурную песню, як невымаўляльны праклён.
Такі дзень, калі бруд накрывае дарогу дахаты,
Але помні, мой друг... Што ж дарога табе? Ты крылаты!

**ВЕЧНАСЦЬ**

Хлусня бывае вечнай,
А час пагражае рэчаіснасці
Вострым нажом:
«Маша і Міша разам назаўжды».
Імя яе трох дзяцей выбраў іншы,
А Міша нежанаты.
«Каця і Даша best friends forever»,
А перасталі размаўляць, калі Каця з’ехала ў Кракаў,
На другім курсе.
«Даруй мне, сонейка»,
І днямі знайшлася новая зорка.
«Генадзь быў тут»,
А са спісаў яго выдалілі.
«Я ёсць, я ёсць, я ёсць», кажам Часу,
А Час глухі, сляпы
І галодны, як воўк.

**ГРАНАДЗЕ**

Безлітасна ты пажыраеш нас
Твае сцены — руіны маладосці.
Мне сняцца срэбра вечнай прыгажосці
І зоркі тых начэй, што помніць час,

Ты паміраеш кожны пяты год
І нараджаешся, як фенікс, зноўку,
Сыходзяць успаміны й твары моўчкі
Жарсць і святло ў вачах — твой кісларод.

Жывуць табою песняры, каханкі,
Жывуць цыгане, што фламенка граюць,
І штукары, філосафы, паэты,

Шалёны танец, рэха калыханкі,
Над горадам Альгамбра залатая
І даўнія студэнцкія партрэты.

## БЯСКРЫЛЛЕ

Я табе падару свае крылы,
Мне ляцець больш нікуды не трэба:
З маіх рук цякуць рэкі-чарніла
Аж да мора, а часам — да неба.

Я табе падару свае крылы,
Адрывай ды бяры — я сур'ёзна:
На заўчасную смерць няма сілы,
На жыццё мне, напэўна, запозна.

Я табе падару свае крылы,
Я йду пешшу — ляці сам да неба,
І жыві без цяжараў, мой мілы,
Без цябе мне нічога не трэба.

## ТРАГІКАСМІЧНАЯ

Мы з табой, ты казаў, нібы пара каметаў,
Што лятуць над далёкім, сінім светам.
Падаецца з зямлі, сустрэліся ў надзор'і,
Цалуюцца касмічныя танцоры.
Але між намі тысяча светлавых гадоў,
Нам не пазнаць ні танга, ні любоў.

# З самых новых вершаў

## ТРЫ ТРЫЯЛЕТЫ

Ты мне яшчэ баліш, мая надзея:
І паміраць не застаецца сіл,
Няхай з табой мы толькі зорны пыл,
Ты мне яшчэ баліш, мая надзея.
Ты ёсць паўсюль, мой вечны небасхіл,
А сэрца плача, галава сівее,
Ты мне яшчэ баліш, мая надзея,
І паміраць не застаецца сіл.

Няхай з табой мы толькі зорны пыл,
Няхай на свеце ясным не існую,
Няхай перажылі любоў зямную,
Няхай з табой мы толькі зорны пыл,
Прашу, прабач, кахай мяне любую,
Пішу табе без неба й без чарніла!
Няхай з табой мы толькі зорны пыл,
Няхай на свеце ясным не існую.

Няхай перажылі любоў зямную
Даўно, ды пакахаць мяне не змог,
Я знаю, ты падняўся, быццам Бог.
Няхай перажылі любоў зямную,
Дазволь апошні раз маліцца ў ног
Тваіх. Я не шкадую, не бядую,
Няхай перажылі любоў зямную
Даўно, ды пакахаць мяне не змог.

## ПАД ЗЯМЛЁЙ

Ляціць натоўп перад вачыма,
З пякельным гукам пралятае,
Знікаюць твары з рэха, з дыму,
Як бы лістота залатая,

Ідзе цягнік забытых мараў,
Спяшае: накірунак — рай,
Ідзе цягнік старых udараў,
Ідзе, бяжы, не прапускай!

Метро губляецца ў тунэлях,
Наперад цёмная дарога.
Што мы згубілі? Што мы мелі?
Выходзім: станцыя — Знямога.

Няхай агідна, крыўдна, горка,
І не змяняецца маршрут,
Табе адсюль не бачна зорак:
Не дам табе памерці тут.

## НЕ АДДАМ

Хай з'ядае жыццё ды ўспаміны сярэбраны час,
Хай пакутліва грэемся попелам фенікса-болю,
Хай далей гарады мітусліва грукочуць без нас,
Заставайся са мной! Не знікай, не хачу, не дазволю.

Хай не бачна надзей, хай і зоркі на небе няма,
Пакрысе назаўжды зачыняецца брама да раю,
І зламаныя крылы, і кожнае сэрца — турма...
Не забудзь: я цябе ўсё адно невымоўна кахаю.

Хай ляціць над зямлёю бязлітасны, злы лістапад,
Хай пануе зіма, снегапад хай накрые дарогу,
Хай памру: я кахаю бязмерна, да смерці й назад,
І цябе не аддам ні марозу, ні ветру ні Богу.

## СТРАЧАНАМУ КАХАНКУ

Ты снішся мне, калі цябе няма,
Ты доўгая, пакутная дарога,
Ты бруд і шэрасць снегу гарадскога,
Бязлітасная, горкая зіма,

Ты смерць і цемра, бездань і турма,
Ты пекла без зямлі ды рай без Бога,
Не можа быць пасля цябе нічога,
І без цябе не выжыву сама:

Бо плоць мая ў тваіх руках, як з гліны,
Душа мая — пяра твайго малюнак,
Існую толькі ніткай павуціны.

Хацела б гнёзды віць табе між думак,
Дай хоць ператварыцца ў пацалунак,
У песні, словы, цені ці ўспаміны.

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

Люблю цябе шалёна, ды моўчкі, на каленях,
Люблю цябе зялёна, таемнаю вясною,
Люблю цябе пяшчотна і злосна, бессардэчна,
Люблю цябе ўсляпую, люблю цябе як мрою,

Люблю цябе трывожна, над безданню, адчайна,
Люблю цябе надзеяй, арганным крыкам грому,
Люблю цябе, як прывід, і мару дакрануцца,
Люблю цябе да смерці, люблю назад дадому,

Люблю цябе высока, як воблака на небе
Люблю цябе здалёку, з мінулага, з нябыту,
Люблю цябе бліскуча, бы знічка залатая,
Люблю цябе тужліва, самотна, хваравіта.

## ЛАБІРЫНТЫ

Губляюся ў трывожных і туманных лабірынтах,
Дзе крыкі замінаюць спачываць на белых лаўрах.
Разносяцца шаптанні разбуральнага інстынкту
І крокі замарожаных, нябачных мінатаўраў.

Знаходжуся над безданню — сусвет мяне трымае,
Трымайся (парываецца?) чырвонай ніткі лёсу!
З табою нараджаюся — нябесная, зямная,
Са мною нараджаешся бяссільным альбатросам.

Да сонца дакранёмся на паветраным кашмары,
Бяскрылым ты Ікарам, Пенелопай я распуснай,
Ляцім над лабірынтам, над турботаю, да хмараў,
Над Танатасам горасным, бязлітасным, спакусным.

* * *

Тваё голае імя
У рацэ
Маёй крыві
Плыве бясспынна:
Да кончыкаў пальцаў
І назад да паўмёртвага сэрца,
І дорыць мне жыццё.

Тваё свежае імя
У ветры
Ляціць з песняй
Новае вясны
І прыносіць мне ўдачу
Да самых вушэй,
Калі яго чую.

Тваё цёплае імя
У ложку

Спіць ля маіх ног
Пад восеньскай коўдрай
Залатой лістоты
І цалуе мне вочы,
І лашчыць мяне пад скураю.

Тваё імя,
Проста тваё імя,
Калі не засталося ружаў,
І сняжынак, і неба,
І паэзіі...
Яшчэ існуе.
Гэтага дастаткова.

**НАДЗЕЮ ВЫТКАЦЬ**

Я буду коўдру ткаць шаршаткаю нядолі
Тваёй. Пад навальніцай прамокну я да ніткі,
Буду чакаць трывожна, як ільвіца ў няволі,
Дзіцячымі рукамі хачу надзею выткаць.

Штоноч запальваць свечкі я буду, калі трэба:
То светлячкі кахання супраць цемры ды грому,
І дамалюю мапу шляхоў зорных на небе,
Праз туманы, праз хмары, каб ты даплыў дадому.

А заўтра, да світання, я выйду зноў на мора
Пісаць тваё імя халоднай белай пенай,
Крычаць, прасіць у сонца, сустрэчу хай падорыць,
На беразе чакаць, маліцца на каленях.

**ХАЦЕЛА Б**

Хацела б я пасеяць пацалункі,
Каб на падушцы ўвесну заквітнелі,
Спяваў духмяны сад тваёй пасцелі,
І паляцелі ў розныя кірункі,

Як дзьмухавец, душа, дыханне й думкі.
Намаляваць у снах, калі б хацелі,
Адценнямі пастэльнай акварэлі
Нябесна-каляровыя лятункі.

Жыла б заўсёды прывідам кахання,
Жыла б я ветрам зменаў ды чакання
І ціхім шэптам восеньскай лістоты:

Баюся нотаў новага світання,
Баюся твару сумнага прызнання,
Баюся зноў прывыкнуць да самоты.

## ПТУШЫНЫЯ СПЕВЫ

Я хачу фарбаваць твае раніцы ў цёплыя колеры,
У пакоі, дзе смерці няма, дзе спыняецца час...
Адчыніць бы акно аж да мора духмянага водару,
Абы сцяг нашых шэптаў санлівых лунаў напаказ.

Я хачу падарыць табе промні паўночнага ззяння,
Маляваць над табою ўсе зоркі малочнага шляху,
Быць травой над нагамі, быць ветру вясновым гуканнем,
І лагодным дажджом хачу грукаць пяшчотна на даху.

І навошта мне больш? Сваё шчасце трымаю рукою!
Нінавошта мне сонца, вясна, кветкі, мора ды дрэвы:
Калі побач з табой я магу дакранацца да мрояў
І чуваць пад зямлёй ажно тыя ж птушыныя спевы.

## ПРА МОВУ

Называлі мяне тут паэткай, легендай, пракокам,
Бо пракокам бываць немагчыма на роднай зямлі.
Беларускую мову, відаць, цэнім толькі здалёку,
І стагоддзе таму вы яе сапраўды аддалі.

Называлі мяне беларусы ледзь не гераіняй,
А на справе я толькі дзяўчынка: малая, слабая,
І мой голас губляецца ўжо, як Хрыстос у пустыні,
Бо я птушка марская — хварэю, калі прылятаю.

І чакалі не раз ад мяне найчысцейшае мовы,
Кожны водгук, бы камень, балюча, бязлітасна б'е.
Збудаваць мне адной усё, што знішчана вамі, нанова?
Размаўляеш на роднай са мной? Размаўляй без мяне!

Колькі ж хопіць мяне? Не магу падарыць абяцанне!
Колькі вершаў маіх, колькі слоў узляціць угару?
Мо сама й адлячу назаўсёды на крылах кахання,
Я смяротная ўсё ж — можа сёння ці заўтра памру.

Хай гучыць беларуская мова і ў хаце, і ў краме,
Хай гучыць і на спрэчках, і ў стогнах, калі жарсны секс.
Напішы беларускі радок сябру, дзецям ды маме,
Хай гучыць! Пераўзыдзе бяскрылы, інертны мой тэкст.

Не чакайце, сябры, пазітыўнай чужынскай адзнакі,
Ані слоў «благозвучная, что ж» ад «старэйшых братоў»,
Не шукайце вы зоркі на небе, прычыны ды знакі:
Беларусь будзе жыць там дзе памяць, дзе мова й любоў.

* * *

Надзея нараджаецца ў абдымках,
Пяшчотнай, цёплай, голай цішынёю.
Няхай пануе цемра над зямлёю,
Надзея нараджаецца ў абдымках.
На свеце застаёмся мы з табою,
Ператвараем вечнасць у хвілінку:
Надзея нараджаецца ў абдымках,
Пяшчотнай, цёплай, голай цішынёю.

## Я ПРЫЙШЛА З НІАДКУЛЬ

*Прысвячаецца Беларусі*

Я прыйшла з ніадкуль — ні з таго, ні з сяго,
Цёплым брызам паўднёвага краю.
«Ты чыя?» — кажуць мне. Я прыйшла з ніадкуль,
І са слоў помню толькі «кахаю».

Быццам песня далёкіх, шчаслівых гадоў,
Я прыйшла да цябе, нібы з грому.
Невядома, чаму я прыйшла з ніадкуль,
Бы пакутна-салодкая стома.

Я прыйшла з ніадкуль мімалётным святлом
І раптоўнай, натхнёнаю думкай,
Лёгкім подыхам, сном — я прыйшла з ніадкуль:
Уся вечнасць адным пацалункам.

І радзімы няма, і дарогі назад,
Толькі шэпат высокай ялінкі.
Без пытанняў сюды я прыйшла з ніадкуль
Лістападаўскай першай сняжынкай.

Я прыйшла з ніадкуль, я пакінула ўсё:
Лета, сонца ды сіняе мора.
Я забыла сябе — я прыйшла з ніадкуль,
Кепска будзе? Магло б быць і горай!

Я прыйшла з ніадкуль, мімаволі, няўзнак,
Выпадкова, знянацку і ўзімку.
Нарадзілася дзесь — і прыйшла з ніадкуль,
Каб памерці ў цябе ж у абдымках.

Я прыйшла з ніадкуль, і твой горад люблю,
Люблю шэры праспект, нібы з гліны,
Пекла й рай я люблю — я прыйшла з ніадкуль,
І трымаюся за павуціну.

Я твой вецер люблю, тваё неба люблю,
Я люблю тваю ціхую мову.
Патрымай на руках — я прыйшла з ніадкуль,
Не кажы мне жахлівага слова!..

Я прыйшла з ніадкуль — і твой дождж палюблю,
Тваю цемру, балота, туманы...
Вось адзіны мой грэх: я прыйшла з ніадкуль,
Пакахала цябе я зарана.

Я прыйшла з ніадкуль — толькі не выкідай,
Я магу і ў кішэню схавацца.
Я ніхто, я нішто... Я прыйшла з ніадкуль.
Я прыйшла — ты дазволь мне застацца.

## ПОСТМАДЭРН

Купіць бы новую душу,
Здаровую,
Без паэзіі
І іншых недахопаў,
Альбо, прынамсі,
Аддаць бы гэтую сваю душу на рамонт:
Яна парвалася ўшчэнт,
І няма што апранаць узімку
На сэрца.
Выходжу з хаты, фактычна, голай
І вяртаюся з супермаркета без кавы,
Бо я запомніла твой сілуэт з кубкам кавы
Насупраць соннага сонца халоднай раніцы,
І нават пах мне баліць.
Я не хацела быць паэтам,
Я не хацела быць анёлам,
Ані, што горш, намеснікам анёла,
Я хацела быць проста сабой,
Нарадзіцца з чыстым аркушам
Замест старой душы з крамы сэканд-хэнд;

Нарадзіцца з паўнавартаснымі крыламі
І без цяжару ўсяго чалавецтва на плячах;
Нарадзіцца без лебядзінай песні,
Нарадзіцца шчаслівa, усляпую і надоўга.
Мяне забяруць, забяруць...
Я думала ў маленстве:
А не забралі. Сяджу
Паміж двума чужымі сусветамі,
Таму што няма больш
Каму тут сядзець,
І чакаю моўчкі.

* * *

Калі б над шэрым небам, над самотай,
Душа мая ўзляцела дзьмухаўцом,
Ці залатою восеньскай лістотай,
І ўбачыла б здалёку родны дом,

Захопленая ветрам, зорным пылам,
Туга б ляцела ўжо над галавой...
Сышла б я шэптам, сном за небасхілам,
А сум і здраду не ўзяла б з сабой.

Хоць не пажыўшы ў сэрцы мне каханым
Сыходзіць цяжка — нарадзіцца б зноў:
Увесну б ціхай ружаю духмянай
Ператварыцца ў чыстую любоў

І жыць любоўю шчодраю, цярплівай,
Надзеяй дыхаць і не помніць зла,
Любоўю быць з табой неганарлівай
І знікнуць белым дымам, як прыйшла.

* * *

Я існую? Хіба што напалову,
Мяне так пазбягае цеплыня...
Я лёгкі подых паўшаптанай мовы,
Яна гучыць: астатняе — хлусня.

Ты існуеш? Здаецца, што знікаеш.
Ляжыш каля мяне — не адчуваю.
Знішчае нас рака глуханямая,
І тонем мы на беразе адчаю.

Між пальцаў ціха сыплецца каханне,
Як крыкі чорна-белага Пікаса.
Заканчваецца час да развітання.
Ці зможаш ты нам вырабіць больш часу?

Гефеста слёзы, агнявыя птушкі
Лятуць на поўдзень над праспектам шэрым,
Як узлятаюць мары з-пад падушкі.
Мы існуём? Жывём з табой? Ці верым?

Блукаю я ў марозлівай самоце.
Стагоддзяў колькі доўжыцца дарога?
Адказ схаваны ў восеньскай лістоце,
Мяне цалуюць вечнасць і трывога.

Пакуль чуваць гітары плач так горкі,
І не астынуць попел і любоў.
Пакуль шчэ ззяюць пад зямлёю зоркі,
Вяртай дадому, be my homeward dove.

Вярнуць цябе б! Вярнуць і неба, мора,
Вярнуць бы зарапад над галавой,
Вярнуць бы смерць, вярнуць бы нават горыч,
Абы хвілінку хоць пабыць з табой!

Іду наперад — рэха белай ночы.
Няма світання, не пяе жаўрук

Узгадваю пяшчоту, вусны, вочы
І дотыкі амаль забытых рук.

Ты існуеш? Сыходзіш ты, знікаеш,
Скажы хоць слова, патлумач, чаму!
Каханы, не патрапім мы да раю,
Я прадчуваю доўгую зіму.

Кувае, бы касцельны звон, зязюля,
Мне не пазнаць, мне не адчуць, чыя я,
А самазадаволены дзядуля
Сядзіць на троне й ціха назірае.

* * *

Каля мора таксама зіма,
І няважна цяпер,
Што ў паветры
Аж дваццаць цяпла,
І гукае бясконца
Тут рэха «La mer»
(Дэбюсі), і на небе блакітна без хмар,
І што сонца кідае
Залатыя ўжо сеткі ў ваду,
І салёныя ветры,
Пяшчотна палашчылі твар.
Адчуваю зіму!
І няважна, што чайка спявае,
І высока губляецца над галавой,
Мне мароз
Адзінокі прывёз паравоз,
Мне халодна тут, як зімой,
І я ведаю,
Што не ў пяску холад,
Не ў моры, не ў небе, у сонцы й вадзе,
А ў мяне:
Калі я не з табой,

Глуха б’ецца, як молат,
У сэрцы маім
Адсутнасць рукі
Тваёй
На дрыжачым ад стрыманых слёзаў плячы.
Каля мора таксама зіма,
Як цябе
Тут няма.

* * *

Стваральнік мар, даследчык іншасветаў,
Дарослы сум, дзіцячая душа,
З табой прыходзіць штучная вясна,
Ты творца дзённых сноў, каваль каметаў,

Герой марозных зім, дажджлівых летаў,
Калі кватэра цісне, як турма,
Ты інжынер самотнага святла,
І валадар прыдуманых планетаў,

Заступнік маладосці — ты ўспамін,
Збавіцель белай тысячы начэй,
Уцёкаў архітэктар — ты адзін,

І вынаходнік стомленых вачэй,
Апавядальнік мёртвых, злых гадзін,
Мастак, паэт і трохі чарадзей.

## ЛЮБОВІ ШМАТ

Вакол мяне, глядзі, любові шмат,
Яна цячэ зімовай, шэрай слотай,
З любоўю й непагода — вершапад,
І лёд блішчыць сярэбранай пяшчотай,

Хай ноч марозіць рукі без спагады,
Хай моцна ў сэрцы навальніца б’е:
Утульна мне і у абдымках лістапада,
Вакол мяне, зірні, любоў жыве,

Яна чакае ў чэргах па самоту,
І ззяе ў промнях рэдкага святла,
Любоў і пад зямлёю, і за дротам,
Яна ляціць таемна, як імгла,

Гарыць у тытунёвых недапалках,
Сядае ў перапоўнены трамвай,
Любоў мяне захоплівае цалкам,
Ці чуеш ты? Яшчэ крыху трывай!

Над горадам няхай лунае смог,
І цёплага паветра тут няма,
Хай кветкі паміраюць ля дарог,
Вакол мяне, заўваж: любоў, вясна!

Відаць каля смярдзючага пад’езда,
Чуваць і з прадавачкі рэзкіх слоў,
Яна вядзе — чакай майго прыезду,
І дойдзе да цябе мая любоў!

Няхай пануе чыстая туга,
І цемра над табой глуханямая,
І холад рэжа, цісне, як турма,
Няхай цябе знямога забівае,

Любоў настала! Не вярнуць назад,
І побач з ёй астатняе — нязначна.
Вакол мяне любові шмат, так шмат...
І без яе галоўнага не бачна.

# ПРОЗА

*Прозу я пішу рэдка і павольна, але вельмі старанна. Апавяданне «Пір» было напісанае ў аўтобусе, які ехаў з Мінска ў Варшаву 8 траўня 2016 года. Да «Шпацыра» я збірала матэрыялы тры гады, чытала навуковыя артыкулы, брала інтэрв'ю, усё дзеля гэтых трох-чатырох дарагіх сэрцу старонак. «Лісты з новага сусвету» фармаваліся ў галаве дужа доўга, і ў іх аснове ляжыць мой улюбёны дыхатамічны вобраз — крылы і бяскрылле.*

## ПІР

Дарагі чытач, дазваляеце, каб мы перайшлі з Вамі на «ты»? Так? Дзякуй. Калі не, я не ёсць жывою аўтаркаю, а толькі мёртвымі, выдрукаванымі ўжо словамі (калі знайшліся матэрыяльныя сродкі на публікацыю, вядома). Я ўжо перайшла з табою на «ты». Прабач, калі гэта цябе ў нечым абражае.

Уяві, калі ласка, што ты маладая жанчына ў Антычнай Грэцыі. Так, я разумею, што было б нашмат лягчэй папрасіць цябе, чытача, уявіць сябе мужчынам; мужчыны-чытачы ёсць мужчынамі, а жанчыны-чытачы, як мне здаецца, больш прывыклі да такой ментальнай гімнастыкі. Справа ў тым, дарагая, — я ўжо перайшла ў жаночы род, не звяртай увагі — што нарацыя развіваецца ў кантэксце, у якім мужчынаў, на вялікі жаль, амаль не засталося, і таму лагічна мець гераіню, а не героя (якое трапнае слова!). Зараз будзе ўсё зразумела.

Вясна. Вайна супраць Рыма скончылася. Кароль Пір вяртаўся ноччу ў горад. Твой муж не вярнуўся з бою, але назвалі яго героем, таму ты павінна апрануць найпрыгажэйшую тваю тогу (з таго, што ўдалося выратаваць) і зрабіць фантастычны макіяж; будзеш сядзець побач з каралём. Твой старэйшы брат, у сваю чаргу, ужо некалькі дзён у горадзе, але страціў правую руку, левае вока і — гэта найважнейшае — розум. Гэта ўжо не той чалавек, які абараняў цябе ад усялякай крыўды ў дзяцінстве. Не той, хто пайшоў працаваць, калі твой бацька памёр, яшчэ да вайны. Твой брат не гаворыць, не глядзіць у вочы, не пазнае ані цябе, ані каго іншага. Не ў стане апранацца, есці, мыцца сам. Гэтым займаешся ты — табе прынцыпова. Яшчэ ты была цяжарная, але страціла дзіця падчас вайны. Стрэс і недаяданне справакавалі ў цябе выкідыш на чацвёртым месяцы цяжарнасці — пра што ведае толькі твая маці. Ты страціла першае сваё дзіця з мужам-героем, якога ўжо няма. Ты сабе гэтага не даравала.

Чытач, мы з табой ведаем, што гістарычны грэцкі кароль Пір лічыў гэтую сваю перамогу роўнай паразе. Плутарх жа запісаў ягоныя словы: *Яшчэ адна такая перамога, і я застануся без войска.* Я ведаю, што ты чалавек адукаваны і разумны,

зможаш, напэўна, працытаваць Піра і па-старагрэцку; не рабі гэтага, гэта гучыць занадта прэтэнцыёзна. Але давай уявім іншую версію той гістарычнай падзеі. Пір, мякка кажучы, здурэў. Ён эйфарычна задаволены вынікам вайны, загадаў падрыхтаваць вялікі банкет, і каб ты, Ірэне (як ведаеш, тваё імя значыць «мір» па-грэцку, якраз), удава героя, сядзела побач з ім і піла з ім. Горад знішчаны, ежы ўжо няма. Паловы насельніцтва не стала. Але людзі чамусьці накрываюць банкетны стол з энтузіязмам. Пытаешся, адказ адзін — «Галоўнае, вайны ўжо няма. І наш кароль Пір — выдатны генерал, пераможца».

Ясі, як можаш. Пакорліва слухаеш недарэчныя жарты п'янага караля. Адчуваеш, як праклятая перамога расце ў роце. Раптам твой брат кідае кавалачак сухаватага хлеба ў вялікага генерала. У іншай сітуацыі табе было б нават пацешна, але ты, зразумела, без настрою. І, калі шчыра, баішся таго вар'ята, якога называюць каралём. Здзіўляешся, калі Пір ласкава просіць пару рабыняў, каб заняліся тваім братам. Табе непрыемна. Не хочаш, каб брат сядзеў занадта далёка ад цябе, ён бы цябе не кінуў. Яшчэ больш непрыемна робіцца, калі кароль кладзе далонь на тваю нагу і кажа: «Без інваліда, цяпер ты ўся мая, даражэнькая. Трэба святкаваць перамогу, як след!»

Не ведаеш, што з табой. Не кантралюеш ужо сваё цела. Устаеш і прамаўляеш наступныя словы:

*«Вялікі генерал гаворыць пра перамогу. Але я хачу вас, народ, спытаць — якая гэта перамога? Вы яе бачыце? Мы ямо сухі хлеб пры святочным стале на двары. Горад абсалютна знішчаны. І сам стол напалову пусты. Дзе мой муж? Слова "герой" не мае для мяне значэння! Лухта на ветры! Ніхто не верне мне дзіцяці, адзінага ад мужа, якое я страціла назаўжды падчас той вашай "перамогі"! Глядзіце на майго брата! Ён вярнуўся, так, але ў якім стане? Без рукі, без вока... Мяне не памятае. Мой родны брат-пераможца мяне не памятае! Перамога, перамога. Якой цаной перамаглі? У нас нічога не засталося! Ні каханых намі мужчын, ні братоў, ні сыноў, ні горада, ні ежы... Нават вайны ў нас не засталося, каб адцягваць нас ад непапраўных стратаў, ад болю, ад жалобы! Калі гэта перамога, дык лепш бы!..»*

Натоўп раз'юшаны патрабуе, каб цябе затрымалі. Кароль апантана і злосна дае загад. Ахоўнікі не даюць табе даказаць апошні сказ. Удар, чарната. Далёка-далёка чуеш рэха голасу караля: «...Вар'ятка. Людзям цяпер патрэбны спакой. Галоўнае — мы перамаглі. Вайны няма і не будзе».

## ШПАЦЫР

Змітрок са мной практычна не размаўляе. Так з дзяцінства. З мамай маёй ён вітаецца коратка і сціпла. Не дужа красамоўны Змітрок чалавек, у любым выпадку. Іншыя, рэдкія госці, кажуць маме: «Марына Ігараўна, я не ўмею, не магу. Мне няёмка». Ды ўсім няёмка. Па праўдзе, са мной гамоніць адна мама. Толькі ў яе засталася нейкая вера ў тое, што я слухаю. А Змітрок такі, яму заўжды цяжка загаварыць. Хлопец шчыры, добразычлівы, ціхі, просты. А прыехаў ажно з вёскі дзеля нас. Мама традыцыйна пытае: гарбаты ён не хоча, перакусіў перад электрычкай. Мама ўсё адно пакорміць яго пасля справы, як штогод.

Як заўжды, мама адразу сыходзіць на кухню, гатаваць, так бы мовіць, святочны абед. Калі задумацца, гэты прыметнік гучыць занадта прэтэнцыёзна. «Святочны». У нас з мамай сапраўды няшмат. Працаваць яна не можа, зразумела. Дык мама адыходзіць, а Змітрок набліжаецца да мяне. Нашыя позіркі сустракаюцца на некалькі секунд. У яго наіўныя вочы шэра-блакітнага адцення, якое злёгку мяняецца ў залежнасці ад святла. «Раз, два...» — прамаўляе ён. На «тры» здараецца маленькі, так моцна мной чаканы цуд сярод сумнай штодзённасці: лячу. Дакладней, Змітрок узнімае мяне і ўжо ідзе да дзвярэй.

Спускаемся па лесвіцы павольна да болю. Яшчэ восем паверхаў. Адна суседка назірае неяк занадта доўга, інтэнсіўна. Агрэсіўна? Яе маленькі сын падыходзіць. «Вяртайся ў кватэру, няма тут на што глядзець», — чуецца яе гучны шэпт. Дзядзька Толя з сёмага паверха падымаецца дадому. Добры мужык; мама кажа, чалавек высокай культуры. Дзядзька саступае нам дарогу і праводзіць нас позіркам чыстага шкадавання.

Першыя паверхі мы пераадолелі адносна хутка, але нават Змітрок стамляецца. Сходы вузкія, і заўважна па ім, што хвалюецца, як і апошнім разам. Усё ж такі ён нясе не мех з бульбай: як бы там ні было, я жывы чалавек. На другім паверсе сустракаем шумлівага Лёліка. Хай яго халера! Алкаш, як заведзена, спяшаецца па піва. Яны ледзь не зваліліся з ног, а я — па сходах, ды з усяго маху. Добра, што Змітрок спрытнейшы, чым падаецца з першага погляду.

Такое адчуванне, што спускаемся ў апраметную. Узгадваецца той час, калі мама чытала мне «Боскую камедыю». Яна кінула сваю італьянскую філалогію на чацвёртым курсе, а шкада. Паміж другім і першым паверхамі цалуецца маладая, незнаёмая мне пара. Ну, «цалуецца» — мякка сказана. Яго валасатая рука ўжо аказалася ў яе пад курткай, чуваць яе прыглушаныя стогны і яго хуткае дыханне, хаця, відавочна, яны шчыра думаюць, што мы не заўважаем. Альбо ўсё ж старанна прыкідваюцца. Альбо, верагодна, ім усё адно. І сапраўды, Дантэ ганарыўся б нашым шпацырам. Імкнуся не звяртаць увагу. Нібы й безгустоўшчына, але, да майго сораму, мне падурному козытна паміж ног. Можа, і не дзіва. Інтрыгоўна, як гэта. Секс. А спадзявацца — пустая справа. Якое права я маю спадзявацца на такое? Каханне, паводле Петраркі, — не для мяне. Як і інтрыжкі Бакача, нават. І майстры Рэнесансу такіх не малявалі, не.

Хвілін праз пятнаццаць мы выходзім на двор. Прахалодна. Позняя восень ужо. У мінулым годзе Змітрок прыязджаў яшчэ ў кастрычніку, а розніца больш, чым заўважная. Волкасць паветра неверагодная, клеіцца да твару, баліць у грудзях. І дыхаць цяжка, але гэта цана свабоды. І якая салодкая свабода! Якое высокае шэрае лістападаўскае неба! Якія вытанчаныя промні забытага сонца! Нават ад гэтага слабога святла вочы баляць: заўжды патрэбны час, каб прывыкаць да сонца пакрысе. Лістота на тратуары вільготная і брудная. Ноччу няспынна падаў дождж, дый тут столькі людзей ходзіць за раніцу! Ведаю, люблю назіраць з акна. Затое якія ж успаміны пра залатую восень, якія сляды засталіся на зямлі!

Найбольш люблю глядзець зблізку на людзей, безумоўна. Аналізаваць твары выпадковых мінакоў. Яны часам глядзяць на мяне. Непрыемна бачыць у іх позірках страх, неразуменне, спачуванне... Затое відавочна: гэта жывыя душы з цікавымі ды складанымі жыццямі. Сутыкаемся выпадкова. Яны пра мяне не даведаюцца (а што ж там даведацца!). Я пра іх таксама. І ніколі больш не сустрэнемся. Я ніколі не забываю чалавечых твараў. Вывучаю я іх старанна, хоць і коратка. Мяне дагэтуль здзіўляюць колеры незнаёмых вачэй, тыпы чужых насоў... І галасы! Ох, вялікі хор вулічных негарманічных галасоў!

З гукаў я люблю яшчэ грукат трамвая, калі ён едзе побач. І размовы, калі адчыняюцца дзверы і выходзіць натоўп. Люблю спеў меланхалічных гарадскіх птушак — шкада, што я ў птушках не кемлю, хацелася б пазнаваць кожную паводле апярэння і шчабятання. Абагаўляю музыкаў, якія адважваюцца граць каля метро. Мама прадала піяніна даўно, граць не было ні часу, ні ахвоты... А мяне так моцна цешыць жывая музыка!

Нешта левая рука баліць. Некаторыя пальцы адчуваю слабавата. А, вось яно што! Пальчатка ўпала недзе! А паветра такое лютае, вільгаць жудасная. Ці на вуліцы згубілася тая пальчатка? Ці ў пад'ездзе? Усё адно мне толькі цяпер стала зразумела, а Змітрок не заўважыў. Перацярпець, значыць, трэба. Стары паэт чытае вершы на чароўнай трасянцы, просіць на гарэлку. Своечасовы выступ, гэта дакладна: дапаможа забыць і пра руку.

Змітрок закашляўся. «Выбачай, сёння вернемся дадому крыху раней, чым звычайна. Я прыхварэў. Але вярнуся і ўвесну, прыеду двойчы, добра?» Гэта быў першы сапраўдны цуд дня. Змітрок звярнуўся да мяне, ды ажно чатырма сказамі! Цэлыя чатыры сказы, прысвечаныя толькі мне. А гэтае «добра?» напрыканцы, гэтае пытанне! Разумею, так гавораць. Проста. А для мяне быццам найпрыгажэйшая мелодыя Моцарта. «Так, добра!» — я чую ў галаве тым голасам, якога ў мяне няма. «Я цябе слухаю! Згода! Добра! Не хварэй, Змітрок!» — думаецца. Ён ведае, што я яго слухаю!

Ёсць людзі, якія жывуць у чаканні малых, штодзённых цудаў. Не, я даўно не з такіх. Раней... Можа, было такое. Не

помню. Але быў за дзень і другі цуд. Цуд у форме пяшчотных сняжынак, якія лашчылі мне лоб, нос, шчокі, вусны. Пайшоў першы снег. Хараство прыроды ўзрушыла мяне, быццам першы раз ляціць снег над планетай. Нават Змітрок, хоць і хворы, не спяшаўся ўжо дахаты. У той момант існаваў толькі святы, сакральны першы снег, як касмічнае хрышчэнне. Не было месца зямным хваляванням, прастудам, халодным рукам і сталічнай мітусні.

Змітрок адпачывае ад паходаў па лесвіцы за шчодрай порцыяй бульбы з таннай каўбасой і кубкам свежай чорнай гарбаты. Падымацца штогод цяжэй. Мама распавядае пра Умберта Эка за абедам: «Як напісаць дыпломную працу», ёсць такі ў Эка вясёлы дапаможнік для студэнтаў і аспірантаў. «Можа, калі-небудзь і напішу дыпломную», — заяўляе мама. Яна вымаўляе гэтыя словы не без сарказму, але вочы пры гэтым такія жывыя... Бачна на імгненне маладую, амбітную дзяўчыну, якою яна была. І Змітрок яе бачыць, я ведаю з упэўненасцю. «Цёця Марына, я вярнуся ўвесну. Абяцаў», — кажа ён, ціха ды ветліва. А мама цешыцца. Калі сыходзіць Змітрок, мама зачыняе дзверы на ключ, як заўсёды. Мы з ёй адны, а хто ж ведае... «Ну, маё дзіця дарагое! Я сумавала па табе, сонца. Як шпацыр?..»

## ЛІСТЫ З НОВАГА СУСВЕТУ

### I

Усё пачалося ў прахалодную вясновую раніцу, калі Адэля Гагарына, студэнтка чацвёртага курса ў Інстытуце журналісткі БДУ, прачнулася з калючым болем у лапатках. Боль быў заўважным, адназначна, але цалкам выносным, і Адэля вырашыла яго ігнараваць. «А можа, само пройдзе». На дварэ быў шэры аўторак, вельмі падобны да папярэдняга. Перад дзяўчынай былі тры тэарэтычныя пары і сустрэча з навуковым кіраўніком. У любым выпадку, у яе не было часу хварэць. «Пахварэю, — падумала, — па абароне і дзяржіспыце. А цяпер ну іх, лапаткі».

Слабыя промені святла на хмарнаватым небе, як дрэнная прыкмета, ціха нагадвалі ёй пра тое, наколькі кіраўнік будзе расчараваны (зноўку!) недапісаным ёю раздзелам. «Яго ж справы». Адэля павярнулася ў ложку. «Нашто ж было так шмат чакаць ад мяне?» Такім самым чынам, вышыня сарамлівага сонца над небасхілам дала дзяўчыне зразумець, што можа не паспець на першую пару. Адэля адразу ўстала з ложка, спатыкнулася на пыльны футляр скрыпкі і ледзь не ўпала. «Эх, навошта я прывезла яе з Оршы? Трэба будзе неяк прыбірацца тут, а то вернецца Яня...» — уздыхнула Адэля, шукаючы сярод мора папер на стале раздрукаваныя дыпломныя матэрыялы. Патрапілася пара старонак «Лістоў з новага сусвету», амбітнага фантастычнага рамана, які яна пачала калісь пісаць з дапамогай Андрэя. «Блін, і гэта тут ляжыць?» — здзівілася студэнтка. «От! Гэта яно: “Уплыў тэатральнай крытыкі на развіццё беларускай драматургіі 70-х і 80-х гадоў”. Захапляльна, арыгінальна, рабі так, як не робіць ніхто», — пасмяялася дзяўчына пераможна, але не без сарказму. Адэля апранула ўчарашнія джынсы і першы-лепшы швэдар, пачысціла зубы і ўцякла з інтэрната ў накірунку метро. Да інстытута было толькі дзве станцыі, але пехатой дабегчы ў час было ўжо нерэальна. Пра лапаткі, натуральна, яна забыла.

Пары аказаліся нудотнымі, як заўсёды апошнім часам. Цень надыходзячай сесіі псавала атмасферу ў аўдыторыях, а манатонныя чытанні старамодных выкладчыкаў перашкаджалі ўспрымаць матэрыял. «Паўтара месяцы да выпускнога», — палічыла Адэля. Кіраўнік, да яе здзіўлення, пахваліла няпоўны тэкст, які яна падкарэктавала падчас перапынкаў. «Мабыць, і яна здалася, — тлумачыла сабе стомленая дзяўчына, — абы здала працу, абаранілася і паехала назад у сваю Оршачку». Адэля зайшла ў душ, як толькі прыехала дамоў. Лапаткі свярбелі пад грубым швэдарам. Адэля паглядзела ў люстэрка праз плячо — скура гарэла чырвоным колерам, а лапаткі былі злёгку апухлымі. Было выразнае адчуванне цеснаты. «Увільгатняючы крэм у дапамогу, напэўна, — дзяўчына балюча паціснула плячыма. — Хварэць часу няма, не хапала б яшчэ».

Боль абвастрыўся ўвечары. «Гэта стрэс. Усё стрэс». Адэля выпіла цэлы грам ібупрафену і легла спаць.

У тую сераду ў Адэлі не было заняткаў. Адна выкладчыца была на канферэнцыі, другая ўзяла бальнічны. Дзяўчына пачувалася значна лепей: апухласць адпусціла, у спіне застаўся ледзь заўважны глухі боль. Яна вырашыла дапісаць трэці раздзел дыплома зранку. «Вось напішу пра першыя артыкулы Мушынскай пра балет, а потым ужо пойдзе заключэнне, лёгка!» Затое патрапіўся зноў стары рукапіс рамана. На другой старонцы «Лістоў з новага сусвету» вымалёўваліся яе кругленькія, амаль яшчэ дзіцячыя літаркі побач з неакуратным, няўстойлівым почыркам брата. Маленькая дзяўчынка кшталту яе трапіла ў іншасвет, адкуль можна было адпраўляць лісты з дапамогай магічных ластавак, якія ляцелі да нашай рэчаіснасці пяць гадоў, а назад — яшчэ столькі. Вобраз ластаўкі быў задумай Андрэя, «у Старажытным Егіпце менавіта яны былі псіхапомпам, ведаеш? А гераіня стане ў той рэчаіснасці каралевай...» Яна б аддала ўсё за ліст ад брата. Колькі гадоў прайшло дакладна? Ластаўка паспела б ужо, пэўна. Адэля з настальгіяй перачытвала ледзь пачаты опус, калі зазваніў яе мабільнік. Міхась. А хто, калі не ён? Яшчэ раз Міхась. Той Міхась, які не разумее самыя звычайныя і простыя беларускія

словы: «між намі ўсё скончана», «я не хачу размаўляць», нават капітальнае, кароткае, дасканалае «не». Той Міхась. Адэля выключыла тэлефон і ўзялася за дыпломную працу.

## II

Электрычка з Мінска ў Оршу едзе каля чатырох гадзін. За апошнія шэсць месяцаў Адэля ездзіла ў родны горад толькі два разы — на Новы год і па бюракратычных справах. Ёй было складана знаходзіць у сабе сілу на дарогу і цярпенне на сваякоў. «А ў суботу дзень народзін мамы. Трэба ехаць», — рашуча заявіла Адэля самой сабе і адправілася на Мінск-Усходні.

Спіна пачала балець у Красноўцы, калі засталося трохі болей за палову шляху. «Таблеткі, халера, скончыліся. Толькі перацярпець». За акном вясна ганарліва паказвала свае колеры, ззяла сонца з-за белых хмурынак. Адэля зняла лёгкую куртачку, у якой стала цесна, пакінула толькі блузку. Яна адчула спакусу расшпіліць станік, які жорстка ціснуў на балючае месца, але стрымалася. «Трэба паспаць».

Бацька сустрэў яе на вакзале.

—Тата! Дзякуй, што прыйшоў, але ну, неабавязкова было.

—Абавязкова, анягож. Я б не мог... — бацька не скончыў пачаты сказ — Адэлька, ты бледная, не? Стамілася?

—Ага... — ёй было непрыемна хваляваць тату.

—Давай пройдземся з табой да маці, а? Заўтра што ў яе, абед?

—Так, цётка Наста нібыта прыедзе, бабуля, канечне, будзе.

—Зразумела. Еж добра, ага? Пабудзь з маці. Ты ж ведаеш...

—Так, ведаю.

Адэля слаба ўсміхнулася. Ёй даўно здавалася, што размовы з бацькам перарываліся заўсёды напалову. Столькі недагаворанага за гэтымі «ты ж ведаеш...» Шматкроп’е ў стасунках.

Яны няспешна пайшлі праз рэйкі, дайшлі да Юбілейнай за няпоўныя дзесяць хвілін. Прайшлі з бацькам, нарэшце, міма дзясятай школы. Адэля ўзгадала Вікторыю Сяргееўну, маладую настаўніцу рускай мовы і літаратуры, дзякуючы якой яна вырашыла паступіць на журналістыку. «Разумееш,

Адэля, — яна звярталася да ўлюбёнай вучаніцы на “ты”, калі былі адны, — філалогія, хочаш ці не, малаперспектыўная... А ў цябе ёсць талент. Дар Слова! Станеш бліскучай журналісткай. І пісьменніцай паспееш стаць, як захочаш». Адэля стрымлівала слёзы. Падумала пра рукапіс, які ляжаў на стале ў Мінску. «Дайшлі, мая прынцэса!» — сказаў бацька з нотай светлага суму.

Калі Адэля ўвайшла ў кватэру, маці ўжо спала. «Худая ты, — дакорліва заявіла бабуля, — ды белая, як прывід! Ты хоць нармальна ясі ў сваіх Мінсках?» Унучка дазволіла сябе шчодра пакарміць, а потым адважылася спытаць: «Бабуля, мне нешта спіна баліць, зірнеш?» Лапаткі былі зноў чырвоныя і апухлыя. Бабуля вырашыла падлячыць Адэлю маззю і пакласці спаць. «Заўтра паглядзім, як там спінка. А ты вучыся меней, увесь час сядзіш за кнігамі, вось і баліць. І не хвалюйся, мазь маёй прабабулі — цуд». Дзяўчына прайшла да канца калідора, міма вечна зачыненага пакоя Андрэя, і легла спаць на свой стары ложак.

Адэля прачнулася без болю. Толькі цесната нагадвала пра сябе перыядычна.

—Адэля, як пішацца дыплом? — маці ўжо ўстала.

—Ну, як, пішацца. Вось толькі заключэнне засталося...

—А ты не зацягвай! — перапыніла маці. — А ці адшукала ўжо вакансію на размеркаванне? Глядзі мне, патрэбныя, прынамсі, два варыянты. А то потым універ адправіць цябе абы куды.

—Мама, не яшчэ, у мяне сумоўе на наступным...

—А ты не зацягвай! — паўтарыла маці.

Выратаваў яе прыезд цёткі Насты з тортам, які маме быў відавочна не даспадобы. Прынамсі, часова. За святочным сталом пачалося новае распытванне.

—А жаніх ужо ёсць? Табе ж 21 год. Што скажаш, а? — цётка сказала гэта з усмешкай, але ўважліва чакала яе адказ.

Адэля адчула раптоўны калючы боль у спіне і ўздыхнула.

—Ну, адказвай цётцы, а? Я хачу ўнукаў! — маці далучылася да размовы.

—А як жа яго... Міхась? — добразычліва спытала бабуля. — Добры хлопец, працавіты. Чаму не прыехаў?

—Выйдзеш за яго замуж, з размеркаваннем будзе нашмат прасцей, — заявіла маці.

У Адэлі кружылася галава. На сцяне, за мамай, вісеў апошні прыжыццёвы фотаздымак Андрэя. Брат глядзеў проста на яе сваімі меланхалічнымі вачыма. На здымку падаў снег. Дакладней, сняжынкі спыніліся ў часе і ў прасторы, засталіся ў паветры над галавой цёпла апранутага хлопца. Фотаапарат зафіксаваў няўдалую спробу ўсмешкі Андрэя, якая была настолькі яму ўласцівая. Адэлі падумалася, што яна была ўжо старэйшая за Андрэя яе памяці. «Чаму ты мяне пакінуў?» Біблія сама цытавалася. «Чаму не скончылі раман?» Адчайны позірк брата хацеў моўчкі адказаць на пытанне, якое Адэля задавала сабе гадамі, але не мог. Адэлі прыйшла ў галаву цытата з Караткевіча: «Кожны чалавек носіць сваё неба з сабой». Калі гэта было так, з таго моманту, калі брата не стала, яна насіла з сабой вечную шэрую навальніцу. А якое ж неба лунала над Андрэем, калі ён не знайшоў іншага рашэння? Адэлі хацелася крычаць, але яна загаварыла роўным голасам: «Мама, я кепска пачуваюся. І ў панядзелак у мяне прэзентацыя па музычнай журналістыцы. Можна я пайду падрыхтуюся, пасплю?» Лапаткі гарэлі.

## III

Адэля даехала да інтэрната а восьмай вечара ў нядзелю. Яня павіталася з ёй лаканічна, не здымаючы навушнікі, з якіх было чуваць «Наўтылус» і здалёку. Суседка толькі загаварыла, калі Адэля ўжо распранулася.

—Аёй! Што гэта ў цябе на спіне? Ты ўся чырвоная, блін!

—Ай, ды нічога, лапаткі баляць, — стомлена адказала Адэля, — гэта ад стрэсу.

—Не, ну, можа, зойдзеш да лекара ўсё ж такі? — Яня хвалявалася, хоць з суседкай і не сябравалі.

—Ты што? Пасплю, пройдзе.

Адэля легла на бок. Ляжаць на спіне было невыносна.

Яні не было ў пакоі, калі яна прачнулася. «Усё, правал», — праспала першую пару. Прэзентацыя па музыцы прайшла, быццам у сне. Боль быў пастаянным, вострым, і Адэлі было цяжка вымаўляць кожнае слова. Яна хутка выпіла чарговую пігулку, і папаўзла на метро.

«Не хочаце прысесці?» — прапанавала ёй школьніца. «Няўжо выглядаю так жахліва», — падумала Адэля. Дзяўчына з цяжкасцю паднялася па сходах, адчыніла мапу ў мабільніку і адшукала, нарэшце, сціплую рэдакцыю часопіса, дзе была дамова на сумоўе.

—Вы, пэўна, стаміліся? Не хварэеце? — запытаў намеснік галоўнага рэдактара.

Адэля паглядзела яму ў вочы: перад ёй сядзеў барадаты, худы хлопец, старэйшы за яе на чатыры ці пяць гадоў. «Колькі было б Андрэю цяпер?»

—Не... Спіна крыху... — голас Адэлі было ледзь чуваць. Дзяўчына дрыжала ад холаду.

—А давайце, я ўсё разумею. Прыязджайце яшчэ праз тыдзень, добра? Якраз вернецца галоўны рэдактар з адпачынку.

Адэля прамовіла слабенькае «дзякуй» і паехала дадому.

## IV

Дзікі, жывёльны крык Адэлі разбудзіў Яню сярод ночы. «Што з табой?» — спыталася суседка са страхам. Адэля не была ў стане патлумачыць. Яна згубіла самакантроль, плакала, выла, быццам воўк. Яня ўключыла святло. Белая прасціна суседкі была ўся ў крыві — нешта цвёрдае пачало рваць скуру спіны. Яню цягала да ванітавання. «Супакойся, — здолела сказаць і Адэлі, і сабе, — я выклічу хуткую».

Калі яе давезлі да лякарні, Адэля білася ў агоніі: боль у спіне быў невыносны, востры да жорсткасці, стан пагаршаўся з кожнай секундай. «Пацярпіце, — казаў лекар, — яшчэ крыху. Вось, малайчына, хутка скончыцца, пройдзе». Адэля бездапаможна ляжала на жываце. Скура над лапаткамі разарвалася ўшчэнт. Яе мазгі пераключаліся ад жаху да болю, ад болю

да адчаю, ад адчаю да крыві і пёраў на падлозе. «Пёры?» На спіне Адэлі з'явіліся два агромністыя, беласнежныя крылы. «Я... Анёл?» — з гэтым шэптам Адэля згубіла прытомнасць.

«...Так, сапраўды. Гэта ўжо трэці выпадак за красавік, — прагучаў мужчынскі голас, — але такія вялікія бачу ўпершыню». Адэля разумела толькі ўрыўкі размовы. «Падобна, увесну заўжды пагаршаецца», — заявіў жаночы голас. «...Помніце эпідэмію, праўда? Ішлі Каляды, некалькі гадоў таму...» — зноў мужчына.

—О, вы прачнуліся? — да яе звярнулася жанчына сярэдняга ўзросту ў халаціку медсястры. — Хочаце, патэлефануем каму са сваякоў?

—Не, дзякуй... У мяне ёсць крылы...

—Не хвалюйцеся, выдалім, — перапыніў яе немалады мужчына, які аказаўся лекарам, — адпачывайце пакуль, вы адыходзіце ад наркозу.

—Як... Выдалім? — спалохана спытала пацыентка.

—Натуральна, каб звярнуліся крыху раней... У пачатковай стадыі выдаляць крылы нашмат прасцей. У вас застануцца шнары на спіне, але зможаце пражыць паўнавартаснае жыццё, я вам абяцаю. Бо вы хочаце іх выдаліць, праўда?

—Я... Не ведаю... — ціха адказала Адэля, — у мяне крылы...

—Дзяўчына, вы не першая і не апошняя, не хвалюйцеся так, — супакоіла яе медсястра.

—Але... Выдаліць... Можа, не трэба? Гэта крылы... — Адэля вагалася.

—Дзяўчына, вы замужам? — спытала медсястра. — Не? Вось, вам яшчэ мужа знайсці трэба, нарадзіць яму дзяцей. Ды нават на працу не возьмуць... Каму ж вы патрэбная крылатая такая?

—Вось, гэта згода на аперацыю, — лекар трымаў дакумент у руцэ, — подпіс сюды... І вось сюды.

**Эпілог**

—Міхасю, дзякуй табе вялікі за дапамогу з пераездам! — Адэля пацалавала хлопца ў шчаку.

—Што заўгодна дзеля каханай! — пяшчотна адказаў Міхась. — А ты ўпэўненая, што хочаш выкінуць скрыпку? Шкада...

—Ды граць няма калі, а месца яна займае, — патлумачыла яна. — Хадзі сюды, дапамажы, калі ласка, разабрацца з паперамі.

—Медычныя спраўкі, дыплом, страхоўка... Гм, «Лісты з новага сусвету». А гэта што такое, Адэлька? — Міхась спытаў з цікаўнасцю.

—А нічога важнага. У сметніцу!

—Добра, як скажаш... А давай на мора з’ездзім улетку на тыдзень? — радасна прапанаваў хлопец. — Сонца і соль дапамогуць, шнары будуць амаль незаўважнымі.

—Давай, але помні, што я пачынаю працу ў газеце першага жніўня.

Адэля ўсміхнулася. Жыццё наладжвалася. «Вось яно — шчасце. Праўда ж?»

# ЭСЭ, КРЫТЫКА, ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Нядаўна быў у мяне невялікі юбілей: два гады таму я стала калумністкай часопіса «Маладосць». Штомесячная калонка пад назвай «Прысутны позірк» дае мне магчымасць пісаць пра тое, што цікавіць, хвалюе, баліць: пра літаратуру і пра жыццё, пра мастацтва і пра непрыгожасць, якая часам імкнецца апанаваць наш свет. У гэтай кнізе — мае калонкі за 2016, 2017 і 2018 гады.*

## АРПЕДЖЫА ДУШЫ, альбо МОЙ ПЕРШЫ КАНТАКТ З БЕЛАРУССЮ

Першы раз апавядаю гэтую гісторыю. Здавалася б, стагоддзі мінулі. Яго звалі Мігель. Яго зала была адзінай на першым паверсе. Дырэктар дазволіў яму там выкладаць, каб не прымушаць яго падымацца па сходах. Таму грацыёзныя ноты яго страдывaрыуса першымі віталі ўсіх наведнікаў музычнай школы адразу па ўваходзе ў будынак. Мігель быў высокі, худаваты, а твар у яго быў добры і спакойны, хіба стомлены той стомленасцю, якую большасць вучняў такой установы не бачыць і нават не ўяўляе.

Я грала — і граю дагэтуль — на піяніна. Таму мяне з ім доўга звязвалі выключна пратакольныя «добры дзень» у калідорах (ну і, вядома, словы майго настаўніка, якім выпадкова апынуўся дырэктар школы). Затое, як вядома, да кожнага музыкі-вучня прыходзіць ахвота паспрабаваць сябе ў іншым ледзь не метафізічным плане — навучыцца іншай пазіцыі, іншай адчувальнасці, іншым гукам, пахам і эмоцыям. Папросту кажучы, навучыцца граць на чым-небудзь яшчэ. Здагадваецеся, хто згадзіўся вучыць мяне свайму інструменту на год?

Гэта было вельмі даўно. У далёкім 2006 годзе. Як падказвае элементарная арыфметыка, мне было 13 гадоў. Я была нязграбнай дзяўчынкай-падлеткам, але з разумнымі вачыма і пэўным музычным талентам. Мігель настройваў маю скрыпку для пачаткоўцаў, я старалася граць, ён папраўляў, мы размаўлялі. Часта і доўга размаўлялі. Як належыць у такіх выпадках, я шалёна закахалася ў цудоўнага дарослага скрыпача з сумным позіркам і лёгкім кульганнем. Ды кульгання я і не заўважала, пакуль маці мяне не спытала, ці ведаю, ад чаго Мігель кульгае!

Аднойчы Мігель расказаў мне пра аварыю. А ты ведаеш, Анхела, чаму я кульгаю? А я не ведала, і мама спытала, таму я паглядзела на яго з цікавасцю. Аказалася, адной зімовай ноччу заўважыў каля дарогі разбітую машыну і параненую жанчыну. Мігель спыніўся і паспяшаў да яе, так хацеў дапамагчы, што забыў апрануць святлоадбівальную камізэльку. У выніку іншая машына збіла яго, ударыла проста ў спіну. Ён расказваў

пра гэты выпадак, нібыта вінаваты ён — у нас, зрэшты, еўрапейскі дарожны этыкет, камізэлька абавязковая, — і звычайны сум яго вачэй узмацніўся. Потым Мігель патлумачыў: лекары папярэдзілі, што шанцаў хадзіць зноў у яго вобмаль, а на скрыпку сказалі нават не спадзявацца. Мігель перапыніў мае змрочныя думкі просьбай заставацца з яго скрыпкай, пакуль ён зойдзе ў прыбіральню (скрыпцы адной нельга заставацца, бо яна — дарагі страдыварыус, гістарычны аб'ект, амаль што музейны экспанат). Няблага ведаў мяне Мігель. Ці разумеў, што гару маладым каханнем да яго?

Я разумела, што на рамантычныя адносіны прэтэндаваць не магу, але заўважыла, што ў яго на правай руцэ няма пярсцёнка. Нярэдка лавіла сябе на думцы, на пытанні, чаму ў такога выдатнага чалавека жонкі не было (паўтару, што мне было 13 гадоў, і яшчэ не ўмела быць цынічнай пры патрэбе). Аднойчы гарачым летнім вечарам, нібыта прачытаўшы мае думкі, Мігель загаварыў: *«Дзесяць гадоў таму я быў першай скрыпкай Венскай філармоніі. Мы часта гралі канцэрты з прыгожай маладой піяністкай з Беларусі. Мы закахаліся, пачалі жыць разам, планавалі вяселле. А яна знікла ў 1996 годзе, у Мінску. З'ездзіла дадому і не вярнулася. Вецер забраў яе, хто ведае, куды. Я пакінуў Вену і аркестр. З таго часу я адзін... Калі ласка, заставайся з маёй скрыпкай, мне трэба выпіць пігулку, спіна баліць»*.

Я засталася сам-насам з таямнічым, знямелым інструментам. Баялася думаць пра сакрэты, якія ён яшчэ хаваў. Мігель здолеў і хадзіць па аварыі, і граць, як пасля продажу душы д'яблу, але не закахацца зноў. Некалькі тыдняў таму я сустрэла яго выпадкова на вуліцы, у сваёй роднай Малазе. Ён дагэтуль працуе ў музычнай школе, іграе на страдыварыусе і не падымаецца па сходах. І дагэтуль без пярсцёнка.

## СТРАХ РАСЧАРАВАННЯ

— Анхела, а можа, пачакаеш крыху і пазней паедзеш у Беларусь? — спалохана спытаў чарговы мой знаёмы.

— Слухай, я добра ведаю клімат нашай дарагой РБ, не едзь у лістападзе, не варта, — упэўнена параіла мая блізкая сяброўка.

— Глядзі мне... Не расчаруйся. А найлепш заставайся ў Польшчы, — віртуальна прасіў прыяцель, які сядзеў за камп'ютарам ажно ў Мінску.

Чаму людзі не давалі мне спакойна планаваць сваю першую паездку ў Беларусь?

Страх (чужога!) расчаравання ў Беларусі — рэальная і дужа актуальная з'ява ў псіхіцы беларуса, пра што я даведалася ў кастрычніку мінулага года. Каб мяне спыталі раней пра беларускую ментальнасць, я б ніколі не называла падобных пунктаў; маё існаванне на беларускай культурнай прасторы пачалося недзе ў 2013 годзе. Публікаваць вершы я пачала ў 2014-м, і калі жыла яшчэ ў Іспаніі, далёка-далёка, беларусы, якія дадаваліся да маіх віртуальных сяброў штодзённа, рэгулярна запрашалі мяне да сябе, дадому. І ў горад, і да-сябе-дадому-сапраўды-ў-аўтэнтычную-беларускую-вёску-дзе-я-маю-хату-з-краю. Таму ў мяне склалася (не зусім памылковае, як мне падаецца) уражанне, што беларусы ганарацца сваімі людзьмі, сваёй прыродай, сваімі гарадамі, вёскамі і аграгарадкамі. Гэта тое, што я бачыла здалёк, калі свае санеты прыдумляла каля чужых берагоў паўднёвых мораў, і думала, што беларускі лес поўны мілых міфалагічных істотак, якіх так чароўна апісалі Багдановіч з Барадуліным. Відаць.

У 2015 годзе сітуацыя змянілася кардынальна. Кардынальна нават этымалагічна, бо я вырашыла паслухацца капрызаў свайго маладога сэрца, паступіць на магістратуру па беларускай філалогіі — бацькам так і не ўдалося зрабіць з мяне юрыста — і пераехаць, проста так, у Варшаву. З Малагі гэта недзе 4000 км. А да Беларусі, як вы ведаеце, ужо значна меней.

Беларуская дыяспара польскай сталіцы прыняла мяне як сваю і адразу. Я атрымлівала гадзіны і гадзіны маўленчай прак-

тыкі, часцей за ўсё, за півам. Што магло быць лепш? Затое я ці не імгненна заўважыла, што пытанне: «А ты ўжо была ў Беларусі?» — гучала па-іншаму, а рэпліку — «трэба пабываць абавязкова» — пасля майго адмоўнага адказу было практычна не чуваць. Пытанне аб тым, якая Беларусь у маім уяўленні, задавалася таксама не без страху. Нарэшце, адзін з маіх новых знаёмых патлумачыў, больш-менш, што да чаго: «У цябе, напэўна, хутка з'явіцца магчымасць зрабіць сабе візу і паехаць у Беларусь. У Беларусі не ўсе людзі, як у нас у Варшаве беларусы, з якімі ты тусуешся. Не расчаруйся». Падумае чытач, што ў Варшаве чытаюць вершы Караткевіча ў кожным пабе, арганізуюць канцэрты Вайцюшкевіча з Вольскім штотыдзень і паказваюць беларускае аўтарскае кіно за 10 злотых (папкорн уключаны) у цэнтры горада. І гэта... ну, амаль так. Паверце мне на слова, добра?

У любым выпадку, магчымасць перакрочыць беларускую мяжу з'явілася неўзабаве. На варшаўскім факультэце белфілалогіі, дзе я пару месяцаў вучылася, сабралася група студэнтаў, якія захацелі арганізаваць паездку ў Мінск на выхадныя. Я пераканала сваю маці, што едзе група з універа (зразумейце! Гэта было амаль праўда на сто адсоткаў), і, атрымаўшы яе згоду, падала разам з аднагрупнікамі на візу.

Шлях наш быў даволі доўгім і не без неспадзяванак, як я ў глыбіні душы і чакала. У чацвер дабраліся да Беластока, дзе мелі пераначаваць перад цягнікам у Гродна. Перш за ўсё здзівілі жарты маіх польскіх спадарожнікаў: мы едзем у славянскую краіну, таму трэба напіцца, як ніколі ў жыцці! У Беларусі п'юць, як славяне, не тое, што ў нас у Еўропе, і іншыя словы ў такім самым духу. Як іспанка скажу, што, як на мяне, і ў Польшчы моцна п'ецца; як дыпламаваны славянскі філолаг скажу, што і палякі — славяне. Гарэлка ледзь дапамагала смяяцца, як усе.

Як заўсёды бывае з падарожжамі ў групе, мы селі ў цягнік у апошнюю хвіліну. Пахмелле мела свой уплыў на наш стан і нашыя размовы (дакладней, на іх адсутнасць). Я ведала, што шляху назад ужо няма. Цягнік з'ехаў да світанку, у накірунку terra incognita!

## МЁРТВЫЯ СЛОВЫ

Пачну словамі славутага японскага пісьменніка Нацумэ Сосэкі: «こんな 夢を見た — Мне сніўся сон». А ў гэтым сне я была мёртвая. Альбо, прынамсі, памірала. Як ні дзіўна, пачувалася я досыць добра, як чалавек, якому смерць падае руку з парога. Аднак у маім сэрцы не было сумненняў, што я насамрэч паміраю. Адкуль такая упэўненасць, спытаеце? Словы, якія дасягнулі маіх вушэй, не пакідалі месца для неадназначнасці: Анхела — светлая легенда беларускай культуры, амаль што сучасны класік нашай літаратуры! Добрыя людзі, калі ласка! Няўжо такія сцвярджэнні могуць мець хоць што-небудзь агульнае з маладою, прыгожаю, здаровенькаю дзяўчынаю сумніўнага ці — калі ставіцца да пытання аптымістычна — умеранага таленту? Канечне, не! Такое магчыма сказаць толькі пра старэнькіх літарататараў з пасівелымі ад досведу валасамі і шэрагам (хоць адносных) бестселераў, чые дрыготкія рукі дажываюць свой век, даўно адпусціўшы пяро. Калі пра маладога чалавека, дык толькі пра крохкага, хворага паэта, які заўчасна памірае. І то асцярожна, бо раптам выздаравее якім цудам і паверыць!

Я бачыла сон, у якім я памірала. Магла б і падумаць, што я ўжо мёртвая, але ж словы пра сябе я пачула, а мёртвыя не чуюць. Хаця ну не тое, каб я ніколі не была мёртвая: была, і лекары мяне вярнулі да жыцця, але мне было толькі пяць гадоў, і я не памятаю, чуюць мёртвыя ці не. І назвы апарата не памятаю. У любым выпадку, дапусцім, памірала. Працягвайма! Жыццё выслізгвала ў мяне скрозь пальцы, як таямнічыя сюжэты «Прыгод Шэрлака Холмса», якія, да майго сораму, я ніколі не дачытвала цалкам, а ўзялася толькі зараз, вось паміраю і ніколі не даведаюся, чым усё скончыцца ў беднага доктара Ватсана. Ну, а чым? Мы ж ўсе памром, рана ці позна, як Артур Конан Дойл і той самы Нацумэ Сосэкі.

Як гэта, я згубілася? Зусім не! Што я казала? Сон, сон... Так, жыццё — гэта сон! Як напісаў выбітны іспанскі драматург Пэдра Кальдэрон дэ ла Барка, які, дарэчы, таксама даўно на тым свеце... О, вы маеце пытанне да мяне? Калі ласка, а то

ў мяне праблема, шматслоўе, з дзяцінства, бачыце. Давайце, слухаю. Гм. А як трэба казаць пра жывых пісьменнікаў? Гэта сапраўды цікавае пытанне. Шчыра, я не ведаю, як трэба. Ведаю толькі, як кажуць. Каб даведацца, як трэба, то мы павінны ўвайсці ў галіну маралі і этыкі, нават калі гэта з банальнага пункту гледжання класічнага утылітарызму (значыцца, пад дэвізам як трэба казаць пра жывых пісьменнікаў, каб яны развіваліся як найлепш і далі нам якасную літаратуру). А потым мы павінны як бы сцвердзіць пэўныя маральныя прынцыпы з магчымасцю ўніверсалізацыі, на што я як маладая, жывая літаратарка не прэтэндую (і вы, як чытач, спадзяюся, таксама). Вось каб я была не чалавекам, а чатырохмернаю істотаю са здольнасцю ўспрымання свету па-за межамі лінейнага часу, я, напэўна, ведала б, як трэба, каб лепш. А так, прабачаюся, не, паняцця не маю.

Калі хочаце ведаць, як кажуць пра жывых літаратараў,— кажуць па-рознаму. Я найлепш ведаю, з уласнага досведу, і не толькі, як кажуць пра маладых літаратараў. Звычайна словы іншых людзей пра маладых літаратараў залежаць ад трох (ну, добра, у некаторых выпадках чатырох) фактараў:

1. Ці таленавіты літаратар, пра якога гаворыць крытык? Хаця ад гэтага, як паказаў досвед, крытыка залежыць у найменшай меры.

2. Наколькі крытык зайздросны ў штодзённым жыцці? Фактар не апошні.

3. Якога ўзросту крытык? І абсалютна, і адносна жывога літаратара, якога крытыкуе. Уплыў мацнейшы, чым можна падумаць з першага погляду.

4. Ці належыць крытык да субкультуры хіпстараў?

Такім чынам, рэпертуар крытычных канцэртаў, як выходзіць, не такі і разнастайны. Зайздросны крытык, хутчэй за ўсё, скажа нешта ў духу: *Графаман! Не сорамна табе друкавацца?*, уваходзячы ў лінгвістычную крытыку, асабліва калі крытык — равеснік крытыкаванага і тым больш, калі вершы першага і другога друкаваліся ў адным часопісе — вершы першага на правай старонцы, а другога — на левай — які дае пісьменнікам-пачаткоўцам шанец рабіць свае першыя крокі

і спрабаваць свае сілы ў літаратуры: *нават мову беларускую родную нашую нармальна не ведаеш, русізмаў безліч! Што за сінтаксіс тут такі?* У рэдкіх выпадках такі крытык можа сказаць: *які гонар і якое шчасце, браце, што нашыя вершы разам апублікавалі!* Шчыра альбо не, бо ўсе ведаюць, чаму менавіта першы на правай старонцы, так?

Старэйшы крытык (крытык-пісьменнік), калі незайздросны і мае нейкую веру ў талент маладога пісьменніка, можа дазволіць сабе разважлівы прыметнік *шматабяцальны* ў дачыненні да крытыкаванага літаратара, калі толькі дапаможа і паправіць яго памылкі (выдуманыя крытыкам альбо рэальныя). А хіпстар... Для тых, хто не ведае, хіпстары — гэта тыя самыя дуракі з апавядання рускай пісьменніцы Тэффі, проста ў нашу эпоху жывуць. Логіка ў іх прыблізна такая (цытую ў арыгінале):

*— Бальмонта? Не знаю. Не слыхал такого. Вот Лермонтова читал. А Бальмонта никакого не знаю.*

*Чувствуется, что виноват Бальмонт, что дурак его не знает.*

*— Ницше? Не знаю. Я Ницше не читал!*

*И опять таким тоном, что делается стыдно за Ницше.*

Калі не валодаеце рускаю моваю, не хвалюйцеся — я патлумачу. Сутнасць праблемы такая: хіпстар мяркуе, што крута не ведаць таго, што папулярна і ўсім падабаецца (заслужана ці не, не важна). Калі вы — малады літаратар, і асабліва калі вы любіце выкарыстоўваць у вашай творчасці ненарматыўную лексіку, дур... хіпстар заўжды скажа: *Ох! Нарэшце, нешта свежанькае і арыгінальнае! Смерць санетам!!!*

Мая парада? Калі вы (малады, жывы) пісьменнік, не прымайце нікога занадта ўсур'ёз, проста працуйце. Пабла Пікаса, ці не самы таленавіты мастак з маёй Малагі, сказаў: калі прыйдзе натхненне, хай яно мяне знойдзе за працоўным сталом. А вы, калі прыйдуць крытыкі, працягвайце пісаць і не адчыняйце дзверы. Калі ж вы крытык — і пры ўмове, што вам дзверы адчыняць, — памятайце, што жыццё — хранічная, смяротная хвароба, ад якой пакуль няма лекаў. Не перабольшвайце, але будзьце добрымі да новенькіх паэтаў і празаікаў

хоць раз-пораз, а не толькі да мёртвых. Праўда, так склалася гістарычна, што самыя добразычлівыя словы, як і літасцівае маўчанне пры адсутнасці добрых думак, належаць менавіта тым, хто сышоў ужо з жыцця, але ж... Зрэдку, дзеля ўнутранай раўнавагі альбо дзеля вонкавай кармы, нават дзеля надзеі ў вачах маладога літаратара, які прынёс вам свой рукапіс, можна замяніць жорсткую крытыку карыснай мудрасцю. Яна ёсць і ў старэйшых пісьменнікаў, і ў рэдактараў, і ў чытачоў.

Натуральна, маеце права мяне і зусім не слухаць, а то і пярэчыць, бо чацвёртага вымярэння я не бачу... Хіба што ў снах. Дабранач!

## АБМЕЖАВАННІ

Польскі памежнік задаў мне дужа многа пытанняў. Пасля чарговых візітаў у Беларусь, мне стала ясна, што чыноўнікам страшна сумна сядзець на межах, як і сумна сядзець, мусіць, на ледзь не ўсіх чыноўніцкіх крэслах. Бяры пашпарт, глядзі, з Кракава пан, ці з Магілёва спадар праязджае, стаў пячатку, і, вядома, даглядай, каб пратэрміновак не было. Альбо каб было, бо штраф. Таму польскі памежнік, калі ўбачыў мой іспанскі (!) пашпарт на польска-беларускай (!) мяжы, натхніўся, нібы Багдановіч пры з’яўленні на небасхіле самой Зоркі Венеры, і задаў мне дужа многа пытанняў. Цяпер я разумею, што чыноўнікі забіваюць час, як могуць, а тады я крыху спалохалася, бо падалося адразу, што нешта не тое. А адкуль Вы? А ў Польшчы жывяце? А дзе жывяце? А што ў Варшаве робіце? А на каго вучыцеся? Маёй аднагрупніцы гэта хутка надакучыла, невядома, ці ад шчырай любові да мяне, ці ад пахмелля (нагадваю, мы добра пілі ў Беластоку перад цягніком), і рэзка сказала міламу чыноўніку, маўляў, яна з намі, вучыцца ў нашай групе, усё! І чалавек пайшоў далей правяраць нудотныя, звычайныя польска-беларускія пашпарты, як належала.

Праўду кажучы, межы маюць асаблівае паветра. Паколькі я на мяжы знаходзілася ўпершыню, атмасфера паўплывала на мае нервы, магчыма яшчэ мацней, чым зацікаўленасць памежніка. Што я маю на ўвазе, хочаце ведаць, калі так выказваюся

пра мяжу? Ну, ёсць пэўныя месцы, дзе час і прастора размываюцца. Вянуць, як мокрая фарба. Вось некалькі прыкладаў з таго, што прыйшло ў галаву: школа падчас летніх канікулаў; міжнародны аэрапорт, калі вандруеш адна; нетыпова ціхая вулічка ў цэнтры студэнцкага гарадка, калі вяртаешся з дыскатэкі а трэцяй гадзіне ночы; кватэра бацькоў, без бацькоў; антыкварыят, дзе цікае адначасова некалькі старамодных гадзіннікаў, і іншыя. Цяжка перадаць гэтае пачуццё словамі, праўда? Але, мяркую, вы зразумелі, што гэта за з'ява. Такім чынам, у маім успрыманні, мяжа адназначна належыць да гэтай катэгорыі разрываў рэчаіснасці. Стаіш без пашпарта, ні там, ні сям, бывае, гадзінамі... Без паперы, агульнавядома, ты не чалавек, ад чаго можна атрымліваць столькі страху, як і свабоды. Глядзіш, а фоткаць катэгарычна забаронена, хоць і відаць і прыгожую прыроду, і нейкія незразумелыя будынкі за плотам. Мне надзвычай цікава, што гэта за будынкі такія, і чаму там такі высокі плот, але спытаць ніколі не адважылася, шчыра кажучы. У любым выпадку, аўтобус, як паказала практыка, можа стаяць на мяжы гадзінамі, калі чарга вялікая (ёсць такія дні, калі ва ўсіх беларусаў такі настрой, што хочацца масава ў Польшчу або ў Літву). Давялося такое перажыць апошнім летам, падчас начнога вяртання з краіны цудаў Беларусь у звычайную еўрасаюзную краіну Польшча. Але, як любіў пісаць Міхаэль Эндэ, гэта іншая гісторыя на іншы дзень.

На мяжы мы стаялі нядоўга гэтым разам і адносна хутка прыехалі ў Гародню. Мытнік стаў аўтарам першага цуду: падышла я такая нервовая да кантрольна-прапускнога пункта. Чыноўнік сказаў мне «здравствуйте», а я павіталася сарамлівым «добры дзень» і аддала яму свой пашпарт. Пагартаўшы пару разоў, чалавек паглядзеў на мяне. Потым зноўку на пашпарт. І яшчэ на мяне. Такімі паўзамі, як у гэтым тэксце. І нарэшце загаварыў здзіўленым тонам: «З Іспаніі? А па-беларуску размаўляеце?» Ага! Вось пра што ён думаў! А я ўжо хвалявалася, што ў пашпарце «ачапятка» і мяне не прапусцяць. Ну, так склалася гістарычна, вырашыла пажартаваць я, бо 1. Чалавек здаваўся прыемным, і 2. Я не магу размаўляць ні з кім больш за дзве хвіліны без жартаў, хоць маленечкіх.

Чыноўнік усміхаўся (клянуся!), і адразу прымусіў мяне здзівіцца вельмі моцна, калі сказаў: «О, а я ведаю вас! Вы Анхела Эспіноса, паэтка! Я чытаў вашыя вершы ў Інтэрнэце і некалькі інтэрв'ю!» Вось і прапусціў без пытанняў, людзі! Ведаеце, што? У нас у Іспаніі ёсць такі нацыянальны жарцік, што кароль у якасці асабістага дакумента можа падаць манетку вартасці 1 еўра, дзе выбіты яго партрэт, а людзі павінныя прымаць, бо гэта кароль. У мяне тады было крыху падобнае адчуванне. Сёння я — у Беларусі. Сёння я — каралева.

## Я І МАЯ СЯМ'Я

«Анхела, — пытаюцца часта сябры, знаёмыя, і выпадковыя п'янаватыя мужчыны ў варшаўскіх пабах, — адкуль ты ўзялася такая дзіўная?» Вядома, пра такое ніколі не пытаюць непасрэдна, гэта ж гучыць няветліва, а раптам дзівачка (нават яна!) дрэннае пра іх падумае. Затое менавіта гэтае пытанне хаваецца за тыповымі, «а як гэта, ты з цёплай Іспаніі ў шэрую Польшчу пераехала?», «зборнік вершаў выдала... На якой мове ты сказала?», альбо найпапулярнейшым, «а чаму менавіта беларуская мова?» Маецца на ўвазе, «а як гэта, ты існуеш?»

Беларусам надта падабаецца мая іншасць, хаця ў постсавецкай прасторы, мушу сказаць, бываюць праблемы з яе ўспрыманнем. Парадокс такі. Я, у сваю чаргу, напружваюся, калі прымушаюць гаварыць пра яе: баюся, што суразмоўца толькі пашпарт запамятае з усяго, што я скажу, і не ўбачыць далей. А я люблю слухаць і распавядаць цікавыя гісторыі (альбо, прынамсі гісторыі, якія здабываюць пад піва пэўны інтарэс). Таму я сёння вырашыла напісаць пра сваю замежнасць, але з іншага пункту гледжання: якою ж была і ёсць мая сям'я, каб я такою дзіўнай атрымалася? Паколькі «Маладосць» не дазваляе калонкі на цэлыя нумары, давайце я падзялюся цікавымі фактамі і персанажамі, кароценька і без парадку.

Была такая дзяўчына Марыя Бэрналь Трухільё. Шкадлівае дзіця, жанчына з моцным характарам і — так склалася гістарычна — мая прабабуля па кудзелі. Нарадзілася яна ў 1896 годзе ў вёсачцы Монда (яна ёсць у Гугле, пішацца так, як гу-

чыць). У яе былі чорныя валасы і блакітныя вочы, і таму яе выдалі замуж ва ўзросце 16 гадоў за найбагацейшага фермера, які там жыў, удаўца, якому было ці не за 40. А той аднойчы альбо пабіў яе, альбо нешта не тое сказаў. Марыя забрала ўначы свае рэчы і — бах! — уцякла адна ў горад, дзе яе сястра служыла ў багатай сям'і Ларыёс (імя гэтай сям'і далі цэнтральнай вуліцы Малагі, можаце праверыць). У сястры быў хлопец, а ў таго хлопца быў брат, які закахаўся ў Марыю да вар'яцтва. У яго была добрая душа і хворае сэрца, у прамым сэнсе, але Марыя пакахала яго таксама ледзь не адразу. Так і жылі, сустракаліся, дзве сястры і два браты, Марыя шмат дзе працавала. У красавіку 1931 года паўстала Другая Іспанская Рэспубліка, а ў траўні нарадзілася мая бабуля. Тое, што я зараз скажу, бабулі не падабаецца чуць, але яна не чытае па-беларуску і таму, спадзяюся, мяне прабачыць. Стары фермер, за якога выдалі калісьці замуж прабабулю, яшчэ жыў, а на развод яшчэ не паспела яна падаць, бо толькі рэспубліка дазволіла такое. Бабуля нарадзілася па-за шлюбам. Не кажыце бабулі, што я з вамі падзялілася. Цс! Ну, а па-за шлюбам было пакуль немагчыма запісаць дзіця на бацьку. А ведаеце, што зрабілі? Ну, сястра Марыі ўжо была замужам. Два браты і дзве сястры. Значыць, два аднолькавыя прозвішчы ў аднолькавым парадку (пачытайце пра сістэму іспанскіх імёнаў, гэта цікава). Вось і запісалі на сястру з мужам маю бабулю. Нядоўга пасля, альбо законны муж Марыі памёр, альбо яна атрымала развод, і на сябе запісала адну пляменніцу (узамен за бабулю маю) і другую дачку, сястрычку бабулі, якая нарадзілася ў 1934. Вядома ж, для жанчыны, якая нарадзілася ў 1896 (так, тысяча ВОСЕМСОТ...), нарадзіць першае дзіця ў 35, ну, гэта пазнавата. Нават сёння некаторыя мае знаёмыя кажуць, што позна. Прабабуля Марыя заўсёды казала, што ў маладосці яна была тоўстая-тоўстая, як мяч, а толькі калі схуднела змагла зацяжарыць. Ясна, гэта была не зусім праўда. Пражыла яна цікавае жыццё, вядома ж. Мужа спалохалі да смерці падчас грамадзянскай вайны — сэрца не вытрымала — яна займалася кантрабандай па вёсках, сяброўвала з жаўнерамі, мастакамі і іншымі падазронымі асобамі. Памерла амаль у 90

гадоў, аслеплая, але актыўная. Мая старэйшая стрыечная сястра яе памятае.

Мой дзядуля па мячы працаваў у знакамітым іспанскім выдавецтве «Планета» (яно дагэтуль існуе, ёсць прэстыжная іх прэмія ў духу Гедройца, можаце паглядзець). Яму давялося адчыніць першы філіял выдавецтва ў Паўднёвай Амерыцы: даслалі яго ў Багату, сталіцу Калумбіі. Адтуль ён прывёз цікавыя анекдоты, напрыклад пра тое, як кіроўцы апраналі гадзіннік на правую руку, а не на левую, бо было горача, вокны машынаў адчыненыя, а маглі проста скрасці табе гадзіннік па дарозе. Тата пяць гадоў хадзіў у школу ў Калумбіі, памятае гімн краіны, вывучаў ангельскую мову раней, чым гэта было модна (была справа ў 60-я гады мінулага стагоддзя, калі ў Іспаніі школьнікі вучылі французскую), марыць калісьці вярнуцца. Аднак гісторыю, якая мне найбольш запамяталася пра Багату, распавядала мне бабуля: яна, як і ўсе жонкі дыпламатаў, выдаўцоў, і розных замежнікаў, якія жылі ўсе ў адным квартале Багаты, хадзіла раніцаю ў парк, які назвалі жартоўна ААН (самі разумееце, чаму). Сустракаліся там жанчыны з усяго свету, у бабулі дагэтуль засталіся сяброўкі. Была і парачка габрэек, якія перажылі Халакост. Паколькі ўсе былі ветлівыя і трымаліся этыкету, яны пабудавалі сабе такі, прыкладна, расклад: габрэйкі прыходзілі рана, дзесьці а 9.00, шпацыравалі, размаўлялі з іншымі, і дакладна а 12.00 спакойна ўставалі з лавак і сыходзілі. Тады з'яўляліся жонкі нямецкіх дыпламатаў.

Мой бацька, у сваю чаргу, таксама дужа цікавы чалавек. Нарадзіўся ў Севільі, жыў у Багаце, у Барселоне, потым сям'я канчаткова пераехала ў Малагу. Вучоба яго не цікавіла, але класічную іспанскую паэзію чытаў усю, і сабе самому, і, пасля, мне. У падлеткавыя гады неяк захварэў на вятранку і, каб спакойна сядзеў у ложку, дзядуля набыў яму гітару. У таты быў талент, як аказалася: залатыя рукі і аксамітны голас. У 1970-я і 1980-я быў у яго і ўласны паб, дзе пазнаёміўся з маёй мамай, і музычныя гурты, трохі вядомыя ў Андалусіі. З сябрамі хадзіў па экспедыцыях па вёсках Іспаніі, збіраў фальклор: песні, вершы, анекдоты. Тату цікавілі і светы ўнутры людзей, і светы далёкага надзор'я — астраномія была для яго вялікім

захапленнем (як жа быў шчаслівы, калі я падрасла, і ён змог скарыстацца мной, каб набыць сабе тэлескоп!). Тата любіць камп'ютары: памятаю, як я сядзела ў яго на каленях, і разам гулялі ў розныя гульні. Так я навучылася чытаць. Затое найбольшае захапленне майго бацькі — кіназоркі галівудскага Golden Age, асабліва Керы Грэнт, як акцёр, і Білі Уайлдэр, калі гаворка пра рэжысёраў. У татавым офісе стаіць калекцыя ў больш за 2000 фільмаў. Тата кажа, што пасля яго смерці, і кнігі, і фільмы, і гітара — мае, бо брат падобны да мамы, матэматык, а я татава дачка: і ў музычную школу пайшла, і вершыкі пішу, і кіно люблю, і ў гульні гуляю, некаторыя нават бачылі, як у ясныя летнія ночы назіраю зорнае неба.

Татавай гітары больш за 35 гадоў. Знаёмы майстар тры гады рабіў яе, спецыяльна для таты, але, вядома, атрымаць яе ў спадчыну я зусім не спяшаюся, хай тата да ста дажыве, а потым крыху больш. Цяпер я вучуся ў Варшаве, малодшы паступіў на фізіку-матэматыку ў Мадрыдзе, тата супакойвае маму з бабуляй, што дзеці дарослыя і ўсё добра. Бацькі далі нам з братам, дарэчы, грэцкія імёны. Брат увогуле пяты Нікалас (Мікола) ў сям'і. Так завуць бацьку, і дзядулю, які на «Планету» працаваў, і прадзядулю, і прапрадзядулю таксама. Па-грэцку братава імя значыць «пераможца». А маё імя, Анхела, мае значэнне «пасыльная». А я першая «Анхела» ў сям'і.

## КОЎДРА ПРАЎДЫ

Праўда, праўда... Што гэта за звер? Няцямлівая істота, ці ўсё ж такі дакладна акрэсленае паняцце? Буда казаў, што сонца, месяц і праўда не могуць хавацца надоўга; аднак я бачу на небе зоркі і планеты, а праўду шукаю ці не ўсё жыццё. Нядаўна ажно два калегі з «Маладосці» пахвалілі мяне такімі словамі: «Анхела, я люблю твае калонкі, бо ты пішаш праўду!» Нават асобна адно ад аднога, а казалі тое самае. А ці пішу я праўду? Я пішу аб тым, што насамрэч здарылася, так, як я мяркую. Напэўна, можна сказаць, што я шчыры чалавек (паколькі мае пачуцці не хлусяць). А сёння, хоць і цяжка, паспрабую напісаць пра яе: пра праўду.

У маёй памяці ёсць прабел. Пэўныя гады згадваюцца ўрыўкамі. Затое запомнілася цытата з фільма «Таварыства мёртвых паэтаў», які вельмі ўразіў мяне ў падлеткавыя гады (тыя, якія месцамі дрэнна памятаюцца). Я глядзела яго ў арыгінале (як дагэтуль раблю, калі моўныя веды даюць такую магчымасць), але сутнасць фразы такая: «Праўда — гэта коўдра, якая заўжды занадта кароткая і пакідае цябе з халоднымі нагамі». Так казаў школьнік, якога дзіўнаваты настаўнік літаратуры прымушаў ствараць паэзію... Спынімся тут, бо я, як большасць чытачоў і гледачоў, адмоўна (і жарсна!) стаўлюся да спойлераў.

Сапраўды, жудаснае адчуванне, калі коўдры не хапае, і то рука халодная, то нага, то грудзі змерзлі. Коўдра дорыць чалавеку камфорт і спакой, цяпло і суцяшэнне ў халодныя дні. Так прыдумана ўладамі зверху! А ці вы памятаеце момант, калі перараслі ўлюбёную коўдрачку вашага дзяцінства? Не, не літаральна, вядома. Я помню, шэсць гадоў таму я пачала цягаць белую і пульхную коўдру праўды. Туды-сюды. Ніколі не забуду. І ногі замерзлі, і рукі, так моцна цягала, імкнулася прыкрыць твар, а мурашкі па жываце бегалі. Падумала тады, што вар'яцею альбо тэмпература высокая, і паглядзела на сябе-не-сябе ў люстэрка, дзе я першы раз убачыла сваю ўласную эпітафію. Вось гэта была праўда. Напрыканцы 17-га года жыцця, я першым разам паглядзела на сапраўдны воблік чалавецтва. Дзіцё з прагаю ведаў атрымала іх усе адразу: падавіся, сонца!

А ці памятаеце вы момант, калі зразумелі, наколькі моцная самота на зямлі? У маёй памяці ёсць прабелы, але на 18-м годзе жыцця я ведала, што я самотная. І ўсё таму, што я болей не змагла па-ранейшаму глядзець іншаму чалавеку ў вочы. Усё таму, што я ўбачыла, як венецыянскія куртызанкі здымалі маскі пасля балю і паказвалі агідныя твары, з'едзеныя воспай і чыстаю зласлівасцю. Таму ўцякла з Венецыі: хацелася верыць, што ёсць сэнс у пошуках сабе падобных пасля таго моманту, калі леў аказаўся трусом, а ягня — ваўком. Я не воўк, паўтарала я сабе, калі ехала з адной краіны ў наступную, з адной кампаніі ў новую, з адной мовы ў чарговую, у якой паэты крыху больш красамоўныя, а празаікі трохі менш крытычныя. Ці ўцякала ад той самай праўды? Расчульваюся, у лю-

бым выпадку, сваёй тагачаснай наіўнасцю: уцякае ў прасторы чалавек, які не разумее, што яго прыналежнасць знаходзіцца за чацвёртым вымярэннем. Спяваў калісьці Вольскі: і тут ты чужы, і там ты чужы. Ты чужы, бо несвоечасова нарадзіўся і жывеш. А такіх безліч. Ці бралі пад увагу такую магчымасць?

Дужа цікава было б ведаць, які адсотак чытачоў цікавіцца квантавай фізікай. Не глядзіце на мяне так, я зараз патлумачу, навошта. Чулі такое слоўка, як «мультысусвет»? У навуцы гэта гіпатэтычнае мноства ўсіх магчымых рэальна існых паралельных сусветаў (уключаючы той, у якім мы знаходзімся). Паводле філосафа Дэвіда Льюіса, любы магчымы свет рэалізуецца, паколькі магчымасць і рэчаіснасць — дзве дадатковыя ўласцівасці аднаго і таго ж свету. Адпаведна, што з'яўляецца магчымасцю, а што рэчаіснасцю, залежыць ад свету, у якім знаходзіцца назіральнік. Можна знайсці шмат інфармацыі пра гэта самастойна, таму я не буду далей вас мучыць, а дам вам прыклад з уласнага жыцця.

Жыла-была маладая жанчына (гэта я), якая з'ездзіла на радзіму, да бацькоў, святкаваць Каляды. Дзяўчына была магістранткай у галоўным універсітэце сталіцы адной усходнееўрапейскай краіны, а жыла яе сям'я ў немалым марскім горадзе сонечнай краіны на Захадзе кантынента. У свеце, дзе жыла нашая гераіня, абставіны склаліся вельмі забаўным чынам: яна яшчэ пісала вершы і калонкі на мове трэцяй краіне, якая знаходзілася далей на Усходзе. На малапапулярнай мове, таксама праз склад абставінаў дадзенага свету. Быў апошні дзень зімніх вакацый, а магістрантка мусіла ў наступны дзень паехаць у аэрапорт і вярнуцца самалётам у горад, дзе вучылася, але ў яе з'явіўся раптоўны боль у жываце. Маці патлумачыла, што прычынай болю мог быць стрэс, абед альбо нават прастуда, якая бывае ва ўсіх у гэтую пару года, дала ёй лекі на ноч і паклала спаць. Ранкам наступнага дня, дзяўчына прачнулася з пэўнымі лакалізаванымі рэшткамі болю, але ёй было значна лепш. Бацькі задалі наступнае пытанне: табе яшчэ баліць жывот? Калі баліць, едзем у лякарню, каб паглядзелі. Калі не баліць, дык у аэрапорт. Рэчы былі сабраныя, валізкі каля дзвярэй, а магістрантка была вельмі адказная, хвалявалася за

сесію, якая пачнецца хутка, таму яна вагалася перад адказам на закрытае пытанне (так ці не).

Калі паверыць тэорыі мультысусвету, у момант перад адказам стварыліся два альтэрнатыўныя светы (па кожнай магчымасці адказу). У свеце, дзе жыве вашая пакорлівая, дачка адказала бацькам, так, яшчэ баліць, яе адвезлі ў лякарню, знайшлі апендыцыт і адразу зрабілі хірургічную аперацыю. З'явіўся, затое, другі свет, дзе дзяўчына палічыла боль нязначным, адказала адмоўна і села ў самалёт, дзе, праз змены ў ціску ў атмасферы, апендыкс сарваўся, пачаўся перытаніт падчас чатырохгадзіннага палёту... Зайздросціце?

Я не ўпэўненая, што мультысусвет існуе. А калі існуе, я не ўпэўненая, колькі ёсць светаў з гэтай калонкай, а колькі без яе: ёсць мільёны светаў, дзе вынік майго зачацця — зусім іншы чалавек. Павінен існаваць свет, дзе я памерла ў тры гады, і ў пяць, і хто ведае, у якім яшчэ ўзросце. Пэўна, ёсць некалькі дзясяткаў светаў, дзе я не зацікавілася беларускай мовай, а якой іншай, альбо нават матэматыкай ці фізікай, і я ўвогуле не паліглот. А гэта калі ўлічыць толькі тыя версіі гісторыі, у якіх абсалютна ўсе мае продкі нарадзіліся, пазнаёміліся, пакахаліся, ніхто не памёр заўчасна...

А ўсё ж мне цікава, як выглядае свет, дзе я ніколі не цягала коўдру праўды. Дзе я, як шмат хто, прывыкла да халодных ног і не паглядзела ў люстэрка. Дзе я навучылася хадзіць у масках і гаварыць тое, што трэба. Дзе я захапляюся прыгажосцю Венецыі, а не гляджу людзям у вочы, нават мімалётна. Таму мяне цікавіць квантавая фізіка ў гэтым свеце. І гэта праўда.

## ПРЫКМЕТЫ, ШТО Ў ВАС РАСЦЕ МАЛЕНЬКІ ДЗІВАК

Натуральна, дзяцей у мяне няма*, таму прэтэндаваць на жыццёвы вопыт і агромістыя веды сапраўдных мам я не магу, не хачу і не буду. Затое магу падарыць Вам свежую перспектыву з пункту гледжання той самай дзівачкі, якая гадавалася (амаль) 24 гады не-зусім-на-радасць бацькам**. Якія ж прыкметы могуць нам падказаць, што дзіця расце дзіўнаватым?

1. Дзіця не слухаецца ў самых нечаканых выпадках — возьмем прыклад з майго жыцця, дзеля простасці: я навучылася чытаць і пісаць насуперак мамінаму жаданню пачакаць да школы***. Мне яшчэ трох гадоў не было, а ўжо была дзівачкай. Бацька памятае, як я клікала яго гуляць са мной у пакой, а ён ляжаў на канапе, ленаваўся. Пасля пэўнага часу, ён зайшоў у мой пакой і знайшоў паперку на падлозе, дзе быў напісаны дзіцячым почыркам гнеўны сказ *тата нінрішоу*****. Ну, навучылася і навучылася, нічога не зробіш. Толькі арфаграфію і сінтаксіс падцягнеш...

2. Дзіця незвычайна/неадэкватна рэагуе на навакольны свет: напрыклад, калі я пайшла ў школу, як маці і прадказала, мне было сумна, бо я ўжо любіла чытаць кнігі, а большасць групы не ведала яшчэ літары (мы ідзём у школу ў тры гады). Іншыя дзеці адразу зразумелі, што я дзівачка*****, і амаль ніхто не хацеў гуляць са мной. Гэта была яшчэ адна прычына заставацца ўнутры сябе падчас вялікага перапынку і чытаць кнігі. Аднойчы настаўніца падышла да мяне і спытала, «Анхела, чаго ты тут адна такая самотная? Ідзі гуляй з іншы-

---

* Паводле, эм, Паскаля, факт, што нічыё выхаванне не залежыць ад такой асобы павялічвае шанцы, што Бог існуе, на цэлыя 10 %. Можаце падзячыць Яму за гэта. Богу, не Паскалю.

** Дыягназ маецца, але ў часопісе «Маладосць» яму не месца.

*** Трэба заўважыць, што я навучылася чытаць і пісаць тады толькі і выключна па-іспанску. Гэтая інфармацыя будзе рэлевантная ў далейшых пунктах спіса.

**** Насамрэч, эквівалент па-іспанску.

***** Паводле ўсіх магчымых псіхалагічных даследаванняў, дзеці нашмат эфектыўней выяўляюць гэтую праблему і адразу пачынаюць змагацца з ёй па меры магчымасцяў.

мі!», на што я ёй адразу выдала: «Самотная? Я ж не самотная. Вы не бачыце, колькі тут кніг?»* Мама была пакліканая, вядома. А калі яна паспрабавала пагутарыць са мной пра гэты выпадак, я ёй сказала: «Ой, мама, сапраўды так! Дзеці маёй групы не чытаюць кніг! Як шкада, праўда?»**

3. Дзіця дрэнна разумее моўную інфармацыю, якая да яго даходзіць: гэты сімптом назіраецца на працягу ўсяго жыцця дзівака (дзівачкі)***. Літаральна некалькі дзён таму я прачытала ў адной вядомай сацсетцы рэкламны допіс пра кнігу «Времена немецкого глагола». Як Вы думаеце, пра што кніга? Шмат у ёй герояў, ці адзін пратаганіст і ўнутраны дыялог? Калі Вы не дзівак, напэўна Вы ўсё ж падумалі пра граматычны дапаможнік****. А я некалькі хвілін абдумвала нейкую незразумелую дзеяслоўную метафару ў кнізе пра цяжкую эпоху (бо *времена*), верагодна, падчас Другой сусветнай вайны (адтуль і гэтае *немецких*). І гэта было так заўсёды. Яшчэ пара прыкладаў:

Выпадак 3А: пэўнага ранку мне сказалі апрануцца найхутчэй, бо хутка прыедзе маляр*****. У іспанскай мове існуе толькі адно слова на два паняцці: што маляр, што мастак, адно і тое ж самае. Адпаведна, я праз некалькі хвілін выйшла з пакоя ў самым прыгожым (на мой тагачасны густ) сваім адзенні, бо «ў нас будзе сямейны партрэт?»

Выпадак 3Б: мой бацька працуе ў страхавой фірме. Дык вось, аднойчы я чула, як ён распавядае пра замаўленне вянкоў для пахаванняў. Тут я некалькі месяцаў (!) была перакананая, што замаўляюць санеты ў паэтаў, каб чытаць іх на развітанне з блізкімі.

---

* Лагічна, паколькі я чытала толькі па-іспанску, як казала ўжо двойчы, я не пераказвала Максіма Багдановіча, а прыдумала адказ сама.

** На гэтым этапе развіцця дзівацтва, як гэта ні супярэчыла здароваму сэнсу, яшчэ не позна вылечыць дзівака.

*** Прабачце, уключылася раптам паліткарэктнасць. Я больш не буду.

**** Spoiler alert: маеце рацыю, там адны дзеясловы.

***** Яшчэ раз, гэта ўсё здарылася на іспанскай мове.

4. Дзіця верыць Вам і слухаецца, але робіць гэта таксама тады, калі не варта: мае бацькі заўсёды паўтаралі нам з братам*: «Дзеці, у жыцці вы можаце стаць, кім толькі захочаце. Не бойцеся марыць». Я паверыла ў гэтыя словы да такой ступені, што не толькі паступіла на славянскую філалогію ў суседнім горадзе, а яшчэ захацела стаць беларускім літаратарам** і літаратуразнаўцам. Самае горшае: гэта больш-менш атрымалася. Гэта высокі ўзровень дзівацтва.

5. Дзіця аналізуе, думае, тлумачыць: гэта кепскі знак. Адзін мой настаўнік музыкі пашкадаваў мяне таму, што я люблю карыстацца сваім абсалютным слыхам***, каб аналізаваць гармоніі, мелодыі, прагрэсіі акордаў, замест таго, каб слухаць песні спакойна. Абсалютны слых, да таго ж, не дазваляе слухаць фальш. Настаўнік быў такога меркавання, што мой слых не дае мне нармальна захапляцца музыкай, губляцца ў яе таямніцах. А мне так падабаецца разбіраць фугі****! Такая самая праблема была і з літаратурнымі творамі: не проста так пайшла вучыцца на літаратуразнаўца.

Тое, што я Вам сёння назвала — усяго толькі першая пяцёрка прыкметаў дзівацтва ў дзяцінстве і падлеткавым узросце. Вопыт бацькоў кожнага дзівака адрозны, але гэты спіс, верагодна, дапаможа Вам пазнаць у дзіцяці дзівацтва ў выпадку, што гэта так і ёсць.

Дзякуй за ўвагу.

---

* Яго завуць Нікалас, ён вучыцца на матэматыка-фізіка, таксама дзівак. Дапускаем варыянт, што гэта генетычна перадаецца.

** Пры тым, што я не нарадзілася ні беларускай (ні літаратаркай).

*** Абсалютны слых — рэдкая чалавечая здольнасць, калі чалавек можа пазнаць танальнасці проста так, альбо праспяваць названыя танальнасці. Так, нарэшце рэлевантная інфармацыя. Здзівіліся?

**** Фуга — твор, заснаваны на паслядоўным паўтарэнні адной музычнай тэмы некалькімі галасамі.

## ІДЫЁТЫ

У мяне заўжды было безліч праблем са сном, з ранняга дзяцінства. Бацькі распавядаюць (не без пэўнага гневу), што я цэлыя тры месяцы практычна не спала пасля нараджэння, а ўсё дзяцінства то гаварыла ў сне, то хадзіла, нават на піяніна аднойчы грала. Альбо папросту не спала.

У дарослым узросце, вядома, сітуацыя не палепшылася, а нават наадварот і, з падлеткавых гадоў, увайшлі ў спіс балячак вельмі рэалістычныя сны, добрыя і кепскія, якія перашкаджаюць адпачываць, як след. Гэтыя сны бываюць вельмі рознымі: то фантастычнымі, то настальгічнымі, то рамантычна-эратычнымі. Чалавек я... Як Вам сказаць? Па-руску кажуць, што «з прыветам», а я прызнаюся, што «са шчырай павагай і найлепшымі пажаданнямі ад мяне і ўсёй нашай сям'і, вітае Вас сардэчна Ваш пакорны слуга». Сны, такім чынам, не заўсёды адэкватныя і разумныя, як я зараз дакажу.

Быў аднойчы чалавек, у якога я жарсна (і, на вялікі жаль, дурнавата) закахалася пасля жахлівага безэмацыйнага перыяду, падчас якога я была падобнай да шэрых камянёў. Не хачу пра гэты перыяд, гэта сорам для паэткі. Закаханасць у гэтага чалавека пачалася ад гульні прыгожых слоў. Гэта быў калега, таму гульня выходзіла зусім няблага, і словы хутка згарэлі на паперы, згарэлі і мы, планавалі, дзе бачыцца ды як, што было вельмі складана... Гісторыя гэтая скончылася часовай трагічнасцю. Мы сябруем. Дык сніўся мне гэты чалавек нядаўна, нягледзячы на тое, што ў мяне з'явілася нетрагічнае каханне, настолькі жарснае і пяшчотнае, наколькі яно і разумнае. Вернасць высока знаходзіцца ў маёй маральнай сістэме, але сноў мы не кантралюем. Сніўся колішні аб'ект кахання ў пустым тэатры класічнага стылю. Была прыгожая драўляная сцэна, чырвоныя крэслы, а над намі зорнае неба. Відаць, па-першае, тэатр быў у глыбокай вёсцы, бо нават не памятаю, калі — гарадская ў чацвёртым пакаленні — апошні раз бачыла такую колькасць зорак разам узятых. Па-другое, можна дадумацца, што падчас еўрарамонту забылі столь дабудаваць. Значыць, сядзім побач на чырвоных крэслах і раз-

маўляем. Узгадвае ён трэцяга чалавека, маўляў, блізкага сябра, які адкрыў яму праўду пра жыццё: мы з ім, закаханыя, якія не бачыліся ўжывую ніводнага разу, у сусвеце як дзве каметы, якія сустракаюцца ў цемры ночы: з зямлі падаецца, што пара нябесных целаў цалуецца — прабачце за залішнюю лірычнасць, я цытую чалавека, які гэта гаварыў у сне, — а насамрэч паміж імі некалькі тысяч светлавых гадоў: каметы ніколі не сустракаліся, і ўжо не сустрэнуцца. Пасля гэтых слоў я перасела да яго на адно крэсла (дакладней, яму на калені), а на маё пытанне, ці не раблю балюча я яму, ён мяне пацалаваў. Я так разумею, не балюча. Et puis l'amour a fait le reste. Каханне скончыла сваю справу. І я прачнулася. Вось Вам прыклад таго, чым займаецца мая фантазія, калі я сплю.

Змест гэтых сноў — не адзіная праблема для майго адпачынку. Нашмат горш, калі прачынаюся ад вельмі інтэнсіўнага сну, а яго ўвогуле не памятаю, як здарылася ўчора. Пятая гадзіна раніцы, я ў ложку, ледзь дыхаю (ад страху? ад жарсці?), а што было — не помню. Затое, перад тым, як я заснула зноўку, у маёй галаве нарадзілася думка, якой не магу пазбавіцца. І не да канца хачу пазбавіцца, бо я палічыла яе вартай калонкі ў часопісе «Маладосць».

Ёсць на свеце два тыпы ідыётаў. Папрашу, вядома, не пакрыўдзіцца, калі нехта пазнае сябе ў любым з іх. Вы чыталі «Ідыёта» ці «Сон смешнага чалавека» Дастаеўскага? А «Дон Кіхота» чыталі? Аднаго пошуку ў інтэрнэце дастаткова, каб пераканацца, што да ідыётаў я стаўлюся прыхільна. Такім чынам, якія ідыёты сустракаюцца? Выглядае класіфікацыя, на маю думку, прыкладна так:

1. Ідыёт, які ўсё ж такі паспрабаваў.

Гэты ідыёт жыве ў памежжы між дзвюма ўзаемазалежнымі дзяржавамі: Геройствам і Вар'яцтвам. Я ўпэўненая, што Вы разумееце, пра каго я пішу. Гэта той ідыёт, які паверыў у свае сілы, а сілы яму здрадзілі. Альбо чалавек. Альбо лёс. «Які́м жа я быў ідыётам. Памыліўся».

2. Ідыёт, які пабаяўся паспрабаваць і не зрабіў гэтага.

Чалавек-пытанне, які, верагодна, ніколі не даведаецца, ці страціў шанец свайго жыцця, ці пазбегнуў вялікай бяды.

Вядома, некаторыя людзі баяцца перад кожным крокам, але часта гэтыя, так бы мовіць, ідыёты — людзі стабільнай псіхікі, перад якімі ставіцца пытанне жыцця альбо смерці. Не кожны народжаны, каб стаць героем. Гэта я зразумела пазней у жыцці.

Мяне з маленства навучылі думаць, што першы ідыёт меней ідыёцкі за другога, бо ён ведае адказ на сваё пытанне, і не шкадуе, што страціў магчымасць нешта зрабіць заўчасна. Вучылі думаць, што трэба заўсёды спрабаваць, бо, «а раптам атрымаецца», бо «адмова ў цябе ўжо па дэфолце ёсць, а раптам атрымаеш згоду». Ніхто не казаў, з іншага боку, пра складанейшы выбар у жыцці. Пра выбар, які ўплывае на жыццё іншых, блізкіх нам, людзей, а не толькі на нашую долю. Каб раней папярэдзілі, жылося б мне нашмат лягчэй, чым было. Таму я тут і папярэджваю: не ўсё так адназначна, не варта так сувора асуджаць іншых ідыётаў.

Я ідыётка першай групы. Прабачце за непрыгожае гучанне гэтага сказа. Я лячу адна ў далёкія краіны з узросту 15 гадоў. Я тая дзяўчына, якая падумала, «а я стану беларускім філолагам», кінула сваё іспанскае жыццё і пераехала ў Варшаву на магістратуру (невядома, наколькі перспектыўную). А я забралася да гэтага каханка, так! Думала з'ехаць, хто ведае, куды, зайсці ў мясцовы ЗАГС, шукаць працу, дзе яе няма, і змагацца з сотняй праблем (хаця паспяхова, мабыць, ігнаравала гэтыя праблемы, калі прымала рашэнне). Сам гэты каханы вагаўся, баяўся цяжкасцяў. Не цяжкасцяў у сваім жыцці, а ў маім. Гэта доўгая гісторыя са шматлікімі нюансамі. А я сабралася збегчы да яго ўсё адно! Ідыятызм.

А ведаеце, як гэта скончылася? Прадчуваеце? Гэта я разабралася, калі ў нас з'явіліся сілы сябраваць зноўку (дужа цёпла і проста добра гэта выйшла, дарэчы): ён выпусціў шанец сустрэць мяне і трымаць у руках. Я абавязаная апісаць гэта без падрабязнасцяў з павагі да яго, таму толькі скажу, што ён схлусіў мэтанакіравана, што я не патрэбная. Каб не пашкодзіць мне і маім агульным шанцам у жыцці. А я паступіла ў Варшаву.

Ведаеце, я хваравіта шчыры чалавек. Разумею, што хлусня патрэбная на свеце, але мне з цяжкасцю даецца разумець, калі яна неабходная. Хлусіць я не люблю: рукі ў поце, гала-

ва ў дрымоце, сэрца б'ецца з хуткасцю святла, а потым віна месяцамі не адпускае. Але, рэтраспектыўна... Так, я разумею, навошта схлусіў мой самы дарагі ідыёт другой групы. А сёння я магу сказаць, што я яму нават крыху ўдзячная, бо мне лёс усміхнуўся. Можа, не ідыёт.

## МАЛЕНЬКІ ПРЫНЦ

Ёсць кнігі, якія можна прачытаць адзін раз. Толькі адзін раз, і толькі на пэўным этапе нашага літаратурнага развіцця. Ёсць кнігі, якія перачытаць другі раз не пашкодзіць, але пасля таго, як забудзем гісторыю амаль цалкам. Ёсць кнігі, якія варта чытаць па частках, звяртацца да тых старонак, якія напісаныя для нас менавіта сённяшніх. Ёсць кнігі, якія добра выглядаюць на паліцах, дзе чакаюць сваіх чытачоў. Ёсць кнігі, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Ёсць, натуральна, кнігі, якія застаюцца недачытанымі (ёсць і калонкі для часопіса «Маладосць», якія застаюцца недапісанымі, калі будзем працягваць пісаць такія доўгія ўводзіны). Мяркую, у жыцці кожнага чытача ёсць адна кніжка, якая жыве назаўжды ў сэрцы, і да якой чытач вяртаецца ў найшчаслівейшыя і найцяжэйшыя моманты свайго існавання. У маім выпадку, гэтая кніга — «Маленькі прынц» Экзюперы.

У маленстве я была сапраўдным кніжным чарвяком (не магу сказаць, што ўжо стала кніжным матыльком, але я ў працэсе). Пачала чытаць кнігі самастойна, калі мне было тры гады, і мае вочкі хутка пажыралі ўсё, на чым былі надрукаваныя літары. Абсалютна ўсё. Бацькі хутка навучыліся трымаць «небяспечныя» кнігі ў высокіх месцах (гэтую стратэгію яшчэ сёння магчыма выкарыстоўваць супраць мяне). Вынікам гэтага ўсяго было тое, што я даволі хутка перачытала ўсе дзіцячыя кнігі дый некаторыя не зусім дзіцячыя. Мне было 7 гадоў, калі бацька дастаў свой асобнік «Маленькага прынца», які яму падарыў хросны бацька, калі сам быў дзіцём. З просьбай быць асцярожнай і берагчы кніжку, бо яна яго ўлюбёная, ён адправіў мяне на канапу чытаць і вярнуўся да сваіх працоўных дакументаў. Яго крок вырашыў далейшы мой лёс.

Пры першым чытанні «Маленькага прынца» мне былі цікавыя прыгоды тытулярнага героя: куды вандраваў, з кім знаёміўся, што з ім здаралася. Было весела чытаць пра яго нестандартныя пытанні і просьбы (мэтанакіравана пазбягаю спойлераў, бо вельмі жадаю, каб самі чыталі), пра жывёлак і кветак, якія ўмелі гаварыць і мелі моцны характар. З таго часу я перачытвала гэтую аповесць ледзь не раз на год. У раннія падлеткавыя гады, «Маленькі прынц» гаварыў мне пра высокую каштоўнасць сяброўства (ідэал, у які дагэтуль веру без ваганняў); у пазнейшыя гады я чытала ў ім пра крывадушнасць і непаслядоўнасць, якія, на вялікі жаль, часта з'яўляюцца часткай чалавечай натуры. У мяне былі — і ёсць — сябры з розных краін свету, з якімі я магла не бачыцца цягам месяцаў альбо гадоў; «Маленькі прынц» нагадваў пра цану блізкіх адносінаў з людзьмі: кожны прыяцель — гэта адказнасць, і мусім цярпець такія перыяды адлегласці (геаграфічнай ці духоўнай) у абмен за светлыя ўспаміны і сяброўскае плячо. Сапраўдную цану сяброўства я зразумела паўнавартасна толькі пасля сваіх 18 гадоў, калі адзін з маіх самых блізкіх людзей пакінуў гэты свет. Не, натуральна, я перажыла ўжо смерць дзядулі, але ён быў старэнькім, хворым пенсіянерам, які пайшоў з жыцця ў сне, і ўжо некалькі гадоў не пакутуе. Сябар жа памёр гвалтоўнай смерцю, у чужым краі, дый у маім узросце. Толькі тады раскрылася для мяне ўся трагічнасць «Маленькага прынца». Не на свядомым узроўні (я даўно разумела, што да чаго ў нарацыі), а менавіта нажом у сэрца. Я любіла сябра, чакала момант, калі пабачу яшчэ раз. Момант не прыйдзе, сябар больш не ўсміхнецца мне, не дапаможа больш, ніколі больш не пагаворым. Але я не шкадую тое, што перажылі разам. Вось яна, цана сяброўства. Цяпер застаецца толькі святло ўсіх зорак на небе. Застаецца няпэўнасць у тым, на якой з іх знаходзіцца дух майго сябра. Застаецца звонкі, далёкі смех зорак у надбыцці. Я не магла вярнуцца да ўлюбёнай кнігі крыху больш за два гады.

Гаворыць «Маленькі прынц» і пра каханне. Я за ўсё жыццё кахала, можа, тры разы. І толькі раз адносна паспяхова. Кожнае разбіццё сэрца нагадвала мне ружу, якая нічым не адрозніваецца ад іншых, калі паглядзець на яе непадрыхтаваным вокам.

У кахання таксама ёсць свая цана, а я часам сумняваюся, ці змагу аплаціць яе цалкам.

Я паспела прачытаць «Маленькага прынца» на розных мовах. Першаю, як здагадваецеся, была іспанская. Калі я атрымала стыпендыю і збіралася з'ездзіць у ЗША на лета, мая настаўніца французскай мовы падарыла мне кнігу ў арыгінале, бо я з захапленнем гаварыла пра яе на лекцыях. Там, у Амерыцы, я атрымала і англамоўную версію. Да іх дадалася хутка руская версія (падарыў мой сябар з Варонежа, калі прыязджаў да мяне ў Малагу ўлетку, перад маім паступленнем ва ўніверсітэт). Універсітэцкія сябры, у сваю чаргу, падарылі мне польскі пераклад з усімі іх подпісамі. З адной з найлепшых сябровак я павандравала і па паўночнай Італіі, і мы набылі яшчэ адзін асобнік у Вічэнцы. Цяпер тая сяброўка жыве ў Японіі і ўжо абяцала прывесці мне тамтэйшы пераклад, калі заплануе наступны еўрапейскі візіт. А ведаеце? Кожная кніга хавае сваю інтэрпрэтацыю мудрасці Экзюперы: перакладчыкі розных узростаў прачыталі кнігу, аналізавалі яе, спрабавалі перадаць усе сэнсы словамі сваіх моў. Гэта й жудасна, і прыўкрасна: нешта губляецца, нешта хаваецца глыбей; а іншае знаходзіцца па доўгіх пошуках, альбо з'яўляецца зусім новая ідэя з небыцця. Падобная сітуацыя з Кіхотам Сервантэса, дарэчы. Прынята меркаваць, што пераклады «старэюць». Таму іх пастаянна абнаўляюць, каб тэкст быў даступным сучасным чытачам кожнага перакладчыка (ці мне адной падаецца прыгожай і страшнай думка аб тым, што сучаснасць мінае?). Сервантэс не аднаўляе свой тэкст, і таму мала хто з іспанцаў пераадолеў чытанне класічнага мастадонта з архаічнай граматыкай і таямнічай лексікай. Я так разумею, у Беларусі Кіхота чытаюць школьнікі.

Напэўна, вам хочацца спытаць: «Анхелачка, што за тэкст пра французскую літаратуру? Ты ж абяцала, што напішаш пра футбол!» І я, безумоўна, напішу. У наступным нумары (калонка ўжо напалову гатовая, чакаю каментар аднаго важнага чалавека). А тэкст гэты... Я не магла не пісаць. Як заўжды, калі наступае цяжкая хвіліна, я вяртаюся да «Маленькага прынца». Ад яго бывае і балюча, але адначасова заўжды суцяшае.

І гэтым разам я звярнула ўвагу на адну дэталь, якая заўсёды падабалася, але якую я не інтэрпрэтавала з заплюшчанымі вачыма да сёння: прысвячэнне.

Усе, хто чытаў шэдэўр Экзюперы, ведаюць, што аповесць пачынаецца з прысвячэння Леону Верту. Верт быў найлепшым сябрам аўтара, хаця быў на 20 гадоў старэйшы за яго, і пісаў (бо, вядома ж, таксама быў пісьменнікам) зусім у іншым стылі. Для тых, хто не чытаў, прысвячэнне гучыць прыкладна так (у перакладзе Ніны Мацяш):

*ЛЕОНУ ВЕРТУ*

*Шчыра перапрашаю дзяцей за тое, што я прысвяцію гэтую кніжку даросламу. Скажу ў апраўданне: гэты дарослы — мой самы лепшы сябар. І яшчэ: ён разумее ўсе на свеце, нават дзіцячыя кнігі. І нарэшце: ён жыве ў Францыі, дзе цяпер і галадна, і холадна. І яму вельмі патрэбна суцяшэнне. Калі ж ўсё гэта не апраўдвае мяне, я прысвячу сваю кніжку, таму хлопчыку, якім некалі быў мой дарослы сябар. Усе ж дарослыя былі спачатку дзецьмі. Праўда, мала хто з іх памятае пра гэта... То я выпраўляю сваё прысвячэнне:*

*ЛЕОНУ ВЕРТУ, калі ён быў маленькім.*

Пры апошнім чытанні «Маленькага прынца», я адчула тое, што, верагодна, адчуваў Антуан дэ Сэнт-Экзюперы, калі пісаў гэтае прысвячэнне. У мяне таксама ёсць адзін сябар, які апынуўся нядаўна ў бядзе. Яго завуць Арцём, і ён знаходзіцца ў чужым горадзе, у месцы, дзе мала ежы і святла, дый спіцца дрэнна. Ён зусім самотны, не мае ніводнай кнігі з сабой, нават. Арцёму патрэбныя падтрымка й любоў. Ён, як і Леон Верт, разумее ўсё, нават мае калонкі ў «Маладосці». Душа яго чыстая, як дзіцячая, і яна бруднай не становіцца нават у самых складаных сітуацыях.

Таму хачу скончыць гэты тэкст падобным чынам, як гэта зрабіў Экзюперы:

*Прысвячаецца Арцёму, калі быў маленькім, сёння і заўтра.*

Дайце ведаць, калі ласка, калі ўбачыце яго дзе-небудзь. Не пакідайце мяне такой сумнай.

## СЛАЎНАЕ СЛОВА НА ЛІТАРУ «Ф»

Футбол. Так-так, дарагія чытачы, правільна Вы прачыталі. Не фанабэрыя, нават не фемінізм (ну, не сёння), а футбол. Гэтым разам я хачу пісаць менавіта пра яго. Насамрэч, ужо некалькі месяцаў планую такі тэкст, а нарэшце адважылася рэалізаваць гэты план.

Я цікаўлюся футболам. Не, гэта не жарсць майго жыцця, і я не ведаю кожнага футбаліста кожнага клуба, ні нумара кожнага гульца. Я мяркую, што гэта, хоць і няблага, неабавязкова, каб любіць футбол па-сапраўднаму. Я разумею правілы (можаце дараваць сабе сэксістоўны жарт пра *offside*: я ведаю, што гэта такое і калі наступае) і, самае галоўнае, адчуваю эмоцыі гульні. У Іспаніі, дзе я нарадзілася і выхавалася, футбол называюць каралём усіх відаў спорту, ён істотная частка нашай культуры. Падымайце руку, хто думае пра некультурных хуліганаў, калі гаворка ідзе пра футбол, а не пра паэтак. Ну а дарма!

Першыя асацыяцыі з футболам у мяне з'явіліся ў сувязі з маім нябожчыкам дзядулем. Ён заўзеў за «Бетыс», а гэта, як кожны іспанец ведае, значыць, што ён хутка звык да паразаў. Але для яго, як і для мяне, самым галоўным здарэннем быў чэмпіянат свету. Напэўна, калі Вы думаеце пра іспанскі футбол, Вам прыходзіць у галаву тая легендарная каманда, якая выйграла і гэты чэмпіянат, і два еўрапейскія адзін за другім. А нам не. Ну, мне крышку, але не бацькам з дзядулем. Яны перажывалі за тую Іспанію, якая, нібы пад праклёнам, ніколі не праходзіла далей за чвэрцьфінал.

Ну, а як думаеце, мой дзядуля быў хуліганам? А вось і не! Калі памятаеце папярэднія калонкі, то ведаеце, што дзядуля Нікалас працаваў у міжнародным выдавецтве, жыў у Калумбіі пяць гадоў, чытаў (як і бабуля) неверагодна многа кніг і быў чалавекам высокай культуры. Нават скажу больш: маляваў ён чароўна, быў чэмпіёнам у шахматах і фехтаванні. «Дзіўна, — мог бы сказаць нехта, — што такі чалавек губляў свой час на тое, каб глядзець футбол». А футбол, *my friend*, таксама ёсць культураю. Футбол, як і любы від спорту, аб'ядноўвае людзей, дае ім радасць нават у цяжкасцях, у хваробе. Дзядуля ніколі

не пераставаў заўзець за любімы «Бетыс», нават у апошнія дні свайго жыцця.

Футбол, як казаў Том Брэйды, — гэта безумоўная любоў. Гэта праца ў камандзе, калектыўны поспех. Гэта ўсмешка ў паразе, здольнасць паціснуць руку тым, хто сёння гуляў лепш, альбо каму капрызнае Шчасце сёння ўсміхнулася. Для некаторых дзяцей (падумайце пра бразільскія фавэлы), футбол — гэта шанец на лепшае жыццё, на годнае жытло для бацькоў, на якасную ежу, ды й не толькі. Гэта доказ таго, што не важна, адкуль ты, што нарадзіўся бедным і нязначным: можна дасягнуць і вялікіх грошай, і славы. І зразумейце мяне, грошы і слава не галоўнае тут, а менавіта магчымасць іх атрымаць. Вера ў тое, што ўсё дасягальна. Абсалютна ўсё. У іншых асяродках, для дарослых людзей, футбол можа значыць фізічную актыўнасць і лепшае здароўе (мой дзядзька вельмі доўга гуляў), сустрэчы з сябрамі, пазітыўныя эмоцыі. У жыцці і так дужа шмат негатыву. Асабліва сярод дарослых, якія ўжо не супраціўляюцца маральнай старасці. Іх, на вялікі жаль, многа, нават сярод дваццацігадовых. А маленькая доля радасці ад гульні ніколі не зашкодзіць, праўда? Часам яна можа і выратаваць жыццё.

Я казала, што іспанская футбольная каманда знаходзілася пад дзіўным праклёнам і заўжды вярталася дадому пасля чвэрцьфіналу, не важна, якія былі статыстычныя разлікі перад чаканым усімі *Mundial de fútbol*. А давайце паразмаўляем пра той раз, калі Іспанія прайшла далей. Я заўжды буду памятаць чэмпіянат у Паўднёвай Афрыцы. Быў 2010 год, а ў Іспаніі было горача, як ніколі. І ў прамым сэнсе, і ў фігуратыўным. Пасля перамогі ў Еўропе (я была ў ЗША падчас фіналу супраць Нямеччыны), людзі пачалі верыць у тую цудоўную каманду. У самыя цяжкія моманты эканамічнага крызісу, калі шмат хто страціў працу, дом і надзею, здалося, што толькі яны, футбалісты, былі ў стане перамагчы і вярнуць хоць крышку магіі дзяцінства ў жыццё простых людзей.

У любым выпадку, іспанцы (у тым ліку й я) здзіўляліся кожнай перамозе. Чэмпіянат Еўропы, канечне, гэта добра і файна, і супер, але да Паўднёвай Афрыкі ўсе еўрапейскія краі-

ны падрыхтаваліся лепей, дый даехалі Аргенціна, Бразілія... Бразілія! Ну, а іспанскі праклён наўрад ці проста знік. Альбо?

Магу сказаць з пэўнасцю, што іспанскія перамогі былі важнымі не толькі для іспанцаў, а для ўсіх фанатаў якаснага, эмацыйнага футбола. Быў (і ёсць) у мяне адзін беларускі сябар, які тады працаваў у Венесуэле па размеркаванні. Ён там апынуўся, бо цудоўна ведаў іспанскую мову (мы насамрэч пачалі камунікаваць на ёй), англійскую і іншыя замежныя, і перакладаў розныя дакументы для адной фірмы. Гэта не істотна. Істотна тое, што ён знаходзіўся далёка ад сваёй сям'і і сяброў. Памятаю, падчас чэмпіянату ён яшчэ і трошкі хварэў, сумаваў. Але на чвэрцьфінал Іспанія — Парагвай устаў з ложка, патэлефанаваў праз скайп ды глядзеў разам са мною і маёй сям'ёй. Мяркую, і ён не забыў яшчэ легендарнае «штанга-штанга-ГОЛ!» Давіда Вільы на 83-й хвіліне гульні, якім Іспанія пазбавілася старажытных забабонаў канчаткова.

Што ж я магу сказаць пра фінал. Пра фінал, падчас якога ўсёй сям'ёй смяяліся і плакалі (так, мы вельмі эмацыйная сям'я!). Мы разумелі, што гэта гістарычны момант для краіны, нягледзячы на вынік матча. Весяліліся і пакутавалі ўсе 117 хвілінаў. Не ведаю, ці памятаеце, але матч быў доўгі (для нас — тым больш!). Я прыходзіла і адыходзіла (на кухню нешта паесці, у пакой пайграць на піяніна), глядзела фрагментальна, бо нервы мяне елі. Помню, тата сядзеў нібыта спакойна і глядзеў. Перад канцом афіцыйных 90 хвілінаў ён звярнуўся да мяне з братам (брату было толькі 12 гадоў тады) і сказаў: «Я ведаю, што мы пераможам». Менавіта «мы». Так. Уся краіна білася, як адно вялікае сэрца. Не важна, хто галасаваў апошні раз за сацыял-дэмакратаў, хто за правалібералаў; хто слухаў рок, хто джаз, а хто рэгетон (не гугліце гэта, яно жудаснае); не важна, хто верыў у Бога, хто ў Алаха, а хто проста ў добры футбол. Усе былі разам. Усе думалі, «мы пераможам». І, дзякуючы выдатнай стратэгіі Іньесты, так і было — мы перамаглі. Уяўляеце, якое свята на вуліцы? Натуральна, тата потым прызнаўся, што нічога ён не ведаў і ніякай пэўнасці ён не меў, але перад дзецьмі выглядаў фантастычна, ці не так? Ён быў

для нас гэтай гэтак патрэбнай бацькоўскай фігурай, якая з вопыту пацвярджае, што вера ў найлепшае — станоўчая якасць.

Дзядуля пайшоў з жыцця занадта рана. Ён не пачуў крыкі «ГОЛ!» з суседніх дамоў. Не адчуў той момант, калі пачалі гудзець машыны пасля канца доўгай, цяжкай гульні. Не ўбачыў феерверкі на небе над цёплым морам нашага горада. А можа, і ўбачыў. Скажу вам сакрэт: у той дзень я заўважыла, як мой бацька, перакананы атэіст, паглядзеў на неба, туды, дзе, кажуць, свецяць зоркі як душы тых, каго з намі ўжо няма. Паглядзеў уверх і прашаптаў: «Тата, мы перамаглі».

І тады ўсе іспанцы зразумелі, што, калі каманда здолела перамагчы, яны таксама здолеюць знайсці новую працу, здаць апошнія іспыты ў верасні, вырасці і стаць лекарам, астранаўтам, вучоным. Зразумелі, што параза гэта толькі досвед, які дапаможа на шляху да поспеху. Зразумелі, што мары і надзеі маюць сэнс. І не забудуць.

## ВЕЧНЫ

Міхась Стральцоў хацеў напісаць адзін радок. «Толькі, — казаў, — адзін радок». Пра дрэннага чалавека. Потым змяніў прыметнік на «кепскі». А пісаў паэт пра адзінага кепскага чалавека, які існаваў на свеце. «Я аднойчы бачыў кепскага чалавека». Толькі аднойчы, толькі адзін. А наіўны паэт стаў вечным сведкам яго злосці. Адзіным? Толькі паэт ведае — Міхась Стральцоў шукаў вечны радок ці два радкі. «Не верш, а два радкі». Усю маладосць марнаваў на змаганне з уласнай смяротнасцю. Scripta manent, відавочна. Пісьменнік памёр заўчасна, але Слова засталося. Заўчасна памёр і, бадай, самы добры чалавек, з якім марыў пазнаёміцца Міхась Стральцоў: Максім Багдановіч.

Максім Багдановіч адназначна вечны. Так сказаў мой навуковы кіраўнік у Варшаве, і так кажуць прафесары ў Мінску, у Віцебску, у Гродна, у Брэсце. Нават некаторыя прафесары ў Расіі. Так казалі выдаўцы новага зборніка (маіх!) перакладаў Багдановіча на іспанскую мову. Так сказаў на прэзентацыі зборніка міністр Макей, і да яго слоў далучыўся пасол

Латушка, былы міністр культуры Рэспублікі Беларусь. Так сказаў нават да іх, але па-іспанску, выбітны паэт Луіс Альберта дэ Куэнка, які з дыпламатамі размаўляў праз перакладчыка, і з Багдановічам таксама. Праз мяне. Нават рукі дрыжаць. Але я і раней ведала, што Багдановіч вечны. Бо вершы геніяльныя, а чалавек самотны. Як і Міхась Стральцоў.

Я не ведаю вечнасць, не разумею яе. Для вечнасці патрэбны так званы гістарычны дыстанс. Дзіўнае паняцце. Nemo propheta in patria. Самоту разумею. Дзіўных недалюбліваюць. Чалавечая натура. Я так, без прэтэнзій. Але самоту я разумею. Калі я думаю пра вечных, у мяне светла-сумны настрой. Некаторыя вечныя не ведалі, што яны вечныя. Я вельмі сумняваюся, што Максім Багдановіч разлічваў на званне «класіка». А Стральцоў смяяўся б з мяне нават сёння. Моцарт памёр у самоце, нікому не патрэбны і не вядомы, хіба што жонцы, альбо нават не. Сам сабе напісаў рэквіем. Той вечны «Рэквіем». Бах памёр у самоце, простым арганістам, а як кампазітар — дэмадэ, занадта кансерватыўны. Нібыта. Толькі ў XIX стагоддзі адкрылі Баха зноў і змянілі меркаванне. Сервантэс — тым больш. Мігель дэ Сервантэс хацеў быць паэтам, але рыфмаваў ён крыва. Затое проза якая атрымлівалася... А проза была непатрэбная і незразумелая. Не падабалася людзям проза. Паэзія — тое, што трэба. Тэатр — можа быць, калі таксама паэт. А проза — бздура. А цяпер — бах! — вечны, бацька сучаснага рамана, мегакруты Сервантэс.

Не ўсе дзіўныя людзі — вечныя. Але ўсе вечныя людзі — дзіўныя. Ну, добра, скажам, «нетыповыя». Гэта сінонім, але людзі меней крыўдуюць на яго, чым на «дзіўны». А я не разумею чаму, бо дзіўны ад слова «дзіва», «здзіўляць». Той, хто здзіўляе. Не ведаю, як вас, дарагія чытачы, а мяне моцна здзіўляе Максім Багдановіч. Здзіўляе яго адчуванне беларускасці, яго мова (ён вывучыў без Інтэрнэту!), яго дасканалыя санеты, трыялеты, тэрцыны, яго веданне еўрапейскай літаратуры і міфалогіі. Здзіўляе, без эйджызму, яго ўзрост: Багдановіч вечна малады, на вялікі жаль. Мая мама кажа: «А калі ён паспеў прачытаць так шмат кніг?» Здзіўляецца. Пра мяне таксама так кажуць. Я шмат чытаю.

Я не магу быць упэўненая, як Багдановіч, як Стральцоў, як Сервантэс. Я вось інтраверт. Дужа імкнуся быць натуральнай у размове, але гэта не маё, і сапраўдны экстраверт бачыць, што гэта не маё. Пісаць — маё, а размаўляць натуральна... Не. Магу выступіць публічна, я не баюся публікі. Я баюся камунікаваць сам-насам. Мой голас пахне страхам. Страхам сказаць не тое, страхам непрыгожага, інфантыльнага голасу, страхам не-зусім-правільнай інтанацыі. Спяваю добра, гавару дрэнна. Не «дрэнна». Але не «добра». Гэта відавочна. Я шмат чытаю. Я не ведаю, як склалася: магчыма, я шмат чытаю, бо я самотная. Багдановіч ляжаў хворым, «я не самотны, я кнігу маю». І праўда, чым больш чытаю, тым больш люблю кнігі. Кнігі не асуджаюць, як гучыць галасок у маёй галаве. Хаця гэта не галасок, гэта глыбокі, меладычны, мужчынскі голас, пра які я і марыць не магла б. Чулі Моргана Фрымана? Ён чытае мне ў галаве санеты Багдановіча, верлібры Стральцова і апавяданні Сервантэса. Так, Сервантэс пісаў апавяданні. Раю пачытаць.

Часам я выходжу з дома, іду ва ўніверсітэт, размаўляю пра заняткі, пра здароўе аднагрупнікаў і пра надвор'е. Заходжу ў краму, рэпетырую ў чарзе тое, што мне трэба: «Дайце, калі ласка, два батоны хлеба і тры булкі». Часцей за ўсё, і так кажу дрэнна. І дыхаю занадта хутка, і цяжка казаць «dziękuję, do widzenia, miłego dnia», калі выходжу, але заўсёды кажу, бо я ветлівая. «Дзіўная, але ветлівая дзяўчына. А шкада, што такая дзіўнаватая, бо нават сімпатычная, калі прыглядзецца». Такое чула пра сябе не раз і не два. Я дзіўная, я самотная. Я шмат чытаю. Прыходжу дадому, сядаю за кнігі ці камп'ютар. Магу есці альбо не. Хаджу ў трэнажорку, дзе толькі кажу «dzień dobry» альбо «do widzenia». Калі не задаюць пытанні. Калі задаюць нечаканае пытанне, звычайна прашу паўтарыць. Не таму, што дрэнна разумею па-польску, а таму, што мне патрэбны дадатковы час для рэакцыі. Гэта амаль не заўважна. Я хачу думаць, што амаль не заўважна. Заўважна на падсвядомым узроўні. Таму я дзіўная, і я самотная, і іншыя ведаюць, але не ведаюць, чаму. А шкада!

Я раней пісала пра «гістарычны дыстанс». Мала хто ведае пра сваю вечнасць. Стральцоў хацеў перамагчы смерць і

стаць вечным, затое перш за ўсё смерць забрала яго, і толькі потым магла б пайсці размова пра вечнасць. Але быў і іншы дыстанс: просты чалавечы дыстанс. Паміж дзіўнымі людзьмі і чалавецтвам ёсць бар'ер. Мяжа, калі хочаце. І строгі візавы рэжым. Дзіўныя людзі заўжды самотныя. Іх не любяць у школе. Іх мала хто любіць. Паважаць іх лягчэй, чым зблізіцца і палюбіць. І менш рызыкоўна. Толькі глыбока самотны чалавек можа напісаць «Былога донжуана». Толькі ў вельмі самотнага іншага чалавека можа пачацца нервовы крызіс пры чытанні таго ж «Былога донжуана». Не ад таго, што Стральцоў экстрасэнс, які вандруе праз час і прастору і напісаў для яго гэты твор. А ад прасцейшага шоку: нехта разумее. Нехта іншы быў самотны. І тады ты менш самотны, ты не адзіны дзіўны радок, які не рыфмуецца, у кнізе санетаў. «Я кнігу маю». Я кнігу маю, і яе напісаў чалавек, які ведаў самоту. Я сімфонію маю, я карціну маю, я тэарэму маю, я скульптуру маю, я думку маю, я слова маю, я сэрца маю, я сябе маю. Сябе і свой мімалётны свет. А самота вечная.

## НОВАЯ МОВА — НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

«А вы ведаеце, наколькі я разумная па-іспанску? Натуральна, не». Так адказала Глорыя, гераіня з серыяла *Modern Family* на пастаянныя жартачкі пра яе недасканалую англійскую. Серыял з'яўляецца камедыяй, сітуацыі ў ім — пераважна чысты абсурд, але некаторыя моманты з цудоўнай актрысай Сафіяй Вергарай — дужа падобныя да жыцця. Асабліва да таго светла-сумнага, поўнага прыгодаў, непаразуменняў і адкрыццяў жыцця эмігранта. Глорыя — жонка вельмі амерыканскага амерыканца, яе сын недавучвае і/альбо забывае родную мову маці, іспанскую, а ў сям'і ёй ніхто і не валодае іспанскай (ні любой іншай замежнай мовай на нармальным узроўні, дарэчы) акрамя самой Глорыі. Яна размаўляе і па-англійску. Як філолаг з вопытам выкладання замежных моў, нават скажу, што размаўляе добра. Але, як большасць дарослых, якія пачынаюць вывучаць нейкую мову адносна позна, размаўляе недасканала. Плюс, я ўжо сказала, што маем справу з камедыяй,

і моўныя жарты эфектыўныя, безумоўна. Але ўсё ж, як той кажа, не варта (ў жыцці, не ў серыялах) смяяцца з таго чалавека, які размаўляе на тваёй мове недасканала і з акцэнтам, бо гэта значыць, што ён, як мінімум, двухмоўны.

Ведаеце, дарагія чытачы, мяне часта пытаюць, ці не заўважыла я нейкае падабенства і розніцу паміж беларусамі і іспанцамі. Я шчыра веру ў індывідуальнасць чалавека, і таму мне цяжка адказаць на ўлюбёнае пытанне беларускіх знаёмых і незнаёмых. Магу, затое, сказаць адно: ёсць такое падабенства (шкада, што яно хутчэй адмоўнае, чым станоўчае): статыстычна, беларусы і іспанцы саромеюцца размаўляць на тых мовах, на якіх гавораць недасканала. І, у выніку — так, менавіта ў выніку, а не наадварот — яны рэдка валодаюць іншымі мовамі альбо слаба іх ведаюць, нават калі вывучалі гадамі і гадамі, кроўю і потам, пяццюстамі кнігамі. І гэта лагічна.

Сама я пачала моцна цікавіцца мовамі на 14-м годзе жыцця. Мая школа стала дзвюхмоўнай на год пазней, чым я паступіла. Гэта значыць, што я не патрапіла ў англамоўную групу. Тагачасная маладая я хвалявалася, што людзі, якія на год маладзейшыя за мяне, будуць ведаць англійскую дасканала (зноўку гэтае слоўка паявілася, глядзіце!), а я — не. Ну, бо так думаюць наіўныя падлеткі. І дзякуй усім багам пантэона! Я пачала вывучаць англійскую, нібыта той дзень — апошні мой дзень на зямлі, а мяне трэба пахаваць з сертыфікатам узроўню С2. А як ведаеце, я жыла тады ў Малазе. Як, магчыма, не ведаеце, гэта вельмі касмапалітычны горад з портам і пераважна турыстычнай эканомікай. Значыцца, у нас безліч замежнікаў штогод, увесь год. Сапраўды! І я заўважыла, што яны не баяцца размаўляць па-іспанску! Ого як! Ну, прыходзіць турыст у краму, робіць тысячу памылак, а ваду купіў. Камунікацыя адбылася. Паспяхова. З памылкамі. А ваду купіў. Бачыце, я адкрыла Амерыку другі раз пасля 1492 года. Праўда, вядома, кантэкст дапамагаў. У Малазе ўсе звыклыя да замежнікаў, ад іх залежыць заробак, і мясцовыя людзі бачаць іх штодня і ставяцца да іх з разуменнем і ўсмешкай. Кожны гатовы дапамагаць, паўтараць павольней колькі заўгодна (гэта ўсё адно лепш, чым самому быць прымушаным загаварыць

па-англійску, не?), паказваць пальцамі, прабачыць памылку і недакладнасць. Але глядзі ж ты, прыходзіць замежнік, які ведае літаральна тры іспанскія словы. «Quiero comprar cerveza»*, напрыклад. І атрымлівае ад цябе нейкі адказ, просценькі, кароценькі, бо чуеш акцэнт, няўпэўненасць у голасе, паказваеш рукой заадно, дзе крама, а другой рукой колькі каштуе літр. А ён вывучыў яшчэ тры словы, а цяпер ведае шэсць. А ты вывучаў англійскую ўсё жыццё, а піва ў Лондане не набудзеш, бо сорамна, страшна, твой кот хварэе, баліць нага і не можаш падысці, і не так моцна піць хочацца, усё адно. А я тады прыняла, напэўна, самае важнае рашэнне ў маім жыцці: я пачала жыць без сораму. Уяўляеце, якое гэта жыццё?

Вядома, ёсць моманты, калі я стамляюся; калі я пачынаю вывучаць мову, я магу глядзець фільм чатыры разы. Першы ў дубляжы, каб усё зразумець і ведаць загадзя, што будзе. Другі, на новай мове са зразумелымі мне субцітрамі, каб быць упэўненай, што нічога не прапускаю з выразаў. Трэці раз зноўку на новай мове, але з субцітрамі на той самай, каб навучыцца пісаць словы, якіх не ведала, а апошні — без субцітраў, на мэтавай мове яшчэ разочак, бо гэта практыка менавіта для слыху. Таму варта выбіраць вельмі якасныя фільмы і мовы, якія сапраўды моцна падабаюцца.

Бывалі і сітуацыі, калі з мяне смяяліся, як з Глорыі ў серыяле, але гэта была найменшая мая праблема, бо я ж адмовілася ад маўленчага (і не толькі) сораму даўно. Самае горшае, напэўна, гэта тыя дні, калі матывацыя падае, і ўжо не бачыш ані сэнсу вывучэння, ані любові да літаратуры (культуры, людзей!), ані прагрэсу — шляху, які ўжо пройдзены. Але такія дні варта прымаць, адпачываць, рыхтавацца, каб удвая больш вучыцца заўтра. У любым выпадку, мой шлях пладавіты, прынамсі пакуль што. Кожная мова дала мне нейкі падарунак, нягледзячы на тое, ці давучыла я яе да добрага ўзроўню, ці толькі да турыстычнага, нават ці ведаю толькі алфавіт, як здарылася з арабскай. Некаторыя застаюцца, а іншыя адкладаюцца на

* Ісп. «Я хачу набыць піва». А чаго вы чакалі?

потым. Гэта нармальна, а агульная жарсць гарыць у сэрцы і мазгах, як у 14 гадоў.

Увогуле, першай была англійская, потым прыйшла французская, бо ў школе ўсё адно нечаму вучылі, і шкада было не працягваць. Славянскія мовы былі наступнымі, разам з рознымі мёртвымі мовамі, якія былі па-іншаму цікавыя. Так, як некаторыя пачынаюць з лёгкіх наркотыкаў, а потым знаёмяцца з больш цяжкімі рэчывамі, так я пераходзіла з агульнавядомай англійскай да новых, больш экзатычных лінгвістычных сістэм. Так я дайшла і да фантастычнай, казачнай беларускай мовы, у якой я канчаткова знайшла сябе як літаратарку, калі магу сама нешта ў такім духу сказаць. Як вядома, мовы не існуюць у вакууме. Разам з імі адчыняюцца вокны ў новыя літаратуры (гэта мяне, мабыць, найбольш цікавіць), дзверы ў новыя культуры. Пазнаеш новую ежу, адрозную музыку. Бачыш, якім чынам мова кшталтуе ход думак, і наадварот, думкі ўплываюць на лексіку, на сінтаксіс. Самае галоўнае, зрэшты, новая мова дае магчымасць удалай камунікацыі з новымі людзьмі. Нэльсан Мандэла сказаў, «калі размаўляеш з чалавекам на мове, якую ён разумее, твае словы трапляюць яму ў галаву. Калі размаўляеш з чалавекам на яго роднай мове, словы твае трапляюць у сэрца». А ведаеце, пасля дзесяцігоддзя вопыту вывучэння замежных моў і цікавых размоў на мовах сяброў і блізкіх, якія сталі блізкімі менавіта, калі рухнуў моўны бар’ер, магу пацвердзіць, што гэта праўда. Імкненне быць бліжэй да чалавека, паказаць зацікаўленасць да яго, да яго мовы, да яго ладу жыцця і да яго пачуццяў — гэта трапляе непасрэдна ў сэрца. А сэрца не звяртае ўвагу ні на якія памылкі.

## ПЫТАННІ

Загадзя прабачаюся, бо калонка будзе крыху незвычайная, але даволі даўно хачу нешта ўдакладніць у вас, дарагія чытачы. Магчыма, хтосьці з вас ведае, дзе раздаюць сцэнары са стандартнымі пытаннямі і адказы па абавязковых пунктах чалавечага жыцця? Як гэта, вы не разумееце, пра што я пішу? Няма сцэнара? Ды няўжо!

Давайце пачнём з пачатку, так? Што вы пра мяне ведаеце? А што вас цікавіць? Я нарадзілася ў зімовы дзень, у горадзе ля мора, дзе зімы не існуе. Нарадзілася дзіўным чалавечкам з сумнай песняй на душы, навучылася чытаць вершы на трэцім годзе жыцця, пісаць пачала на шостым. Да падлеткавага ўзросту чакала, калі прылятуць па мяне з маёй планеты. Не прыляцеў ніхто. Граю на піяніна, спяваю караоке. Люблю ўлетку глядзець на знічкі. Я нязграбная дзяўчына і падаю не зусім, як зорка. Не веру ў Бога, але я маральна прынцыповая. Люблю горкую шакаладку, гарбату без цукру, ваду з цытрынай, шпацыры на пляжы, падарожжы і замежныя мовы. Я магістр беларускай філалогіі (хаця самой з цяжкасцю ў гэта верыцца) і нядаўна паступіла ў літаратуразнаўчую аспірантуру, бо люблю кнігі трохі мацней, чым людзей. Сваіх сяброў, затое, люблю бязмерна.

Але гэты аповед не па пытаннях, якія ўваходзяць у сцэнар. Па сцэнары, мне 24 гады, ніколі не была ў шлюбе, і нядаўна кінула ў меру перспектыўнага жаніха, які мяне нават не біў. Вось і дура. Я нарадзілася ў краіне, дзе пануе... Не скажу, што талерантнасць, хаця і гэтага хапае (Іспанія ж зусім Захад, далей акіян пачынаецца!). Дакладней будзе, калі напішу слова «абыякавасць». Людзям усё адно, як хто жыве, калі і чаму. Асабістыя пытанні, адказы на якія нас не абходзяць, лічацца не вельмі разумнымі. Асабліва тады, калі чалавек не можа ведаць адказ, бо ён залежыць не толькі ад яго самога. Напрыклад: «А калі ты знойдзеш хлопца/дзяўчыну?» Ну, гэта не мне вырашаць, праўда? Хлопцаў не шукаюць. Ці шукаюць? Прабачце, я буду надалей пісаць з перспектывы гетэрасексуальнай жанчыны, бо я ёю і ёсць. Калі ў мяне пачалося дадатковае беларускае жыццё, акрамя сваіх папярэдніх, я ўвайшла ў кантакт са спісам стандартных пытанняў, якія моцна хвалююць некаторых маіх сяброўак (і напэўна, не мала чытачак). Яны прыкладна наступныя (для жанчыны каля 25 гадоў, выбірайце ў кожным пункце варыянт, які найлепш падыходзіць):

1. А калі хлопца знойдзеш? / А хлопец ёсць? / А твой хлопец дзе? / Ты што моцная, незалежная жанчына з трыма катамі? Ха-ха!

2. А напэўна, ужо замужам? / Калі вяселле? / Чаму хлопец замуж не кліча?

3. Колькі ў цябе дзяцей? / Калі свае дзетачкі будуць? / Чаму яшчэ няма дзяцей? / На калі другое (трэцяе, наступнае) дзіця? / А дзе муж? Як будзе расці тваё дзіця без бацькі?

4. А чаму такая тоўстая? / Ты хворая? Нешта вельмі худая. / Макіяж не носіш? / Чаму так шмат макіяжу, ты была б прыгажэйшай *au naturel*. / ...

5. Вышэйшая адукацыя якая? / А працуеш? / Яшчэ працуеш? / Плануеш працаваць пасля нараджэння дзяцей? / Не адчуваеш, што ты дрэнная маці, калі працуеш, а пакідаеш дзяцей дома? / Не пачуваеш сябе вінаватай, што зусім не працуеш, а лянуешся дома, а муж паўмёртвы?

Іх яшчэ болей, але, шчыра кажучы, мне стала кепска ад таго, што такія словы выходзяць з-пад майго пяра (з маёй клавіятуры, праўда), і не хачу пісаць больш. Вы і так разумееце сутнасць, спадзяюся.

Цікава яшчэ тое, што я некалькі гадоў была, так бы мовіць, па-за «законам». Я замежніца, я з Захаду, я яшчэ маладая і «адумаюся». Адзінае пытанне, якое справакавала скандал вакол мяне, — пытанне дзяцей. Колькі іх планую і калі. Справа ў тым, што я выбрала шлях адрозны ад мацярынства. Я заўжды ведала, што не жадаю мець сваіх дзяцей, і што стаць маці была б вельмі дрэнная думка ў маім выпадку (калі-небудзь магу распавесці, чаму). А ведаеце, гэты варыянт адказу не ўваходзіць, відаць, у сцэнар. І людзям вельмі непрыемна атрымаць не той адказ, які чакаюць ад чалавека. Сама страціла сяброў (ну, знаёмых, але ўсё ж) праз такое прызнанне. Не падумайце, я не асуджаю тых, хто выдаліў бяздзетную вядзьмарку (мяне) з сацсетак. Я цікаўлюся чалавечай псіхалогіяй і разумею, што людзі любяць пацвярджэнне сваіх жыццёвых рашэнняў. Праз тое, што варыянт «не мець дзяцей» не разглядаецца, некаторыя не думаюць пра тое, трэба ім стаць бацькамі ці не (мне здаецца, варта было б падумаць над гэтым, бо такі выбар змяняе тваё жыццё і стварае новае для чалавека, які сюды ўвогуле не прасіўся, але гэта іншая тэма для іншай калонкі). Дык таму ім і непрыемна, калі даведваюцца, што ўвогуле магчыма выбраць

іншы шлях. Для некаторых адназначна горшы, а для іншых нашмат лепшы. Але адрозны, у любым выпадку.

Тут, скажу шчыра, мяне не прынялі занадта ўсур'ёз. «Маладая, адумаецца». А я засталася такой, як была, і не разумею дагэтуль, чаму малады чалавек (асабліва калі дарослы) не можа ведаць, што хоча, і прымаць правільныя рашэнні.

Яшчэ адно рашэнне, якое я прыняла — кінула хлопца, з якім сустракаліся паўтара года. А кінула з важкімі прычынамі. Не буду пісаць дрэннае ні пра яго, ні (не хапала б яшчэ) пра сябе, але было вельмі ясна, што гэта не мой чалавек. І нават не чалавек, з якім я магу жыць спакойна і шчасліва, будучы сабою. Рашэнне было адназначна правільным альбо, прынамсі, мне так падалося. Здзівіла рэакцыя польскіх і беларускіх сяброў. Канечне, была патрэбная падтрымка, якая мне дапамагла жыць далей і захапляцца новай свабодай, але... Першы раз у жыцці намякалі мне ў твар, што я старая! Дакладная цытата: «Не хвалюйся, хай і табе ўжо 24 гады, можа быць, ты знойдзеш яшчэ чалавека і не застанешся адна на заўсёды». Мой адказ? Па-першае, мне не «ўжо 24 гады», а «яшчэ 24 гады». Розніца істотная! Па-другое, калі захачу, то знайду! Так шмат людзей на свеце, а я такая свая. А па-трэцяе... Сяброўка, а што, калі не знайду? Будзе вялікі выбух у маёй хаце, і я памру? Не, праўда? Чытачы, здагадаецеся, што будзе?

Я дзіўнаваты чалавечак са светла-сумнай песняй на душы. Люблю чытаць у самоце з кубкам гарачай гарбаты ўзімку і глядзець на знічкі ўлетку. Я поўная энергіі тады, калі пішу свае радкі і хаджу па беразе мора. Люблю горкі шакалад, марозіва і кнігі мацней, чым большасць людзей. Спяваю караоке без сораму, граю на піяніна найлепш, калі мне вельмі радасна альбо вельмі цяжка на душы, п'ю халодную ваду з цытрынай зранку і кінула алкаголь цалкам некалькі месяцаў таму. Калі буду «адна», чытайце «без хлопца», мае сябры нікуды не знікнуць. Іх не шмат, але я люблю іх да смерці. Будзе мой універ, мая літаратура і чужая, знічкі будуць падаць з неба кожнае лета, і гарбата будзе аднолькава гарачай, калі завару яе сама для сябе. Нічога не здарыцца, і я буду шчаслівая.

Але дзякуй за хваляванне. Я гэта цаню.

## ПАД ІНШАЙ ЗОРКАЙ

Абяцаю, не буду наракаць, але як жа цяжка жывецца на свеце нетыповым людзям! А наракаць не буду, бо не маю права. Зрэшты, «сваё» я магу хаваць. І з гэтым на мяне выпадае і адказнасць, і пэўнае пачуццё віны, ад якога пазбавіцца ўжо немагчыма. Праўда, я не зусім хаваюся: тыя з вас, хто мяне бачыў нажывую... Вы, мабыць, заўважылі коску з кропкай у мяне на шыі? Але й не выстаўляюся напаказ. А часткова, прызнаюся, гэта праз страх. Страх асуджэння, стэрэатыпаў. А сёння не пра мяне, а пра сацыяльнае мысленне, пра чалавечую любоў, і пра капрызы лёсу: пра тое, што кожны чалавек нараджаецца пад сваёй зоркаю...

Нават хворая душа разумее, што любы чалавек створаны з любові і зорнага пылу. І хлопчык, які ціха запісвае лекцыі на апошнім шэрагу, і дзяўчынка, якая сябруе абсалютна з усімі, і Марына з музычнай школы, якая страціла зрок праз дэгенератыўную хваробу і пісала іспыты на спецыяльнай машынцы, якую ёй прывёз чыноўнік у касцюме. З музычнай натацыяй, менавіта для музычнай (дадатковай) адукацыяй. Усе яе любілі, усе ёй дапамагалі, калі трэба было, ніхто нават не думаў, што рэчаіснасць можа выглядаць інакш. У яе быў фантастычны размаўляючы гадзіннік, і не менш цудоўнае пачуццё гумару. «Да пабачэння!» — яна развітвалася кожны дзень. Крутая Марына. І нават так, да нас прышлі з Нацыянальнай Арганізацыі Сляпых Іспаніі (не, я не прыдумала назву, гэта літаральны пераклад) і патлумачылі тое, што стала відавочна з часам: Марына будзе вучыцца з намі, і яна — адна з нас.

Потым я пачала вандраваць, як у прасторы так і ў часе. І сутыкнулася з абсалютна адрознымі прынцыпамі і страшнаю праўдай жыцця: відавочнага няма. Не існуе. Аднойчы мой знаёмы, які нарадзіўся ў іншай краіне, у іншую эпоху, распавядаў пра свайго знаёмага, чыё нямецкае інваліднае крэсла не праходзіла праз савецкія дзверы, і таму выходзіць з кватэры (на дзясятым паверсе) мог толькі прыкладна раз на год, калі прыязджаў мацнейшы стрыечны брат, які літаральна насіў яго на руках, каб падыхаў свежым паветрам. На пытанне пра

існаванне якой-небудзь дзяржаўнай арганізацыі (а-ля НАСІ), мой знаёмы пасмяяўся. Пасмяяўся, разумееце. Быццам я дзікая, а сітуацыя звычайная. І мой свет крыху больш рухнуў. Наракаць не буду і драматызму не шукаю, але... Будзеце мяне высмейваць, калі прызнаюся, што плакала?

Такім чынам, я пачала прыслухоўвацца, заўважаць. Як і вы, я разумею несправядлівасць і дыскрымінацыю. Як і большасць з вас, я таксама была ахвярай у такіх сітуацыях: адчувала сексізм з пункту гледжання жанчыны; расізм з пункту гледжання чалавека, які лічыцца «белым» ва ўласнай краіне, але не ва ўсіх, дзе жыў; калі стала, так ці інакш, беларускамоўнай — моўная дыскрымінацыя афіцыйна перастала быць чужой праблемай. І, канечне, ёсць мая галоўная, ціхая справа — скажам, адлегласць ад нейратыповасці. Сёння не пра гэта. Сёння пра тое, як асаблівых дзяцей часам вучаць не да свайго патэнцыялу. Пра тое, як стэрэатыпы даводзяць да нянавісці супраць тых, хто атрымлівае песню, без разумення таго, што значыць не быць непрацаздольным. Пра сацыяльны дыстанс, пра поўную ізаляцыю (акадэмічную, прафесійную, сексуальную). Пра тое, як бацькі могуць аддаць сына ці дачку ў дзіцячы дом толькі таму, што ніхто не патлумачыў сапраўдныя перспектывы дзіцяці. Пра тое, як сама сям'я можа хаваць цудоўнага чалавека ад супольнасці праз страх, праз асуджэнне іншых і ўласнае мысленне. Пра тое, як лекар можа паставіць памылковы дыягназ, бо «гэта ўсё ад тваёй хваробы». Пра тое, як самы лепшы чалавек на свеце можа лічыць сябе н...

Ведаеце, сябры (я амаль год пішу для *Маладосці*, дазволю сабе назваць вас сябрамі), некаторыя праблемы я разумею лепш, чым іншыя. Напрыклад, мы, жанчыны, часта чуем у лякарнях «гэта ўсё ад тваёй менструацыі, нармальныя жаночыя праблемы». Псіхалагічныя хваробы, фізічны боль і нават пэўныя віды раку не атрымліваюць патрэбны дыягназ. Расізм — падобная з'ява: «вы ўсе лянівыя і дурныя, не хочаце працаваць, як нармальныя людзі». А стэрэатыпы... Яны датычацца нас усіх, на вялікі жаль. Альбо на шчасце. Зараз паспрабую патлумачыць, чаму на шчасце.

Пытанне простае: ці калі-небудзь вы адчувалі? Тады, магчыма (натуральна, нават), вы не ўсё зразумееце, але зразумееце дастаткова. Той хто бачыць, не можа не бачыць, як і немагчыма (ну, прынамсі, з маёй фантазіяй) прыдумаць цалкам новы колер і патлумачыць сябрам яго нюансы і адценні, так? А той, у каго цела дзейнічае ідэальна, не зразумее таго, хто не змог навучыцца хадзіць (хаця бываюць часовыя хваробы, дзякуючы якім можам дарасці да разумення, хай і забываем занадта часта). Затое мы ўсе ведаем дзве галоўныя рэчы:

1. Мы баімся таго, чаго не ведаем. Гэта так, і з гэтым варта змагацца. Пазнавайце, пытайцеся, набліжайцеся. І не бойцеся паказваць сябе. Я таксама буду старацца.

2. Мы не любім, калі нас дыскрымінуюць, і можам трэніраваць эмпатыю. Гэта варта, клянуся.

Распавяду ўсё ж нешта пра сябе. Нядаўна бачыліся з адной сяброўкай. Яна добрая душа, займаецца, між іншым, валанцёрскай працай на дзіцячым паверсе лякарні. Мы размаўлялі за кубкам кавы, а яна задала мне пытанне, якое мяне моцна здзівіла: «Слухай, як ты здолела такой стаць? Такой, без забабонаў? Адкажы мне, а?» Праўда, я не адказала адразу. Папершае, я не думала пра сябе, як пра «чалавека без забабонаў». Па-другое, пытанне больш складанае, чым здаецца. Так, вандроўкі, досвед, нават, не ведаю, характар? Гэта фактары, не? Але мне здалося, што ў маім адказе чагосьці не хапала, і папрасіла сяброўку болей часу.

Вярнулася дадому з пытаннем у галаве і дзіўным адчуваннем на сэрцы. Ці сапраўды не маю забабонаў? Калі так, ці ёсць рацыянальная прычына, чаму? І ці гэта можа быць добра і карысна? Пару дзён я абдумвала вось-гэта-вось-усё, а потым адказала сяброўцы: трэба падысці да чалавека, як да чалавека. Да сэрца. Да душы. Калі ты зразумееш, што чалавек перад табой, альбо за камп’ютарам, альбо недасяжна-далёка — адзіны, унікальны і варты павагі, усё іншае прыйдзе натуральна. Сяброўка была задаволеная. Спадзяюся, і вы зразумелі сутнасць праблемы. На сёння, хай будзе так:

*Кожны чалавек нараджаецца пад сваёй асаблівай зоркаю. Вы гэта ведаеце, дарагія чытачы. Сябры. Таму будзьце добрымі: не давайце светлай зорцы стаць цяжкім крыжам.*

## МОЦАРТ І БЕТХОВЕН

Размова пойдзе пра музыку. І пра класіцызм, і пра стэрэатыпы. Яны крыху стамляюць мяне на ўзроўні душы маёй чалавечай, калі шчыра. Можам пачаць ад першага: дарагія чытачы, падымайце руку ўгару, калі, прачытаўшы словы «Моцарт і...», аўтаматычна запоўнілі бланк прозвішчам «Сальеры». А ці падумалі вы пра недахоп таленту, зайздрасць, атруту? Нічога страшнага, не трэба саромецца. Але, магчыма, хопіць так гнаіць беднага Сальеры? Ён быў на шэсць гадоў старэйшы за Вольфанга Амадэя, а малодшы музыка быў яму, насамрэч, сімпатычны. Можна сказаць, сябравалі. Сам Сальеры быў дужа таленавіты, і яго высока цанілі як кампазітара, музыку і настаўніка (паслухайце яго, як будзе ахвота: опера *L'Europa riconosciuta* вельмі нават неблагая). Адзін з сыноў Моцарта вучыўся ў Антонія Сальеры, вы пра гэта ведалі? У яго ж вучыліся, дарэчы, і такія майстры, як Франц Шуберт, Ферэнц Ліст, і той самы Людвік ван Бетховен, пра каго я маю намер пісаць сёння, калі мяне не будуць болей адцягваць ад працы.

Вольфганг Амадэй Моцарт — музычны геній. Безумоўна. Паслухайце апошнія яго сімфоніі: мяркую, пераканаецеся. Моцарт быў добрай, маладой душой да канца (трагічна кароткага, але не праз Сальеры) жыцця. Быў чалавекам меладычнага, легкакрылага сэрца. Гэта ўсё праўда. Казалі пра яго, ды нават у фільме паказвалі, што Вольфганг быў інфантыльным, эмацыйна недаразвітым і не меў глыбокіх думак і пачуццяў, калі адыходзіў ад піяніна. Натуральна, я вам скажу, што гэта зусім няпраўда. Не буду пісаць трыста старонак пра характар вечнага вундэркінда. Толькі папрашу, каб пасля сімфоній паслухалі і санату (ля мінор), якую ён напісаў па смерці сваёй маці. Калі ёсць магчымасць, можаце адшукаць лісты, якія ён пісаў любімай сястры Марыі Ганне, якая таксама была адоранай піяністкай і пісала ўласныя творы. Брат і сястра былі вельмі блізкія: у дзяцінстве прыдумалі таямнічую мову, якую разумелі толькі яны двое. Скажу нават болей: Вольфганг пачаў вывучаць музыку, бо хацеў стаць падобным да старэйшай сястры.

Добра, Моцарт такі файны чалавек, што яго немагчыма не любіць, праўда? Вы таксама так яго бачыце? Цешуся. А якія думкі прыходзяць вам у галаву, калі чуеце імя «Людвік ван Бетховен»? Паспрабуйма разам: стары, суровы дзядзька, складаны характар, непрыемныя паводзіны, крыху вар'ят. І глухі, анягож. А Моцарт вясёлы, скача па палацы, пакуль Бетховен раздражняецца. Нешта такое? Для пачатку, як, можа, здагадаліся з дадзеных, якімі я падзялілася ў пачатку гэтай калонкі, Бетховен быў нашмат маладзейшы за Моцарта! Клянуся, на цэлых 14 гадоў. Нават пазнаёміліся аднойчы. І ўжо агульнавядомы Моцарт адразу заўважыў талент юнага Людвіка: «памятайце яго імя, пра гэтага хлопца будзе гаварыць увесь свет». Талент Бетховена, трэба сказаць, развіваўся да максімуму, нягледзячы на тое, што ўмовы былі меней спрыяльныя. Нарадзіўся ён у праблемнай сям'і, другім з дзевяці дзяцей. Яго бацька быў алкаголікам і часта біў сына ў імкненні зрабіць з яго «другога Моцарта». У яго, на шчасце, гэта не выйшла, і таму мы маем прыўкраснага, самастойнага, цудоўнага кампазітара. Яго маці памерла ад сухотаў, калі Людвік быў падлеткам. Алкагалізм бацькі пабольшаў, і той аказаўся ў турме. Малады музыка быў вымушаны прыпыніць сваю адукацыю, каб займацца малодшымі братамі і сёстрамі. Ён, дарэчы, не нарадзіўся глухім. Хварэў і ў свядомым узросце праходзіў праз доўгі, балючы працэс страты слуху. Праз яго складанае жыццё, Бетховен ніколі не навучыўся наладжваць блізкі кантакт з іншымі. Ён не быў злым монстрам, не, а проста інтравертам без навыкаў да камунікацыі. Затое якія музычныя навыкі былі! Дарэчы, гісторыя пра тое, як Бетховен, закаханы, напісаў *Für Elise* гэтай дзяўчыне проста на яе вачах, экспромтам, на вуліцы... Ну, не магу сказаць на сто адсоткаў, але гэта хутчэй за ўсё няпраўда. Па-першае, кампазітар не быў прыхільнікам вялікіх рамантычных жэстаў, і я ўжо казала, чаму. Па-другое, экспромт ён таксама не дужа любіў. Бетховен пакутаваў сваёй музыкай: пісаў яе так, як жыў. Калі зірнуць на яго рукапісы, можна ўбачыць, як часта ён перапісваў кожны маленькі фрагмент, як старанна выбіраў ноты, можна амаль адчуць у сабе і

перфекцыянізм, і адчай. Калі для Моцарта музыка была фантастычнай забавай, Бетховен жыў і граў у пастаянным адчаі.

Людвік ван Бетховен — таксама музычны геній. Але з іншых прычын, чым Вольфганг Амадэй Моцарт. Зараз паспрабую патлумачыць вам, чаму. Моцарт быў геніем, бо да яго музыка была квадратам, а ён ператварыў яе ў ідэальную акружнасць. У кампазіцыях Моцарта ноты плылі, як чыстая вада. Ён дакладна ведаў форму, разумеў правілы і, у рамках гэтых правілаў, ён рабіў нечаканае, немагчымае, дасканалае. Бетховен, з іншага боку, упершыню на свеце пачаў маляваць па-за гэтай акружнасцю. Меланхалічны, замкнуты ў сабе Людвік ван Бетховен быў апошнім класікам і першым рамантыкам. І адзін з самых здзіўляльных наватараў у гісторыі музыкі.

Затое (альбо, дакладней, *таму*) венская арыстакратыя не любіла творы Бетховена. Можна было чуць пра яго, напрыклад, што не мае таленту да пісання мелодый. І пра тое, што яго музычныя фразы недасканалыя і гармоніі дзіўнаватыя, «не па-нашаму». Пагаджуся, што публіку гэтую можна было зразумець. Падумаў арыстакрат, маўляў, зайду на канцэрт гэтага Бетховена, паслухаю прыгожыя творчыкі, падпяю, забуду пра свае праблемы. А тут такія цяжкія, вялікія акорды рвуць яму душу! Ну не, так не пойдзе, гэта не норма. Людвік ван Бетховен памёр бедным, забытым, непатрэбным. Не ажаніўся, дзяцей не меў. Затое яго музыка вечная, бо ў ёй хаваюцца ўвесь боль і ўся прыгажосць, якія месцяцца ў чалавечым сэрцы.

А ведаеце, талент быў неверагодны! Бетховен мог выбраць тры ці чатыры (!) ноты, любыя, і пабудаваць на іх вялікую сімфонію (пятую паслухайце!). Бетховен аддаўся той жарсці, якой яму не хапала ў жыцці, пераўзвысіў класіцызм, і нават прыдумаў... джаз. Я сур'ёзна, і раю вам санату №32, калі не верыце мне на слова. Ён не баяўся сваіх пачуццяў, як і не баяўся распранаць душу перад публікай, якая далёка не заўсёды яго падтрымлівала, нават пры тым, што сам ужо не чуў уласную музыку. Адчуваў вібрацыі ў паветры і на падлозе і спадзяваўся, верыў, што ўсё будзе добра. Я хачу і вам сказаць:

не бойцеся. Тварыце, як сэрца прагне, грайце, пішыце, танцуйце, як быццам вы ў самоце і робіце гэта для сябе, і ніколі (ні-ко-лі!) не здавайцеся. Скончу свой сённяшні тэкст на гэтай аптымістычнай (так-так, будзе гульня слоў, прабачаюся загадзя перад вамі) ноце.

## КІТЧ!

Калі адна цудоўная журналістка захацела зрабіць дакументальны фільм пра маё жыццё (пафасна, ведаю), яна падумала назваць яго злёгку крыўдным назоўнікам «Дзівачка». Чаму? Таму што я, хочаш ці не, з дзяцінства — прадстаўніца культурнай меншасці, так бы мовіць. Няхай і не люблю прызнавацца ў гэтым, але так і ёсць. Я люблю чытаць класічную літаратуру, граць на піяніна, пісаць вершы і паводзіць сябе як чалавек XIX стагоддзя з жаночымі роўнымі* правамі і з Інтэрнэтам. Вось сяджу я такая... Ну, такая. Я скажу без ніякага снабізму, я праўда *дзівачка*. Сяджу я такая дзіўная, пішу калонкі для «Маладосці», якія будзеце чытаць вы. Дарэчы, «Маладосць» — таксама высокая культура, *high brow* адназначна, і не дазваляйце нікому пераканаць вас у адваротным. Тут з'яўляюцца цікавыя новыя аўтары, размаўляюць пра важнае, прыгожае і вечнае, а вы малайцы ўсе, што чытаеце нашыя тэксты, дасылаеце свае, і да т. п. Але...

Ай ну, ведаеце, заўсёды ёсць нейкае «але»! Гэта адна з найгоршых частак дарослага жыцця. Асабліва для маладых дарослых. Наймацнейшая вера заўжды ў дзяцей. Ім часцей за ўсё верыцца, што няма немагчымага, што стануць, кім хочуць, што будуць *той зменай, якую яны б хацелі ўбачыць на свеце*. А вось падрастаем усе, пачынаем разумець, што не ўсё так проста, не ўсё так хораша, не ўсё зрабілі, як хацелі ва ўзросце 5 гадоў. І нам прыкра і ганебна. Дзецям пра гэта не кажуць, нельга ж (не хапала б яшчэ, каб «Бярозка» друкавала такую дэпрэсуху), а старэйшыя дарослыя глядзяць на «маладзёвыя

* Пэўныя абмежаванні могуць прысутнічаць, на вялікі жаль.

пакуты» скептычна і флегматычна. Усе перажылі, і ты, юнак, перажывеш, куды ж ты, маўляў, падзенешся? І ўсё, так?

Дык, тое «але»... Ёсць яшчэ адна дужа сумная прычына, чаму дакументальнаму фільму пра мяне хацелі даць назву «Дзівачка». Я беларускамоўная! Тады я жыла ў Варшаве, дзе 90% часу (без перабольшванняў) размаўляла на беларускай мове. Калі прыязджала ў Беларусь — таксама. Гэта не толькі пытанне нейкай прынцыповасці, ці што там (і я не асуджаю людзей амаль ні за што, і за мову, якою яны ў жыцці карыстаюцца — пагатоў!). Яшчэ ёсць такі момант: я не ідэальны двухмоўны носьбіт рускай і беларускай моў. Падалося б, відавочна, дый дробязь. А насамрэч на гэта часта забываюцца ў камунікацыі са мной. Рускай мовай я валодаю значна горш, чым беларускай — так склалася гістарычна. Хаця я разумею практычна ўсё (і нармальна стаўлюся да дзвюхмоўных размоў; як філолаг, мне яны нават прафесійна цікавыя!), размаўляць мне лягчэй і больш камфортна па-беларуску, калі ёсць магчымасць. Як і пісаць, як і ўсё. Вось хутка пераеду ў Мадрыд, і я ўжо на сувязі з тамтэйшай беларускай дыяспарай, у якой ёсць гурток беларускай мовы, жаночы клуб ды не ведаю што яшчэ. Прышпільна, праўда? Дык мая беларускамоўнасць, як мне патлумачылі, нібыта лічыцца дзівацтвам. Як і класічная музыка з тоўстымі рэалістычнымі раманамі, і ўласныя лірычныя публікацыі, і вось-гэта-вось-усё, чым я займаюся. Шкада, людзі, шкада!

А ведаеце, такая асацыяцыя быццам і здаецца сабачай лухтой, а насамрэч пэўная сувязь існуе. Зараз паспрабую вам патлумачыць, у чым жа яна. Напэўна, дарагія чытачы, вы ў курсе таго, што я вывучаю розныя мовы. Для гэтых моў, натуральна, патрэбная практыка. А эфектыўная практыка знаходзіцца не толькі ў дапаможніках і мастацкай літаратуры... Разумееце, да чаго я гэта? Напэўна, не вельмі. Добра, ёсць такая перадача ва Украіне — *Вагітна в 16*. Там паказваюць зусім не *haut-culture*, а даволі трэшовыя гісторыі цяжарных дзяўчат, іх хлопцаў, іх сем'яў. Дарэчы, адразу скажу: я абсалютна нічога супраць маладых мам не маю! Я ведаю некаторых цудоўных дзяўчат, якія спраўляюцца з дзецьмі неверагод-

на файна, і імі захапляюся. Затое, мне здаецца, вы ўяўляеце, якога тыпу і якога культурнага ўзроўню гэтае шоу, не? Вось я і гляджу перыядычна. Мне, як дэпрэсіўнаму чалавеку, яно па-злому дапамагае. Так, прызнаюся! І прабачаюся заадно, бо гэта не зусім тое, што можна чакаць ад адукаванага чалавека, але... Ну, глядзіце, мне ўжо 24 гады. Цяжарнай у 16 дакладна ўжо не буду. Я абышлася без гэтых патэнцыйных праблем. Хай і пачуваюся дрэнна, хай і нешта ў жыцці не так, хай мае вершы нізкаякасныя, калонкі не выходзяць, з вучобай усё кепска... Заўжды магу казаць сабе: «Ну, Анхела, прынамсі, табе не 16 і ты не цяжарная!» Дык, глядзела я некалькі месяцаў таму, паказваюць дзяўчыну: ёй 13 гадоў, хлопцу ейнаму 19, яна цяжарная... І ўкраінскамоўная! Гэта не дзівачка, якая займаецца літаратурай, музыкай і іншай лухтой, не! Гэта, выбачайце, гопніца. Звычайная гопніца з раёна, якая гаворыць... Ну, добра, на суржыку, але на варыянце, які значна бліжэйшы да ўкраінскай літаратурнай мовы, чым да рускай. А мова для яе — проста мова. Гаворыць, як выходзіць. Гэта не прынцып, не субкультура, не мастацтва. Украінскія граматыка і словы як сродкі камунікацыі. Камунікацыі праставатых думак пра «як жа пераканаць пацана, каб займаўся дзіцём». Ні болей, ні меней. А такіх перадач безліч ва Украіне. Ну, і ў Расіі, і ў ЗША, і ў маёй жа Іспаніі. І кожны размаўляе на сваёй мове.

Беларуская мова, затое, лічыцца дагэтуль рысай пэўнага тыпу людзей. Пэўнай (культурнай) прыналежнасці. Альбо ты з вёскі (ужо рэдка-рэдка так будуць думаць, і хутчэй такое меркаванне будзе актуальным, калі пра трасянку), альбо ты «літаратар», «свядомы» ці яшчэ хто. Праўду кажу?

У мяне нават ёсць такі вопыт, які падтрымлівае ідэю, што размаўляць па-беларуску, — цяжкая задача, толькі для культурных людзей, а затое размова на рускай мове — справа самая простая, *fool-proof*. Сёння я шчодрая, падзялюся ажно дзвюма гісторыямі!

1. Мінск, Дзень роднай мовы, запрашаюць на імпрэзу чытаць свае вершы (я была ў горадзе пасля фэсту ў гонар М. Стральцова, вось і паклікалі і на гэтую імпрэзу). Я тое-сёе

прачытала, а потым пачала камунікаваць з людзьмі, дзяліцца ўражаннямі, адказваць на пытанні. Там было весела і, як жа інакш, шумна! А раптам да мяне падыходзіць дзяўчына і задае пытанне, якое я не здолела зразумець. Я так і папрасіла: «Ой, прабачце, я не пачула, можаце паўтарыць пытанне?» А ў яе на твары намаляваліся і шок, і страх, і нейкі сорам (я ж проста не пачула! Што я зрабіла не так?). А яна сказала: «Не... Я гэта... Хацела з вамі сэлфі зрабіць! Вы не супраць?» Я, вядома, была не супраць, хаця на здымках выглядаю не найлепш. А яшчэ тады зразумела, што апошняе слова папярэдняга пытання было «сделать»! Я набралася адвагі і загаварыла: «А можна дурнаватае пытанне?» Яна, вядома, згадзілася, бо ўсім падабаецца слухаць дурноту. Я спытала, чаму яна звярнулася да мяне першы раз па-руску, а другі па-беларуску. Яна сказала: «Я звярнулася па-руску, бо так лягчэй. Вы ж замежніца, я хацела, каб вам было лягчэй, але вы мяне не зразумелі!» Мне тады стала неверагодна цікава. Я толькі што прачытала аўтарскія вершы на беларускай мове, звярнулася да слухачоў па-беларуску і размаўляла з нейкімі знаёмымі па-беларуску, калі яна падышла. Але яна вырашыла, што па-руску лягчэй. Ну, буду мець на ўвазе!

Другая гісторыя таксама мяне здзівіла, хаця яна здарылася пазней. Працавала з журналістамі і апаратарамі, якія таксама нешта здымалі са мной у Мінску. Пашпацыравалі, размаўлялі па-беларуску з рознымі людзьмі. Як стаміліся крыху, селі на каву. Я крыху інтраверт, таму не вельмі размаўляла. Апаратары ж перайшлі на рускую мову. Мне задалі нейкае пытанне, на якое я адказала па-беларуску, як заўсёды. А мне вылятае смех і адказ: «Ай ну, мы ж уже не записываем, можешь разговаривать по-нормальному!» Зноўку ж, лягчэй будзе, не?

Чаму гэтак здараецца? Ведаеце, як я мяркую? Вы, магчыма, будзеце злавацца на мяне, але... Гэта, у тым ліку, ад таго, што на беларускай мове не хапае папсы і масавай культуры! Не хапае нізкаякасных перадач, банальных песняў, кепскіх бестселераў і графаманскай паэзіі. Няма тых твораў і з'яў, якія прыцягваюць да сябе носьбітаў ніжэйшага ўзроўню адукацыі,

публікі з трывіяльнымі інтарэсамі. Кантэнт занадта складаны, і таму сама мова не ўсім даступная ў выніку. Патрэбны кітч! Папрацуйма, можа, і над гэтым?

## КАРАЛЕЎСКІЯ ПАРТРЭТЫ (I)

Тэма гэтай калонкі — адна з найважнейшых тэм для мяне асабіста, таму загадзя папрашу прабачыць мне і шматслоўе, і лішнюю жарсць, і мажлівую сумбурную падачу думак. Даўно тут сядзім з вамі (ужо год!), і, мяркую, вы зразумееце мяне.

Пачнём з назвы, якую я дала свайму тэксту. Партрэты... Каралеўскія партрэты. А вы ведаеце, як даўнія мастакі малявалі каралёў і ўвогуле ўплывовую шляхту? І не трэба мне хітраватых адказаў, накшталт *малявалі рукамі* альбо *з дапамогай пэндзля*, я ж вас ведаю. Малявалі ідэальнымі. Кароль заўжды хацеў быць высокім, стройным, прыгожым, увогуле без недахопаў. Бо менавіта ён быў кліентам (яшчэ болей скажу: ён быў кліентам, які мог загадаць адсекчы мастаку галаву). Некаторых каралёў на партрэтах і пазнаць немагчыма было, і шляхта, натуральна, жартавала з гэтай прычыны. Эх, палацавыя інтрыгі!

У паэтаў мінулых гадоў (і шмат у каго з сучасных) падобныя праблемы. Згода, гэта не абавязкова праблемы, але розныя тэндэнцыі ёсць, бясспрэчна. Часам пішам пра каханне абстрактна, а ў іншых выпадках ёсць муза. А музу можна апісваць больш ці менш дакладна, канкрэтна альбо больш ці менш універсальна. Універсальна ў такім сэнсе, што пішам нібы пра нашую музу (думаючы пра яе, узгадваючы яе), а выходзіць чарговае абстрактнае каханне. А я люблю асабістае. Не памятаю, ці казала я вам пра гэта, але я ў школе пісала вершы і любоўныя лісты на замову. І для вершаў, і для лістоў (асабліва для лістоў) я вельмі старанна назірала за чужым аб'ектам кахання: звяртала ўвагу на тое, як каханыя іншымі людзі вымаўляюць словы, якім жэстам здымаюць акуляры, якім тэмпам і якой хадой ідуць па калідоры, якія песні падпяваюць на перапынках. Так я прызвычайвалася да іх, прывязвалася часова. Можна сказаць, я палюбіла сто разоў за свае школьныя

гады: пісала новай музе, адпускала яе і шукала новы праект кахання. Сама была адна, натуральна. Пра ўсё гэта потым.

Цяпер давайце вернемся да паэтаў ранейшых часоў. Калі нават цяпер цяжка, тады было неверагодна складана з індывідуальнасцю аб'ектаў кахання. Помніце еўрапейскі Рэнесанс? «Мая каханая такая цудоўная-дасканалая, вочы ў яе блакітныя, як чыстае жнівеньскае неба, шчокі як чырвоныя ружы, скура як белы снег»*. Усё, ніякай разнастайнасці. Уяўляеце, іспанскія паэты так пісалі. Колькі з іх былі закаханыя ў белакурых паўночных прыгажунь? Вельмі мала. Большасць дзяўчат выглядала прыкладна так, як я. Аж смешна, не? Але так пісалі, бо такі быў канон. Напэўна, паэты часцей за ўсё не пісалі пра сваіх жонак і каханак (глядзіце на мой здымак і мяркуйце самі, як яны маглі выглядаць), а пра нейкія абстрактныя ідэалы лірычнага характава, якія нават не маглі быць жывымі, ужо без жартаў. Толькі прыгожыя. Але як жа прышпільна, што Уільям Шэкспір неяк наважыўся напісаць свой 130 санет пра жывую дзяўчыну (пераклад У. Дубоўкі):

Да зорак не падобны любай вочы,
Каралі — шмат за вусны чырваней,
Не златакосая — пад колер ночы,
А снег — бялей смугі яе грудзей.

Не параўнаць яе да руж дамаскіх, —
Бяднейшы колер твару, на руках,
І больш прыемны водар маюць краскі,
Чым ад яе духмяных вуснаў пах.

Люблю я вельмі слухаць голас мілай,
Ды ўцехі больш мне музыка нясе.
Не знаю, як багіня дзе хадзіла,
Яна ж звычайна ходзіць, як усе.

І ўсё ж, клянуся, над яе на свеце
Не адшукаеце нідзе кабецін!

* Гэта нерэальная цытата рэальнага паэта Рэнесансу, але яна блізкая да таго.

Ваў, Шэкспір напісаў пра звычайную (неплатанічную, недасканалую) жанчыну, і ніхто ад гэтага не памёр! Прабачайце мне сарказм, калі ласка. Я насамрэч мілая і добрая, а тэма мяне чапляе за балючае, хаця адчуваю сябе рэпрэзентаванай у творчасці Шэкспіра, і гэта мяне цешыць. Не таму, што я не бландзінка, не, ёсць больш важкія прычыны. Тут у Шэкспіра, хочаш ці не, дзяўчына, як дзяўчына. Жывая, сапраўдная, звычайная. Падымайце рукі, хто пісаў любоўны верш такому каханаму чалавеку! Хачу ўбачыць лес рук! І як нехта мудры казаў, паважаюць за заслугі, а любяць за недахопы. Так? *Яна ж звычайна ходзіць, як усе*. Фантастычна, не? Цяпер я падзялюся з вамі крыху асабістай інфармацыяй. Я пісала любоўныя вершы музе... Чалавеку, хвораму на ДЦП. Ён ходзіць не так, як усе. Лірычная гераіня маіх вершаў кахае яго цэлага і не малюе каралеўскіх партрэтаў, а рэалістычныя (так, я пастаўлю сюды свой верш пасля Шэкспіра, выбачайце! Я хачу данесці думку, хаця таленты параўноўваць не варта):

А ўсё ж такі няцяжка,
Знайсці цябе і ў лесе замарожаных твараў,
Бо помніш, як мы падалі з табою,
Як грэшныя анёлы слёзаў, гною
Ды крыві?
Як вогненныя знічкі мы з-за хмараў?
Зірні, вунь паглядзі,
Як нам зайздросцяць
Ганарыста-каляровыя паўліны,
Хай вытанчана і ходзяць па траве,
Але ж яны так пырхаюць нязграбна...
Няхай на дзве хвіліны,
Стаць хочуць альбатросамі Бадлера,
Як і мы. А час плыве:
Я разумею, што з табою растуць крылы:
Ды што нам гонар, мілы?
Што зямля? Я буду шчырай:
Не трэба бегаць мне, ні танцаваць,
Калі з табою будзе вырай,

А мы ўцячом забруджаным паветрам,
Успамінам намі згубленых гадоў
Жыцця ды мараў. Я гатовая пазнаць
І страх, і смерць, і нават вышыню,
Альбо любоў.

Ведаеце, перад тым, як вырашыла змясціць гэты верш у калонку, я правяла малы псеўданавуковы досвед: паказала твор двум пробным чытачам. Адзін блізкі да такой рэчаіснасці, другі — далёкі, з (амаль?) ідэальным здароўем. І кожны інтэрпрэтаваў па-свойму. Калі сярод вас, дарагія, ёсць нехта, хто ходзіць не так, як усе, дык не сумнявайцеся — вы існуеце ў маім лірычным свеце; у маёй сціплай творчасці вы рэпрэзентаваныя, і для мяне будзе вялікі гонар, калі нехта ўбачыць сябе ў каханку гэтай лірычнай гераіні. Ёсць у мяне ў вершах і іншыя нетыповыя адрасаты, але яны, бадай, не на сёння.

Нашмат больш адкрыта пра хваробу лірычнага адрасата піша беларуская літаратарка Яніна Пінчук. Гераіня верша, фрагмент якога я вам працытую зараз, кахае старэйшага чалавека, які змагаецца з небяспечнай хранічнай хваробай. З гэтай прычыны ў наступных радках можна ўбачыць і смерць, і медыцыну, і любоў. І гэта любоў, якая жыве ў страшнай рэчаіснасці: каханы смяротны, а не вечны, і гэта пужае гераіню:

[...]
...Твае рукі як птушкі,
што мітусяцца прад паляўнічым,
а імя яму вельмі кароткае,
імя, як удар гільяціны: Смерць...
на хаду ўжо сілы згасаюць,
але крылы твае не znікаюць,
і такімі ж срэбнымі ззяюць...
але я цябе — не прытулю,
ані не ўратую,
у адчаі лекі гатую —
і адразу ж іх выліваю —
няма спадзявання...
кожнае наша спатканне —

насамрэч, любы мой,
развітанне.

Напэўна, вы даўно зразумелі, якія галоўныя тэзісы гэтай калонкі: па-першае, усе людзі вартыя кахання, нават (пагатоў!) неідэальныя. Дакладней, толькі тады, калі кахаеш чалавека, ён ператвараецца ў ідэал твайго кахання. Па-другое, рэпрэзентацыя ў мастацтве моцна ўплывае на чалавечае меркаванне (і на грамадскае, і на асабістае меркаванне чалавека пра самога сябе): калі ты сябе бачыш у вершах пра шчырае каханне, тады ты пачынаеш верыць у тое, што можаш быць шчыра каханым. Такім, як ёсць. На заканчэнне хацела б падзяліцца геніяльнымі радкамі паэта Луіса Сэрнуда. Класік іспанскай літаратуры таксама ведаў, што такое «неідэальнае каханне», і адчуў тагачасную нецярпімасць да таго, што кахаў не таго чалавека, пра што красамоўна заяўляе вось такімі вобразамі:

Калі б чалавек мог сказаць пра тое, што кахае,
Калі б чалавек мог падняць сваё каханне да неба,
Быццам хмара ў моры святла;
Калі б, як сцены, якія звальваюцца,
Каб павітаць праўду, якая падымаецца пасярэдзіне,
Чалавек мог бы знішчыць сваё цела,
І пакінуць толькі праўду пра сваё каханне,
Праўду пра самога сябе,
Якая называецца не славай, поспехам альбо амбіцыяй,
А каханнем альбо жаданнем,
Я быў бы тым, кім марыў быць;
Тым, хто сваім языком, сваімі вачыма, сваімі рукамі
Прамаўляе перад чалавецтвам праўду, якой пазбягаюць:
Праўду пра сапраўднае каханне.

Не бойцеся казаць праўду. Не бойцеся прызнавацца ў каханні. Не бойцеся быць неідэальнымі. Вы не адны, пакуль існуе паэзія на свеце.

## КАРАЛЕЎСКІЯ ПАРТРЭТЫ II,
## або КАРОЛЬ СНЯДАННЯ

Вітаю вас, дарагія чытачы! Цяпер хачу размаўляць пра тое, наколькі важная візуалізацыя нетыповых людзей у масавых СМІ, асабліва ў новых культурных кодах, якія фармуюцца на аснове кніг (ну, не настолькі), фільмаў і... серыялаў! Калі вы падобныя да мяне, вы глядзіце болей серыялаў, чым хацелася б вашым бацькам, выкладчыкам, начальнікам, партнёрам і ката́м (спадзяюся, не памылілася з націскам!). Гэта нармальна. Прынамсі, я паўтараю сабе, што гэта нармальна, бо я не хачу жыць без сваіх серыяльчыкаў. Калі ўжо гаварыць сур'ёзна, серыялы сталі сапраўднай крыніцай папулярнай культуры апошнімі гадамі. Мой бацька, ненаедны кінаман, любіць казаць, што, такім самым чынам, як 40-я і 50-я гады былі для Галівуда залатою эпохай кіно, нашыя дні (ад 2000-х гадоў) з'яўляюцца перыядам якасных і нават легендарных серыялаў, якія ствараюць дагэтуль новую культурную прастору, якая будзе актуальнай некалькі дэкад. Тое, што мы бачым у серыялах, уплывае на нашае жыццё, а дакладней — на нашае светаўспрыманне. Гэта падсвядомы працэс. Рэжысёры нясуць адказнасць за тое, каб усіх людзей было бачна ў серыялах. Каб кожны з нас мог бачыць сябе ў героях, і, такім чынам, каб кожны з нас мог бачыць героя ў сабе. Таму я паважаю сцэнарыстаў і рэжысёраў, якія здольныя паказваць самых розных людзей без стэрэатыпізацыі і выкарыстання іх як просты інструмент для нарацыі. Што я маю на ўвазе, калі кажу «стэрэатыпізацыя»? Уявіце серыял, дзе адзін з герояў хворы. Няважна, на што, проста хворы. А вось усе яго сцэны ў серыяле звязаныя толькі з гэтай хваробай, усе дыялогі — пра хваробу, яго развіццё — развіццё хваробы. Вось гэта стэрэатыпізаваны герой, які, хутчэй за ўсё, нічым не падобны да рэальных людзей з той самай хваробай. Ведаю з жыццёвых выпадкаў, паверце мне.

А цяпер, можа, пяройдзем да добрых прыкладаў? Магчыма, вы і не ўяўляеце, бо не звярталі ўвагу на такое (я не звяртала ўвагу на ўсё гэта, пакуль не пачала вывучаць літаратурную тэорыю), але іх нямала! А сёння ў мяне настрой неблагі.

Пачнём з вельмі простага, маленечкага моманту аднаго з амерыканскіх серыялаў... Ну, як вы, пэўна, ведаеце, у ЗША расізм — гарачае, заўжды актуальнае пытанне. Традыцыйна, СМІ паказваюць стэрэатыпы пра меншасці: азіяты дужа разумныя, граюць на трох інструментах, вучацца на лекара ці адваката. Лацінасы і афраамерыканцы амаль заўжды звязаныя з вулічным гвалтам і наркатой. Звычайна, калі серыял паказвае чорную сям'ю, раса мае значэнне ў гісторыі. Сям'я бедная (бо чорная!), тата ў турме (бо чорны!), сын пачынае ўжываць какаін (бо чорны!), дачка-падлетак цяжарная (чаму, як думаеце?). А вось ёсць такі серыял The Leftovers (па-беларуску, «Пакінутыя»). Не хачу спойлерыць*, але ў другой палове серыяла паяўляецца чорная сям'я. Тыповая сям'я амерыканскага высока-сярэдняга класу. Іх праблемы ніяк не звязаныя з расай, а хутчэй з тым, што са свету раптоўна знікла 2% насельніцтва (пра гэта ідзецца ў серыяле). Нармалізацыя чорнай сям'і без стэрэатыпічных (негатыўных) «чорных» знакаў — ужо маленькая перамога.

А цяпер прыйшоў той час, які вы ўсе чакалі (ну, не, больш я чакала, але я цешуся ўсё адно). Пераходзім да аднаго з маіх улюбёных серыялаў, *Breaking Bad***! Там усё ёсць: па-першае, галоўны герой. Так, хай белы мужчына, але сярэдняга ўзросту, таўставаты, у акулярах і без прафесійных перспектыў апроч школы, дзе выкладае хімію. Жонка ў падобнай сітуацыі: ёй сорак, зацяжарала нечакана (не таму, што чорная, лацінаска ці яшчэ хто — у белых таксама здараецца!), грошай мала, хвалюецца. Далей, швагерка і яе муж — бяздзетная пара. Не называюць ніякіх прычынаў, няма сумнай перадгісторыі, жывуць шчасліва. Такім чынам, паказваецца і такая пара як варыянт нормы.

---

* Адкрыць сакрэты серыялаў ці фільмаў, асабліва датычна іх канца, раней часу. Такое знішчае наймацнейшыя сяброўствы.

** Па-беларуску СМІ называюць яго «Ва ўсе цяжкія». Мне падалося, што гэта калька з рускай мовы.

Мой улюбёны герой у серыяле — падлетак, сын галоўнага героя, Уолтэр «Малодшы»! Разумееце, герой хварэе на ДЦП*. Акцёр таксама. Хачу звярнуць увагу на тое, наколькі важна выбраць акцёра з інваліднасцю на ролю інваліда. Здаецца, гэта відавочна, але раней на ролі людзей з інваліднасці выбіралі здаровых акцёраў, якія проста сімулявалі хваробу (не надта рэалістычна). Герой — надзіва звычайны амерыканскі падлетак: у серыяле паказваюць, як яму бацька купляе першую машыну, як ён стараецца набыць алкаголь з фейкавым пашпартам... Яго інваліднасць рэлевантная толькі ў дзвюх сцэнах серыяла: першы раз бачым гіперапеку маці, супраць якой ён бунтуе. Другі раз, калі яго высмейваюць у краме адзежы, і бацька б’ецца з агрэсарамі. А разумееце, гэта вельмі рэалістычныя сітуацыі (пытайцеся ў любога чалавека з ДЦП), і яны важныя для псіхалагічнага развіцця героя. Праблема хлопца не ў інваліднасці, а ў тым, што [мяккі спойлер] бацька вырабляе метамфетамін.

На заканчэнне скажу: тое, што мне найбольш падабаецца ў культурнай з’яве серыяла — хваля мемаў пра Уолтэра «Малодшага». Як думаеце, ці людзі на інтэрнэце жорстка жартавалі пра ДЦП? А вось і не! Breaking Bad — геніяльны серыял, але павольнаваты. Ён вядомы яшчэ за шматлікія сцэны, дзе сям’я галоўнага героя есць сняданак. У іх заўжды прысутнічае сын. Дык інтэрнэт аб’явіў яго каралём сняданку. А пра інваліднасць у жартах не было ані слова. Гледачы, значыць, успрымалі яе натуральна, як частку яго асобы.

Такім самым чынам, як я наракала на пісьменнікаў даўніх часоў у першай палове «Каралеўскіх партрэтаў» (там рэальна смешна!), цяпер мушу пахваліць сцэнарыстаў гэтага сучаснага серыяла. Калі героі добра напісаныя, «чалавекападобныя», але аднačасова праводзіцца візуалізацыя нестандартных людзей, гэта мае двайны (і ўдвая станоўчы) уплыў: па-першае, нарацыя захоплівае аўдыторыю, і гледачы пачынаюць думаць пра

* Дзіцячы цэрабральны параліч. Гэта прыроджанае захворванне аддзелаў мозга ў працэсе ўнутрычэраўнага развіцця. Адна з самых распаўсюджаных прычын дзіцячай інваліднасці, здараецца ў 2,1 з 1000 нараджэнняў (Oskoui, Coutinho et al., 2013).

гэтых герояў як пра блізкіх людзей, за якіх хвалююцца, якіх любяць і ненавідзяць па-чалавечы. Па-другое, «асаблівасці» герояў, якіх і ў рэале нямала (вы спрабавалі калі-небудзь знайсці ў жыцці сярэднестатыстычнага чалавека?), пачынаюць выглядаць як частка жыцця, а не як механізм той жа нарацыі (альбо камічная фішка, у найгоршым выпадку). Пахвалу заслугоўваюць акцёры і ўсе, хто чакаў штотыдзень новага выпуску *Breaking Bad*. Не-не, я сур'ёзна: глядач, які гатовы да ўспрымання нестэрэатыпных вобразаў традыцыйна стэрэатыпізаваных людзей заслугоўвае вялікую павагу. Хочацца, каб мы ўсе навучыліся заўважаць і цаніць такія рэалістычныя (не каралеўскія) партрэты, каб мастацтва развівалася і ў гэтым накірунку. Жыве кароль снядання!

## ЦУД

Дарагія чытачы: я думала пісаць пра нешта зусім іншае, але, пасля ўсяго, што са мной здарылася на днях, я проста мушу вас спытаць — вы верыце ў цуды? Я заўжды верыла, чакала, шукала, і нават імкнулася ствараць. Праўда, я верыла толькі ў маленькія, штодзённыя цуды. У тыя здарэнні, якія крыху падымаюць нам настрой у цяжкі дзень: я верыла ў чырвоназалацістую восеньскую лістоту, у захад сонца, у спеў салаўя. Верыла ў чалавека, які заўважыць тваю цяжкую валізку і дапаможа паднесці да цягніка. У чалавека, які пойдзе з табой, калі спытаеш пра нейкі адрас у незнаёмым горадзе. У чалавека, які чароўным голасам праспявае тваю ўлюбёную песню каля станцыі метро. Заўжды звяртала на іх увагу, старалася нейкім чынам сама быць цудам для знаёмых і незнаёмых. Калі нехта пазнаёміўся са мной ужывую, тады той ведае, што я чалавек вясёлы, энергічны, ветлівы. Ведае, што я ненаваджу несправядлівасць, стэрэатыпы і дыскрымінацыю, што заўжды гатовая дапамагчы (нават калі самой патрэбная дапамога). Я веру, што кожны з нас можа быць святлом маяка ў навальніцу. Ніхто не ведае галаву блізкага чалавека, ніхто не ў стане цалкам зразумець чужыя змаганні і праблемы, чужы сум,

чужую бяду. Таму я імкнулася рабіць так, каб са мной было лягчэй, чым без мяне.

У вялікія цуды я ніколі не верыла. Я зусім не рэлігійны чалавек. Ніколі не падавалася лагічным тое, што адзін бохан хлеба можа накарміць сотню чалавек (ведаю, што лічбы не тыя дакладна, але я гуманітарый, выбачайце!). Мне не верылася, што нехта можа вярнуцца з тае чорнай дзіркі, якую мы называем смерць і пра якую так мала ведаем. Я проста радавалася маленькім цудам, а вялікіх не чакала. Тым больш, што я сем гадоў жыла з хранічнай дэпрэсіяй. Мяне хапала толькі на штодзённыя цуды і ўсмешкі.

Сем гадоў, дакладней, я жыла пад дэпрэсіяй. Пад яе цяжарам. Ведаеце, дэпрэсія — гэта вага, якая цябе стрымлівае. Яна халодны, чорны, агромністы камень, які трэба насіць на плячах. Дэпрэсія, натуральна, гэта і нястрымныя нервы, і невымоўны страх, і поўнае бяссілле, і пакрыўджаныя слёзы, і неверагодная лянота, і абсалютная абыякавасць, і бачанне рэчаіснасці не такой, якая ёсць. Затое я вам кажу, перадусім, дэпрэсія — гэта чорны камень, пад якім чалавек жыве (калі шанцуе) альбо існуе (ў цяжкі дзень). Дарэчы, нават самы жыццярадасны чалавек вашага сацыяльнага асяроддзя можа хварэць на дэпрэсію. Часта бывае, людзі, якія распавядаюць найлепшыя анекдоты і якім найбольш прыемна бачыць, як сябры смяюцца — самі патрабуюць усмешак і шчасця, якіх ім вечна не стае. Менавіта таму я адважылася напісаць пра такую важную тэму. Пакуль дэпрэсія будзе табу, пакуль яна будзе лічыцца «недахопам характару», «ненармальнасцю», «дурнотай», «а проста выходзь з хаты, весяліся і ўсё» — мы не зможам яе перамагчы. Без падтрымкі сяброў і сваякоў мы адны. А камень вельмі цяжкі.

Я хачу распавесці вам трохі пра сябе. Менавіта пра сябе праз прызму дэпрэсіі (калі ласка, паверце і помніце: дэпрэсія не вызначае, што ты за чалавек). Я заўжды была дзіўным чалавекам. Нарадзілася дзіўным дзіцём. Чулым, самотным, сумнаватым. Кнігі любіла больш за людзей (цяпер прыкладна аднолькава, не раўнуйце, сябры). Заўжды былі моцныя негатыўныя пачуцці пры несправядлівасці. А яе шмат, праўда?

Але я не заўжды была ў дэпрэсіі. Усё пачалося, калі мне было 16 гадоў. Я не распавяду ўсю гісторыю: па-першае, гэта зойме шмат часу; па-другое, гэта балючая тэма, пра якую я раскажу толькі за півам асабіста. Калі коратка: адзін з маіх самых блізкіх сяброў кінуўся пад цягнік. І я заўжды думала (дагэтуль часам вагаюся), што я магла б выратаваць, а не выратавала. Ёсць свае прычыны. І ўсё: «цяжар душы», як у Міхася Стральцова (ён, дарэчы, таксама верыў у цуды, вы ведалі пра гэта?). Са мной здарылася яшчэ некалькі непрыемнасцяў на працягу 2010 і 2011 гадоў, і псіхіка сем гадоў не вярталася да нормы. Кожны дзень на маіх плячах ляжаў гэты камень. 2555 дзён (тут дапамог брат-матэматык).

Да дна я спусцілася ў лістападзе мінулага года, калі толькі вярнулася з Мінска. Накапіліся самыя розныя прычыны, праблемы, і проста здарылася абвастрэнне хваробы (памятайце, гэта рэальная хвароба, і даруйце паўтарэнні: гэта ключавы момант). У пэўны дзень я вырашыла, што больш не магу. Скажу вам нешта цікавае: калі дзікі звер ведае, што яго чакае хуткая смерць, ён спакойны. Не баіцца, не імкнецца супраціўляцца. Успрымае, засынае, памірае. Я таксама была спакойнай некалькі гадзін. Чакала, калі наступіць ноч, каб мяне ніхто не заўважаў. А потым я, з-пад каменя, паспрабавала супраціўляцца. Пачала пісаць сябрам, з некаторымі тэлефанавалася, «развітвалася». А потым увогуле патэлефанавала сяброўцы, каб яна прыехала мяне (дарослую цёцю) даглядаць. Яна змагалася з падобнымі праблемамі і ведае, што гэта такое. Прыехала з працы... І заснула ў мяне на ложку. Тады я ўзяла і пайшла на дах. Усё ж такі.

Часам рамантызуецца самагубства. Як алкагалізм і сухоты. Асабліва сярод літаратараў і іншых творчых людзей. А я не буду. Я стаяла на даху цэлыя дзве гадзіны. Было дужа страшна. Памятаю, у мяне рукі былі халодныя. Непрыемна. Я хадзіла па гэтым даху, між сонечных батарэяў (ці ёсць рамантыка ў сонечных батарэяў?), шукала найвышэйшы пункт, рыхтавалася скочыць. Не, суіцыд — не жарты і не рамантыка. Затое мне б хацелася крыху парамантызаваць момант, калі я выратавалася. Я глядзела ўніз, з зямлі там сыходзіла дзівоснае

зялёнае святло. Ноч, вуліца, ліхтар. Аптэкі не хапала. Я думала пра сваё жыццё, пра свае фатальныя памылкі, пра сваю сям'ю, пра сяброў. Чула галасы сяброў у галаве, і яны моцна злаваліся. «Усё, я скочу», — падумала.

Паглядзела назад і ўгару. Я казала, што мой тата цікавіцца астраноміяй? Ён нават тэлескоп набыў «для дзяцей», калі я была маленькай. А глядзеў пераважна ён. Тата мяне навучыў распазнаваць зоркі, планеты, канстэлацыі. Неба было хмурнаватае, але я ведала, што ды як. І з-за хмараў заззяла яна: Венера. Маленькі цуд. Банальна, а я хацела *паглядзець іншы раз на яе*. Апошні раз. А калі павярнулася і паглядзела ў галодную бездань, я адчула позірк Венеры на спіне. А разумееце, я не змагла пры ёй. Дрыжалі крылы. А каб спусціцца дрыжалі ногі. Я вярнулася ў пакой, сяброўка пасварылася на мяне (і мела рацыю), і я пайшла на тэрапію.

Я хачу вам сказаць: звяртайцеся заўжды да блізкіх, калі адчуваеце, што нешта з вамі не так. І падтрымлівайце тых, хто да вас звяртаецца. Кожны мае свае праблемы, часам магчыма дапамагаць, а часам, на жаль, не. Затое сам факт, што вашага існавання можа выратаваць брата, сябра, каханага. Не бойцеся звяртацца да псіхолагаў і псіхіятраў, альбо схадзіць да іх з вашым блізкім чалавекам «пад чорным каменем». Будзьце тымі маленькімі цудамі, якія вы чакаеце, добра?

Дарэчы ж, мой гэты тэкст называецца «цуд», а не «камень». А для гэтага ёсць свая прычына: у адзін добры дзень, калі я прачнулася зранку, я зразумела, што чорнага каменя няма. Ён знік раптоўна і нечакана. Хранічная хвароба знікла. Цяжару на плячах не стала. Проста «падымайся і ідзі». Гэта быў дзень, калі я паверыла ў вялікія цуды.

## НЕПРЫГОЖАСЦЬ

Апошнім часам я моцна стамляюся. Не ведаю, ад чаго, хаця ёсць падазрэнні. З'явілася тэндэнцыя губляць час і гартаць стужку навін на Фэйсбуку без канкрэтнай мэты. Ясна, вам гэта, пэўна, цяжка зразумець: вы гартаеце толькі старонкі «*Маладосці*» і якасных класічных кніг сусветнай і беларускай

літаратуры. Я таксама люблю іх гартаць, але сённяшняя гісторыя пачынаецца з фэйсбучнага паста, хай Бог мне даруе. Сумавала я ды гартала, і выпадкова заўважыла цытату Каміля Пісаро над так званай натхняльнай, каляровай карцінкай, якую апублікавала мая блізкая сяброўка: «блаславёныя тыя, хто бачыць прыгажосць у сціплых месцах, дзе іншыя не бачаць нічога».

Прыгажосць у сціплых месцах... Ведаеце, я тады задумалася. З дзяцінства заўважала прыгажосць ва ўсім. Абсалютна. Я не выхваляюся: гэта выклікала нямала цяжкасцяў у паўсядзённым жыцці. Магчыма, я пра гэта ўжо распавядала, але, калі мне было пяць гадоў, у нас была экскурсія ў заапарк усёй групай. Нам паказалі агромністую птушку, нелятучую, шэрую, з вялікай, дзіўнаватай дзюбай. Яна была апошняя жывёліна свайго віду, сядзела ў клетцы, клянуся вам, з такімі сумнымі вачыма... Тады я ўпершыню адчула сваю самоце. І не толькі гэта, але і прыгажосць, якая хаваецца ў самой самоты, калі ўмееш глядзець на яе дзіцячымі вачыма. І адзінокая птушка паказала мне сваю прыгажосць: была выразная трагічнасць у яе нязграбнай хадзе, была пэўная годнасць у светла-шэрым апярэнні, была невымоўная туга ў яе позірку. Іншыя дзеці гэтага не ўбачылі, чамусьці. Высмейвалі «дурнаватага, смешнага птаха», якога я проста не бачыла. Я бачыла высакародную душу ў жалезнай клетцы.

З таго часу я пачала разумець, наколькі ўсё ж такі наш сусвет прыўкрасны ва ўсіх сваіх праявах. Я здзіўлялася прыгажосці восеньскай лістоты, нават калі яна была бруднай па дажджу і мінаках. Уражвалі мяне сваёй прыгажосцю і той сам дождж, і слёзы на шчоках людзей, і маршчыністая скура пенсіянераў, і светлы сум безадказнага кахання, і цемра доўгіх начэй, і цішыня няёмкіх знаёмстваў, і лёгкія крылы паўсюдных мух, і адзінота зламанай лялькі ў сметніцы. Так, былі падставы падазраваць, што я належу да гэтай групы *блаславёных,* якім прыгажосць паказваецца ў той час калі іншыя нават не аглядваюцца. Я любіла (і люблю дагэтуль) фіксаваць самыя розныя імгненні жыцця ў паэзіі, у кароткай прозе, у фотаздымках малюсенькіх альбо незаўважных дробязях.

Напэўна, не зразумела тады, чаму мне было цяжка ў жыцці. Напэўна, чалавек, які бачыць прыгажосць практычна ва ўсім, павінен яе цаніць і быць шчаслівым, праўда ж? Зараз патлумачу, што да чаго. Па-першае, гэта была адна з прычынаў, чаму мяне пачала забаўляць паняцце смерці. Яе трагічнасць я ўспрымала, як хараство; яе непазбежнасць — як лірычнасць. Кагнітыўны дысананс паміж уласным і «правільным» светаўспрыманнямі часта даводзіў мяне да думак пра канец жыцця, з якімі я змагаюся ў душы ўжо доўгія гады. Дзякуючы вопыту, я зразумела, што я здольная і дараваць прыгажосць іншым людзям. Усё пачалося з паперы з алоўкам — з першых вершаў. Я зразумела, што я магу звязваць словы, у прынцыпе банальныя, ардынарныя словы, у прыгожую форму. Гэта была ўжо годная справа для самотнага дзіцяці, якім я тады была. У сярэдняй школе (прыкладна з 13 гадоў, для тых, хто не ў тэме іспанскай адукацыйнай сістэмы), я пісала вершы і любоўныя лісты на замову. Ну так, была аплата, але, можна сказаць, сімвалічная. І стварылася столькі цудоўных пар! І гэта дадавала нейкае святло маёй духоўнай адзіноце. З цягам часу я зразумела, што магу аддаваць сябе: абдымкі, пацалункі, добрыя словы ў цяжкі час. Я ўжо шосты год з'яўляюся донарам і здаю кроў рэгулярна. А няўжо не прыгожа думаць, што сэрца незнаёмца б'ецца тваёй крывёю? Я люблю аддаваць, што магу. І адчуваю, як любоў маіх сяброў і блізкіх трымае мяне на свеце. Такі абмен, так бы мовіць.

Другі фактар майго дыскамфорту быў у тым, што мне цяжка ўспрымаць праявы нянавісці, варожасці, злосці. Гэтыя эмоцыі былі так далёка ад маёй карціны свету, што мне не хапала галавы, каб іх зразумець. Не кажучы ўжо пра тое, ці я была здольная на іх, ці не (спойлер алерт — не). Мой максімум вызначала, мяркую, абурэнне. Абурэнне перад несправядлівасцю незразумелых мне сітуацый. Напрыклад, здаралася, кагосьці дыскрымінавалі праз нібыта негарманічныя твар або фігуру, праз няўдалы выбар акуляраў (альбо простую прысутнасць тых, вы ж ведаеце, якімі бываюць дзеці і падлеткі) альбо праз любую іншую рысу. Мне гэта было не толькі незразумела, а і самой балюча, бо я вельмі люблю чалавечыя

(ох, настолькі чалавечыя!) так званыя недахопы. Я бачу ў іх неймаверную прыгажосць.

У некаторых заўважная картавасць, калі гавораць, і гэта дадае іх мове пяшчоту і шчырасць. Некаторыя маюць асаблівую хаду, як тая самотная птушка, самая прыгожая на свеце. Іншыя бачаць кепска і вельмі схіляюцца над кнігамі, каб іх чытаць, і выглядае так, быццам адчуваюць іх душой. Альбо наадварот, можа быць моцная блізарукасць, і чалавеку здалёку паказваюцца найбольш паэтычныя пейзажы імпрэзіянізму. Альбо нават не бачаць нічога, успрымаюць свет праз вушы і чуюць, як спяваюць дрэвы ў лесе. Рабацінне ўпрыгожвае твары, шнары гавораць пра адвагу, халодныя рукі самі просяць, каб іх трымалі паміж сваімі.

А ведаеце, у чым справа? Ведаеце, чаму мне бывае цяжка? Я не бачу непрыг*о*жасць сусвету. Ну, скажам так, слаба яе бачу. Магу позна заўважыць праяву жорсткасці, і мною карыстацца вельмі лёгка. Калі чалавек не разумее непрыг*о*жасці, ён павінен вывучыць яе на памяць, каб прыйшло цэласнае разуменне рэчаіснасці. Гэта доўгі, балючы і заўжды штучны працэс. Гэта паўтарэнне пытання «як гэта магчыма?», нягледзячы на тое, што шмат бачыў і перажыў. Гэта прабачэнне людзей, якія могуць яго не заслугоўваць (пішу гэтыя словы, і мне самой баліць, бо веру ў сэрцы, што кожны заслугоўвае прабачэння).

Калі вы з пачатку чытаеце мае калонкі, тады вы ведаеце, што я па-дзіцячы закахалася неяк у настаўніка музычнай школы, які згадзіўся вучыць мяне граць на скрыпцы па-за яго працоўным графікам. Калі коратка, мне падабаліся яго меланхалічныя вочы, якія рваліся распавесці трагічную гісторыю пра каханне і смерць. А аднаго добрага дня аднагрупнік спытаў мяне, чаму настаўнік кульгае. Я была ў шоку — я не заўважала да таго моманту, што ён кульгае. Глядзела неяк заўжды ў вочы... *Mea culpa*.

Нешта са мной да сённяшняга дня не так, безумоўна. Я сапраўды дрэнна бачу непрыг*о*жасць, таму жыву паводле няпоўнай карціны нашага свету і яго нормаў. Не бачу непрыг*о*жасць у недахопах навакольных людзей. Не разумею непрыг*о*жасць кепскіх намераў. Не ўспрымаю непрыг*о*жасць трагічнасці і

безнадзейнасці. А ўсё ж такі я спазнала непрыгожасць, і таму я ў стане пісаць пра яе так, як сёння пішу. Я ведаю пачуццё віны, нікчэмнасці, сораму. Ведаю, значыць, тую легендарную непрыгожасць. Затое бачу яе выразна толькі ў адным месцы: у люстэрку.

## ПАСЛЯ ШАСЦІ

Ёсць такія тэмы, пра якія не магу маўчаць. Яны дзеляцца на дзве катэгорыі: першая складаецца з тэм, у дыскусіях на якія я даўно актыўная. Я ведаю, што трэба за іх змагацца, маю вялікі арсенал аргументаў і (навуковых і свецкіх) спасылак: змаганне супраць дыскрымінацыі і стэрэатыпаў, візуалізацыя і нармалізацыя фізічных і псіхічных хвароб, выкарыстанне беларускай мовы ў Беларусі... Самі разумееце, відавочныя праблемы. У другую катэгорыю ўваходзяць тыя праблемы, пра якія я не ведала да нядаўняга часу. Дакладней, такія сітуацыі: нешта мне падаецца відавочным, жыву сабе спакойна, а раптам чую нешта (хутчэй за ўсё сказана так, быццам гэта праверaная ісціна), што мяне здзіўляе і злуе бязмерна. І бягу пісаць калонку ў «Маладосць». Пра такую сітуацыю і распавяду.

Хоць я інтраверт, у мяне нямала знаёмых, асабліва ў сацсетках. Многія беларусы дадавалі мяне, калі я пачала пісаць па-беларуску (лагічна, так?), і ў мяне з'явілася магчымасць камунікаваць з дужа адрознымі людзьмі, што надзвычай цікава. Аднойчы, не вельмі даўно, я размаўляла са знаёмай жанчынай гадоў 45 (узрост будзе важны пазней, вось убачыце). Гутарылі мы пра музыку. Пра кампазітараў і музыкаў мінулых часоў — XIX стагоддзя. Мякка наракалі, не без пэўнай элітарнасці, прызнаюся, што ў музыцы нешта страцілася з тых часоў. Праўда, не зусім дакладна называлі менавіта тое, што страцілася, але... Страцілася, дайце нам парамантызаваць і ідэалізаваць забытыя эпохі залатых скрыпак і гарманічных галасоў. Цягам натуральнага развіцця размовы, знаёмая спытала, ці ёсць у мяне музычная адукацыя. Калі вы чыталі першыя калонкі, дык вы ведаеце, што я скончыла дзесяцігадовую музычную адукацыю па класе фартэпіяна, што спяваю (і спявала ў хорах), і нават

крышку магу выпендрывацца з гітарай, флейтай і скрыпкай. Яе захапіў мой станоўчы адказ, і не стрымалася: «О, піяніна! Як жа люблю! Шкада, што не ўмею!» Я прапанавала крыху павучыць пры сустрэчы, на што яна мне выдала так прысуд: «*Пасля шасці да інструмента не падысці*».

Гэтыя жудасныя рыфмаваныя словы спасылаліся на аргумент аўтарытэта: знаёмая, цытую, «наслухалася маэстраў і прафесійных музыкаў, што пасля ўзросту шасці гадоў катэгарычна нельга і падыходзіць да інструмента, бо пальцы не тыя, мазгі не тыя, і чалавек, лічы, адной нагой у труне, усё». Уявіце, наколькі здзівілася мая суразмоўца, калі даведалася пра тое, што мне самой было ўжо восем гадоў, калі я пайшла ў музычную школу. Зараз задам пытанне вам, дарагія чытачы: як думаеце, што здарылася, калі я падышла першы раз да раяля на два гады пазней, чым «можна»:

А) Раяль зламаўся, і мае бацькі заплацілі за яго вялікія грошы. Мы год жылі на вуліцы, прасілі грошай ля касцёла.

Б) У мяне рукі адпалі, цяпер нашу пратэзы.

В) Я ніяк не змагла прыстасавацца да інструмента, кінула музыку праз месяц.

Г) Я навучылася граць на піяніна вельмі добра (хаця дрэнна самой так казаць), нават пабывала на дзяржаўных конкурсах, скончыла дзесяцігадовую адукацыю і дагэтуль граю.

Можа, хочаце патэлефанаваць сябру? Відавочна, правільны адказ — варыянт Г. «Так, Анхела, — скажаце, — табе ж усё адно было 8, а не 45». Маецца на ўвазе, дарослым навучыцца нельга, пальцы ж не тыя ўжо, мазгі губляюць эластычнасць, чалавек павольней вучыцца.... Я б магла артыкуляваць прыгожую, аргументаваную рэпліку, але гэта будзе ўжо ў наступным абзацы. У гэтым уздыхну і скажу толькі адно: «ай!»

Ведаеце, што мне найбольш падабаецца ў музыцы? У ёй шмат добрага — калі граеш на канцэртах, можаш пачувацца, як прынцэса ў сукенках. Яна вучыць чалавека дысцыпліне, кантролю сваіх нерваў (асабліва на сцэне), цярплівасці дый праўда развівае мазгі. Музычная адукацыя дае чалавеку веды пра кампазітараў, пра гісторыю, пра тэхнічны бок музычных працэсаў (фізіку і акустыку, напрыклад). Прыемна, безумоў-

на, здзіўляць сяброў віртуознасцю, альбо звярнуць увагу аб'екта кахання на вечарыне рамантычнай мелодыяй... Але гэта толькі бонусы. Найлепшае ў музыцы гэта тое, што яна абсалютна для ўсіх. Гэта інклюзіўнае мастацтва, здольнае прынесці карысць кожнаму чалавеку на планеце. Так, ужо прадбачыла хітраватыя: «А глухія што, а?» А чыталі папярэднія калонкі? Бетховен працягваў пісаць прыўкрасныя сімфоніі нават тады, калі цалкам страціў слых. Яшчэ варта прывесці прыклад творчасці іспанскай спявачкі Разален (Rozalén, пагугліце, яна цудоўная), якая на ўсіх канцэртах паяўляецца з перакладчыцай на мову жэстаў. Пераклад ператвараецца ў своеасаблівую харэаграфію, дзякуючы якой яе глухія прыхільнікі могуць атрымліваць асалоду не толькі ад паэзіі яе тэкстаў (яны выдатныя, я вам скажу), а таксама ад рытму і так званай музычнасці песняў. Можна працягваць развагі пра гэтую тэму пасля прагляду фільма «*Опус містэра Холанда*». Без спойлераў, фільм паказвае 30 гадоў жыцця школьнага настаўніка музыкі, і з'яўляецца амаль дакументальным доказам таго, што музыка сапраўды для ўсіх і кожнага. Чаму? А таму, што яна адкрывае чалавеку новыя магчымасці, цэлы новы спосаб выказвацца, перадаваць любыя пачуцці ці эмоцыі. Мае бацькі ведалі, калі мне было блага толькі ад таго, як і якія творы я грала на піяніна. Аж страшна, ага? Эктрасэнсы. А вось не, гэта проста моц музыкі.

Разам са мной пачаў вучыцца ў музычнай школе чалавек, якому было 78 гадоў. Ён пайшоў у той самы клас, як я ў 8. Шчыра? Так, яму было крыху цяжэй прывыкнуць да тэхнікі, чым нам, але, па-першае, яму было 78 гадоў, а не 45 (калі ўжо даходзім да гэтых аргументаў); па-другое, так, было цяжэй, але навучыўся граць, скончыў чатырохгадовую праграму. Хацелася б, каб вы бачылі шчаслівы твар 82-гадовага дзядулі, які трымаў дыплом музычнай школы!

Цяпер выкажуся наконт таго, што пальцы могуць быць не тыя. У мяне простае пытанне: а ў каго тыя? Вось скажыце мне. Усе піяністы наракаюць на рукі: то нязграбныя, то занадта маленькія, то сілы не хапае. А насамрэч, тэхніка тэхнікай, а граем дысцыплінай (пасля мільённай рэпетыцыі, абяцаю,

атрымаецца) і... Сэрцам. Бо музыка гэта гукавая прыгажосць. У падлеткавыя і дарослыя ўжо гады ў мяне быў і вопыт рэпетытаркі, я вучыла іншых музыцы, і сальфеджыя, і проста граць. А быў у мяне вучань з ДЦП, у якога пальцы былі «не тыя» нават паводле свецкіх (чытайце, «немузычных») стандартаў. Мяркую, вы ўяўляеце, пра што я. А яму раілі граць на піяніна ў якасці тэрапіі — піяніна стала памочнікам у праблемах з дробнай маторыкай, каардынацыяй, раўнавагай... А як думаеце? Хлопчыку стала лепш, і музыка была прыемнай вуху. І гэта ў майго вучня былі рукі. Кітайскі піяніст Лю Вэй, які стаў пераможцам шоў *China's Got Talent* у 2010 годзе грае... нагамі. Сур'ёзна, пашукайце на Ютубе! Усё залежыць ад жадання і ўстойлівасці чалавека.

Таму я вас прашу, калі ласка: не дазваляйце нікому знішчыць вашыя мары! Вам падабаецца піяніна? Вучыцеся граць. Нягледзячы ні на ўзрост, ні на абставіны... Ні на што. Можа, вы не станеце сучасным Моцартам, але атрымаеце вялікую асалоду ад музыкі. А можа і станеце. Ніколі не будзеце ведаць, пакуль не паспрабуйце.

## ВЯРТАННЕ

У мяне было некалькі розных думак на новую калонку. Так склалася гістарычна (ха!), што апошнімі месяцамі я пісала на даволі сур'ёзныя і важныя для мяне тэмы. У мяне, натуральна, яшчэ ёсць што сказаць у гэтых накірунках, але... Гэтым разам я вас і сябе (і свае нервы) пашкадую і напішу лягчэйшы, прыемнейшы тэкст: кароткую справаздачу свайго першага акадэмічнага года ў Мадрыдзе, куды я пераехала ў аспірантуру.

Я дала калонцы назву «Вяртанне», аднак ёсць даволі вялікае «але»: я ніколі не жыла стала ў Мадрыдзе да лістапада 2017 года. Так, я тут бывала ў амбасадах, на музычных конкурсах і праездам, на тое-сёе паглядзела вачыма правінцыйнай турысткі, толькі даўжэй, чым на пару дзён, сюды раней не прыязджала ніколі. З іншага боку, так, гэта мая радзіма (прынамсі афіцыйна), у мяне іспанскі пашпарт, а я тут мясцовая. Ну, хай і не сталічная, смяюцца з майго акцэнта, але відавочна, што я

з гэтай краіны. У Варшаве, дзе я жыла два гады да Мадрыда, мяне ніхто і не прымаў за польку асабліва (глядзіце на мой здымак, падумайце, чаму), хаця я няблага валодаю польскай мовай. Часта чула на свой адрас: «Напэўна, мама полька, ці ты тут даўно?», але ніхто ніколі не думаў, што я з Жэлязовай Волі, як мой улюбёны Шапэн. Дый не трэба было. Шчыра кажучы, крышку пачынала перашкаджаць ужо тое, што чапляліся да мяне падчас кантроляў у метро ды на межах (з Беларуссю, канечне) і да т. п., але тое ўжо іншая гісторыя, якая засталася пакуль у мінулым.

Так, Іспанія, Мадрыд, як тут жывецца? Варшаўскія лекары часта казалі мне, як Рыгор Барадулін, светлая яму памяць: «Трэба дома бываць часцей». І мелі рацыю. Не скажу, што ў Мадрыдзе чыстае паветра, не, але я дужа часта бываю дома-дома, гэта значыць у Малазе, дзе марскі брыз лашчыць дзявочыя валасы, а сонца цалуе пяткі. Я нават не перабольшваю, дыхаць стала фізічна лягчэй. Маральна... Ай, а не зусім. Найбольшая перавага, безумоўна, у тым, што цяпер бачу бабулю рэгулярна, а ёй 87 гадоў. І пляменніцу, і брата, і бацькоў. Але не ўсё так адназначна. Зараз патлумачу. Паступіла я ва Універсітэт Камплутэнсэ. Некаторыя кажуць, гэта самы прэстыжны ў краіне, і я згодная, паводле таго, што я бачыла, што гэта добры ўнівер. Спецыяльнасцяў нямала, атмасфера вельмі акадэмічная, а кіраўнік — надзвычай прафесійны. Ён нават вывучае цяпер беларускую мову, каб мець магчымасць чытаць літаратуру да маёй дысертацыі!

Шмат за што я моцна ўдзячная. Па-першае, мяне, левага чалавека, узялі сюды (звычайна аддаюць перавагу тым, хто скончыў тут магістратуру) і дазволілі заняцца даследаваннем тэмы, пра якую ніхто тут, у прынцыпе, нічога не ведае, каб я стала першай доктаркай краіны ў галіне. Уяўляеце, якая гэта рызыка? Прыязджае левы чалавек з варшаўскім дыпломам беларускага філолага. Так, адзнакі добрыя, але, хто ведае, які там узровень патрабавальнасці да студэнтаў? Хочаш не хочаш, а малая кафедра, малавядомая спецыяльнасць... А ці нармальны я філолаг? Ці тэма мая насамрэч навукова рэлевантная? А рызыкнулі і ўзялі. Тут ёсць яшчэ студэнты і прафесары ін-

шых не-зусім-папулярных-у-Іспаніі моў і літаратур: паланісты, славеністы, балгарысты. Мяне нават нядаўна запрашалі на канферэнцыю ў гонар балгарскага паэта Хрыста Боцева, на якой я выступіла з дакладам пра яго пераклады на беларускую мову. Яшчэ была на міжнародным кангрэсе, гаварыла пра Міхася Стральцова. Уяўляеце такое? Прынялі, як сваю, хоць часам цяжка быць адзінай даследчыцай у галіне белліту на ўвесь універсітэт.

Адзінай даследчыцай, адзінай энтузіясткай Беларусі? Ну, так, у Мадрыдзе ёсць невялікая беларуская дыяспара, не надта актыўная сама па сабе, а хутчэй разам з іншымі рускамоўнымі эмігрантамі. І ведаю яшчэ аднаго іспанца, які з'яўляецца фанатам беларускай мовы. Мовы нашай беларускай не пакідаю, як раіў Францішак Багушэвіч, і яму светлая памяць. Знайшла з кім раз-пораз пагаварыць (хаця, скажу вам шчыра, гэта адбываецца часцей за ўсё праз тэлефон, з тамтэйшымі сябрамі), схадзіла на беларускамоўную экскурсію па гістарычным Мадрыдзе, правяла парачку творчых сустрэч, дзе чытала вершы, а людзі чамусьці нават слухалі. І ў лістападзе была ў Беларусі! Але ну... Не магу не пісаць пра пачуццё касмічнай самоты, пра сум і раздражненне.

Я інтраверт. Прыехала ў Мадрыд, дзе ведала толькі брата і адну сяброўку з музычнай школы. Брат вучыцца на факультэце фізікі-матэматыкі, двайная спецыяльнасць, адказны хлопец. Я яго амаль не бачу. Сяброўку бачу таксама зрэдку, бо яна шмат працуе (і дзякуй грэцкаму пантэону, што ёсць сталая праца), а значыць, у пачатку было надзвычай цяжка. Я жыву ва ўніверсітэцкім інтэрнаце. Мне 25 гадоў, а суседзям па 18-20. Нібыта і невялікая розніца, але адчуваецца. Усе пэўны час мной цікавіліся, бо я ж «пані доктар» (насамрэч, яшчэ не, а для іх, лічы, доктар), і, цягам некалькі месяцаў, кожны дзень паўтаралася такая размова. Не кожны чытач зразумее іспанскую мову, дык гэтыя народныя апавяданні, якія «пачуў я з вуснаў люду», вырашыла (наколькі змагу) у даслоўным перакладзе напісаць па-беларуску*:

— О, ты гэта, доктарка, так?

* +10 балаў, калі зразумееце, адкуль цытата.

— Ну аспірантка. Але так, я.

— Круць! А па чым ты пішаш дысертацыю? Нагадай?

— Параўнальная праца... Ну па беларускай літаратуры.

— А-а! Руская літаратура! Прывет! Я чытаў пра Дастаеўскага.

— БЕЛАруская літаратура...

Падумаеце, дробязь, а пасля тысячнага разу непрыемна! Самотна. Кепска будзе. Ніхто міня не паніміаіць! Ай. Ну горш было, калі аднагрупнік, а значыцца, аспірант па літаратурнай тэорыі, 30 хвілінаў пераконваў мяне, што беларускай літаратуры не існуе, а гэта «частка расійскай літаратуры». Гэта пры тым, што ён піша дысер пра нейкую групу рускіх паэтаў 20-х гадоў мінулага стагоддзя... Без ніякіх ведаў рускай мовы. Плануе вывучаць мову паралельна, як пісаць будзе. Пажадаем поспехаў!

Дык значыць, самотна. А як інакш, калі пераехала ў вялікі горад без нікога? Дый на такую спецыяльнасць паступіла. Гэта тыповы прыклад СДВ, не? А ведаеце, што я зрабіла? Запісалася ў старонку на сетцы, дзе арганізоўваюцца гурткі па інтарэсах. Так знайшла маленькую кнігарню, дзе праводзяцца розныя культурныя мерапрыемствы, і ў якой была мая першая творчая прэзентацыя па-іспанску (!) пару месяцаў таму. Знайшла літаратурную майстэрню даволі вядомага мясцовага навеліста, з якім ссябраваліся хутка, ды ён потым запрасіў у закрыты клуб мадрыдскай інтэлігенцыі, дзе я праводзіла дыскусіі на свае ўлюбёныя тэмы: пра Беларусь, пра музыку, пра літаратуру... Хутка і пра Максіма Багдановіча, і мае пераклады, будзе выступ (яму таксама светлая памяць, мне, як бачыце, не шкада). Пачала хадзіць на рэпетыцыі паўпрафесійнага хору, які спявае на вяселлях і пахаваннях (калі вам цікава, я сапрана і яшчэ не была на пахаванні).

Год быў розным. І добрым, і дрэнным. Не магу сказаць на сто адсоткаў, што добрае пераважала, бо для мяне было вельмі цяжка пераехаць у Мадрыд, але гэта, безумоўна, каштоўны досвед. Цяпер рыхтуюся да канферэнцыі, якая адбудзецца ў Варшаве, думаю пра сваю Беларусь, такую блізкую і далёкую, і ўсміхаюся.

## ЛІСТ АДНАГО ЛЬВА ДРУГОМУ

На сустрэчы асацыяцыі мадрыдскай інтэлігенцыі, у якую мяне нейкім цудам прынялі, ходзіць спадар з аргенцінскай Кордабы, які жыве цяпер у ваколіцах іспанскай сталіцы. Як усе ў нашай кампаніі, ён адукаваны (журналіст, калі цікава), прагне ведаў і мае арыгінальныя моманты ў сваёй біяграфіі. Гэты чалавек даволі добра спявае, яшчэ лепш грае на гітары і нават збіраўся запісаць плытку ў Буэнас-Айрэсе перад тым, як пакінуў Амерыку і пераехаў у старую Еўропу.

Аднойчы наш журналіст-спявак вырашыў арганізаваць вечар аргенцінскай спяванай паэзіі: падвучыў дзясятак песень і гісторыю іх стварэння, прывёз сваю гітару ў кавярню, дзе мы сустракаемся, і мы атрымалі кароткі канцэрт у яго выкананні. Трэба сказаць, што я ведала добрую палову гэтых песень, бо мой бацька — вялікі аматар спяванай паэзіі, і я прывыкла слухаць такую музыку з усіх гішпанамоўных краін з маленства. Затое, дзякуючы нашаму аргенцінскаму сябру, я ўзгадала адну з самых моцных песень, відаць, усяго дваццатага стагоддзя. Яе аўтарка, Марыя Элена Уолш, напісала яе ў дужа складаную эпоху ў гісторыі Аргенціны, калі было цяжка пісаць, адчуваць і жыць, захоўваючы чалавечнасць, гуманнасць. Ёй, нягледзячы ні на што, гэта ўдалося. Песня называецца «Carta de un leyn a otro», або, па-нашаму, «Ліст аднаго льва другому». Твор гэты — адзін з самых удалых у кар'еры паэткі, і сёння вырашыла пісаць крыху пра яго, і таму, што ён універсальны, пра нас.

Песня даволі простая, структураваная ў эпісталярнай форме. Адзін леў, які жыве ў заапарку, піша ліст свайму брату — працаўніку вандроўнага цырка. Напэўна, у вас узнікла ўжо асацыяцыя з Кракадзілам Генам, які працуе кракадзілам і шукае сабе сяброў? А мне кожны раз цяжка стрымліваць слёзы, калі яе чую. Мабыць таму, што я старэю, пачынаю разумець, наколькі песня дагэтуль актуальная, дый не толькі для мяне, а для ўсіх, хто жыве ў кантэксце чалавечага грамадства, хаця я вельмі хацела б памыліцца. Брат з заапарка выбачаецца за тое, што даўно не пісаў, тлумачыць, маўляў, не хочацца: ці то ежа, ці то жыццё за кратамі цісне. Зайздросціць брату, што

вандруе па ўсім свеце, хаця і той наракаў на стаўленне ўтаймавальніка да яго і іншых звяроў, на доўгія гадзіны працы. Леў нават просіць брата разумець утаймавальніка, бо *некаторыя чалавечыя істоты адчуваюць сябе важнымі толькі за крэслам і пугай*. У кожнага свае праблемы, што вельмі па-чалавечы, але галоўнае, якраз, не ў гэтым.

Наймацнейшая частка тэксту, на мой густ, пачынаецца тады, калі леў з заапарка дзеліцца сваімі ўражаннямі пра наведвальнікаў. Пра людзей. Леў распавядае брату пра тое, што апошнім часам твары іншыя, менш светлыя, менш жывыя. *Як быццам гэта яны сядзяць у клетцы*. Леў падазрае, што за сценамі заапарка ў людзей безліч розных праблем. Натуральна, мае рацыю. Не магу выгнаць з галавы думку, што мае рацыю.

Адзінае... Думаецца, ці гэта толькі апошнім часам? Ці гэта толькі ў адным з аргенцінскіх заапаркаў 70-х гадоў было бачна? А мне здаецца, што не. Леў з братам (лірычны герой з ягоным адрасатам), а разам з імі аўтарка назіраюць, аналізуюць і расчароўваюцца. Непрыемна прызнацца, але я таксама. Выходжу на вуліцу, гляджу на чалавечыя твары і бачу паўмёртвых істот, якіх з'ядаюць з сярэдзіны ўласныя перажыванні. Нават у Іспаніі, краіне шырокіх усмешак, заўважаю замарожаныя ухмылкі, рыбіны вочы, якія губляюць усю эмпатыю, пакідаюць любую надзею, як ля дзвярэй да пекла паводле Дантэ. Бачу пахаваныя дзіцячыя мары, цынізм, страх і нянавісць. Не люблю сябе, калі пачынаю гэта адчуваць унутры, хай і па чыстай фізічнай сімпатыі да навакольнага асяроддзя. У Беларусі, як і ў Польшчы, і ў іншых краінах Еўропы, Амерыкі, Азіі, дзе я бывала альбо маю сяброў, сітуацыя падобная. Бачу вельмі дакладнае разуменне паняцця «чужой праблемы». Бачу ў дзеяннях людзей практыкаванне народных прымавак, *мая хата з краю, нічога не знаю* (альбо, калі хочаце, іспанскага эквіваленту: *я музыка: іду спаць а восьмай гадзіне*). Бачу агульнае бяскрылле.

Ведаеце, што самае жудаснае? Я пачала заўважаць у нашых гарадах і вёсках, у краіне і за мяжой, паўмёртвых грамадзян, якія толькі адчуваюць сябе ўпэўнена ў пазіцыі адноснай улады.

Менавіта так, як утаймавальнікі перад ільвамі. Гэта мінакі, якія не стараюцца разумецца з замежным турыстам. Гэта кліенты, якія звяртаюцца да афіцыянтаў з пагардай. Гэта студэнты, якія не дзеляцца канспектамі з хворым аднакурснікам. Гэта карыстальнікі сацыяльных сетак, якія кідаюцца на іншых за памылкі ў беларускамоўных публікацыях. Гэта расчараваныя каханнем, якія гуляюць з пачуццямі закаханых у іх. Гэта мужы, якія, вяртаючыся з працы, п'юць і б'юць жонак. Гэта бацькі, якія пераконваюць дзяцей, што яны нічога не вартыя. Гэта расісты і іншыя дыскрымінатары, якія карыстаюцца прывілеяванай пазіцыяй. Самі камплексуюць, самі пачуваюцца бы ў клетцы і выкарыстоўваюць тую ўладу, якая ёсць, над кім заўгодна, калі толькі можна. Гэта падобна да хваробы. Мая бабуля заўжды кажа, *калі хочаш даведацца, што за чалавек — дай яму трохі ўлады*. Сумна аналізаваць, якія характары праяўляюцца ў пэўных сітуацыях, аднак.

Быў нядаўна непрыемны выпадак у Беларусі, найбольш балючы для мяне за апошнія месяцы. Мяркую, і вы пра яго памятаеце: жыў хлопец Андрэй, інвалід-вазочнік, у Магілёве. Малады, здаецца, яму 26. Дарэчы, сімпатычны. Ну і сядзеў у кватэры, бо яму быў патрэбны электрычны пад'ёмнік у доме. Было патрэбнае станоўчае галасаванне суседзяў. У прынцыпе, гэта фармальнасць, але... 106 кватэр выказаліся супраць, адна стрымалася...

Калі вы падобныя да мяне (калі так, спачуваю, бо я часцей за ўсё пачуваюся ў гэтым свеце, як іншапланецянка), то вы, напэўна, не разумееце, чаму суседзі былі супраць патрэбнага хлопцу пад'ёмніка. Я сачыла за навінамі, казалі самае рознае: «небяспечна», «будзе гучна», «будзе перашкаджаць, нязручна». Я чытала гэтыя адмазкі і плакала: Як? Як? ЯК?! А так. Я пыталася сяброў і знаёмых: «А вы гэта разумееце?» Таксама атрымлівала розныя адказы. Была версія пра тое, што людзі баяцца зменаў, не хочуць бачыць нешта новае ў сябе. Была і цікавая тэорыя пра тое, што людзі не хочуць памятаць аб тым, што інваліды існуюць, і таму не хочуць бачыць ні пад'ёмніка ў доме, ні хлопца на вуліцы. Трэба сказаць, я ўспрыняла гэтую тэорыю, як сапраўдны халодны нож у сэрца, але гучыць

лагічна. Лагічна такой хворай, псіхапатычнай, асацыяльнай логікай, але лагічна. Паводле маёй асабістай логікі, напрыклад, я помню, што інваліды існуюць і што любы чалавек можа захварэць, пастарэць, усё бывае. І хачу ведаць і памятаць, што ў такім выпадку, калі гэта здарыцца са мной, мой дом адаптаваны, мой горад зручны, і я змагу працягваць жыць паўнавартасным жыццём. І жадаю, каб усе мелі такі шанец.

Не люблю думаць негатыўна, але мушу прызнацца, што апошнім часам я не ў вялікім захапленні ад свету, ад людзей і ад самой сябе. Слухайце, я думаю, што ёсць і такі фактар: была **магчымасць** адмовіць хлопцу ў пад'ёмніку, і скарысталіся ёю. Адчулі сябе, можа, падсвядома, лепшымі за вазочніка. Яны выходзілі без цяжкасцяў на вуліцу, а гэты хлопец — не. І яму была патрэбная дапамога, ён папрасіў, і разам з просьбай паявілася і магчымасць адмовіць.

Прабачце, але ў мяне няма пазітыўных рэфлексій на заканчэнне, мне трэба адысці і падумаць. Ёсць просьба: калі ёсць духоўныя сілы, будзьце больш падобнымі да львоў, чым да ўтаймавальнікаў, калі ласка. Будзьце Людзьмі.

## УЦЁКІ АД РЭЧАІСНАСЦІ

Бывае, мяне пытаюць, як я стала беларускай літаратаркай. Не тое, каб штодня, але раз на тыдзень — пэўна. Паўтарэнні, вядома, манатонныя і крыху стамляюць. Затое мушу прызнацца ў тым, што гэта цалкам лагічнае пытанне, калі ўлічыць, што я нарадзілася ў аднамоўнай сям'і. У Іспаніі. А беларускую мову пачала вывучаць у дваццацігадовым узросце.

На пытанне «чаму/як ты стала беларускай літаратаркай?» я адказваю па-рознаму. Мой улюбёны варыянт апелюе да таго, што бацькі выхавалі мяне з верай, што я магу стаць, кім захачу, калі буду дарослай — а я вось стала беларускай літаратаркай. Адзінная праблема з гэтым адказам у тым, што суразмоўцы патрабуюць пасля яго «сур'ёзны» адказ, і гэта значна ўскладняе дыялог.

У любым выпадку, усе мае адказы на гэтае пытанне тлумачаць толькі адзін бок праблемы: «чаму па-беларуску», і пакі-

даюць у маўчанні і забыцці другі бок справы: «чаму пішаш». Дзеля справядлівасці я павінная сказаць, што цяжка спытаць: «чаму ты пішаш?» чалавека, які нарадзіўся ў Іспаніі, а піша па-беларуску, асабліва пры сацыялінгвістычных умовах сучаснай Беларусі. Шмат хто піша. Казаў Платон, «пад уплывам любові кожны робіцца паэтам». Платон казаў па-старагрэцку, як у людзей. А ў маім выпадку чытачоў хвалюе, чаму выбрала беларускую мову.

Можа, расчарую вас, але мы сёння паразмаўляем пра тое, чаму я пішу. Нават болей — чаму літаратура такая важная для мяне. Чаму я пішу па-беларуску вы ведаеце, калі чыталі папярэднія калонкі. Калі не чыталі... Ну, кхм-кхм... Ай. Асцярожна, могуць быць спойлеры ад наступнага абзаца.

Я пра гэта пісала і раней, але я дзівачка. Асабіста не знаёмая з кожным чытачом, і не знаю, якія вы. А я заўжды была адрознай (падазраю, вы трохі таксама. У такім выпадку, і віншую, і спачуваю). Людзі, якія мяне любяць, скажуць, што я «асаблівая». Тыя, хто недалюблівае, аддадуць перавагу слову «фрык». У любым выпадку, у мяне з дужа ранняга ўзросту склалася ўражанне, што я чужая. Як у Вольскага: «і тут ты чужы, і там ты чужы». Я жадала кантакту з людзьмі, сяброўства, любові, але адчувала нябачную, цвёрдую сцяну паміж мной і іншымі. Было адчуванне, што я не належу да гэтай сям'і. Навучылася чытаць таксама ў маленстве (не было трох поўных гадоў), і кнігі дапамагалі адцягваць думкі пра іншасць, якой я тады моцна баялася. Літаратура нараджала ў маёй галаве фантазію, а фантазія нарадзіла ілюзіі, што калісьці «прыедуць свае» і забяруць «дадому». На сваю планету. Такою была мая першая фікцыя.

Кнігі — найлепшыя сябры самотных дзівакоў. Максім Багдановіч напісаў геніяльны радок: «Я не самотны, я кнігу маю». Я задумалася і вырашыла, што самота — больш складанае пачуццё, чым уласная іншасць. Самоту я адчула ўпершыню ў далёкім 1998 годзе, калі мне было 5 гадоў, проста перад нараджэннем майго малодшага брата (і, магчыма, найбліжэйшага сябра). Зараз будзе пра самоту. Можаце прапусціць, калі не любіце дэпрэсіўныя аповеды, хаця тады не зусім разумею,

як чытаеце мае калонкі ўвогуле, бо суму ў іх нямала. Можа, і пераважае.

Побач з маёй роднай Малагай ёсць шыкоўны заапарк. Канкрэтна — у Фуэнхіролі. Яго наведваюць з задавальненнем і аматары жывёлаў, і экалагісты: біяпарк займае агромністую прастору, дзе жывёлы пачуваюцца амаль, як дома. Тым больш, парк супрацоўнічае з Еўрапейскай Асацыяцыяй Заапаркаў і Акварыумаў, праводзіць праекты дзеля ратавання жывёл. Гэта так цяпер, але толькі ад пачатку рамонтаў 1999 года. Да 1998 быў старамодны заапарк з малымі клеткамі і меланхалічнымі істоткамі ў іх.

Мая школа арганізавала паездку ў заапарк Фуэнхіролі. Нам было па пяць гадоў, і ўсе з нецярпеннем чакалі, калі ўбачым ужо жывёлак, якія так падабаюцца кожнаму дзіцяці. Помню голас ільва, моцны, як гром; рост жырафаў, спрытнасць малпаў. Затое наймацнейшы след у маёй памяці пакінула адна самотная птушка. Ведаеце, што такое кітаглаў? Яна была вельмі падобная да яго (доўгія ногі, вялізарная дзюба, шэры колер), але нам патлумачылі, што тая птушка — апошняя на свеце. Ёй доўга шукаюць партнёра, але не могуць знайсці, і яе від, хутчэй за ўсё, скончыцца разам з ёй. Яна стаяла (мне здавалася тады неверагодна высокай, 140 см) у адзіноце, у мінімальнай клетачцы, глядзела ўніз з турботным позіркам... Птушкі гэтыя выглядаюць смешна, трэба прызнацца, але яе знешнасць дадала трагічнага пафасу цэлай карціне. А іншыя дзеці гучна смяяліся. У той халаднаваты дзень лютага 1998 года, я ўпершыню падумала: «Я адна». Я была адна, як птушка. Самотная, як апошняя асоба ў відзе. Моўчкі дала птушцы сваё слова: «Я цябе не забуду, і ты больш ніколі не будзеш зусім адной».

Прайшло 20 гадоў. Цягам гэтага часу, мне дапамагалі музыка і фікцыя. Піяніна, безумоўна, самотны інструмент, але і яно дае магчымасць граць разам з іншымі раз-пораз і аблягчае пачуццё адзіноты. Фікцыя ж (кіно, літаратура, гульні, серыялы...) дапамагаюць тады, калі цэлы рэальны свет здаецца невыносным. Цяжка інтравертам у Іспаніі, і такое здараецца. Ці мелі вы калі-небудзь адчуванне, што ўсе вашыя размовы —

штучныя? Што размаўляеце паводле сацыяльна прынятых сцэнарыяў, і з таямнічым страхам, што нехта гэта заўважыць? Я папярэдзіла, што я дзівачка ды крыху вар'ятка. У мяне было, і яшчэ бывае. Лягчэй стала, калі зразумела, што кніга не заўважыць хібы маіх сацыяльных здольнасцяў і не асудзіць за іх. Не заўважыць, што я дзіўная. І не пакіне адну.

А кнігі, ведаеце, ёсць дыялогамі. Так, я разумею, экстраверты кажуць, што гэта «не тое». Але літаратурныя тэксты — гэта размовы цераз час і прастору. Аўтар перадае словы чытачам усіх эпох і краін (з добрым перакладчыкам), і кожны чытач бярэ з кнігі тое, што ў той момант патрэбна, інтэрпрэтуе так, як жыццё яму дазваляе. І гэта сапраўдны цуд. Адну кнігу можна перачытваць штогод і знаходзіць у ёй нешта новае кожны раз. Не толькі таму, што наша тэарэтычнае разуменне паляпшаецца, а яшчэ таму, што ўнутры нас з'яўляюцца з часам новыя пачуцці, адчуванні, новы вопыт, новы боль і новая прыгажосць. Развіццё чалавека ўплывае на яго размовы з улюбёнымі аўтарамі, і аўтары ўплываюць на далейшае развіццё чытачоў. Скажыце, ці ёсць у вас такая кніга, якую вы любіце перачытваць у складаныя моманты? Для мяне гэта «Маленькі прынц».

Вяртаемся да першага пытання — чаму я пішу? А я зразумела, што пісьмовыя творы даюць магчымасць абдумваць кожнае слова, дбаць пра дакладнасць, пра эстэтыку, пра праўдзівасць эмоцый. Напісаныя радкі прымаюць аўтара такім, як ёсць; ім можна аддаваць усе пачуцці, усе перажыванні, усе наватарскія думкі і старыя стэрэатыпы. І аўтар можа іх вынесці на свет тады, калі гатовы да размовы. Калі гатовы дапамагчы дзіўнаму чытачу ўцячы на некалькі гадзін ад рэчаіснасці.

## АДСУТНАСЦЬ МУЗЫ

Гэта не калонка, а просьба аб дапамозе.

Дарагія сябры, ці ведаеце вы такое адчуванне, як страх пустога аркуша? Тое самае, калі абавязкова трэба напісаць артыкул, апавяданне, справаздачу, альбо хоць верш каханаму чалавеку, а вас дражніць высакамерная бледнасць цнатлівай паперы. Ну, альбо новы, непачаты «Дакумент1» у тэкставым рэдактары. І пачынаеце адкладваць задачу, абдумваць тэмы, і ў галаве нібыта думкі добрыя, але, як толькі сядаеце за працоўным сталом, — аказваецца, што гэтыя ідэі немагчыма звязаць паміж сабой, альбо яны цалкам ператвараюцца ў сюррэалістычнае, вар'яцкае трызненне. Вось, ці было ў вас такое?

У мяне, не падумайце, рэдка гэтак бывае! Дужа рэдка! Не, нічога, што я так дакладна і трапна апісала праблему. Гэта, канечне, чужы вопыт. І крэатыўны талент. Ну добра, не, бывае ды й нават часта. Выбачайце, не хацела вас падмануць (хаця, здаецца, вы і не паверылі б, вы ж мяне ведаеце). Але гэтым разам... Адчуванне іншае. Безвыходнае, безнадзейнае, бязлітаснае. Чаму? А падзялюся з вамі таямніцай. Разам са мною жыве ліліпуцкая муза. Яна не дармаед, а плоціць пару еўра за жытло. Не болей, бо яна мала месца займае, і ёй даволі цяжка цягаць манеткі да мяне. Харчуецца друкаванымі тэкстамі і спіць у мяне пад падушкай. Так, гэта яе віна, што я раз-пораз прачынаюся ў сярэдзіне ночы і не магу заснуць зноў, пакуль не дапішу чарговы радочак. Не дае. Мая муза, як бачыце з маіх тэкстаў, не самая таленавітая, але працуе з вялікім энтузіязмам. І яна беларускамоўная, што заўжды плюс, калі хочаш арыентавацца на беларускіх чытачоў. Ай, добра, не заўжды, але амаль заўжды. Прынамсі, для мяне. Таму мы з маленькай музай жывём у сімбіёзе, разумеемся добра, амаль не спрачаемся.

Дык чаму я звяртаюся да вас па дапамогу... Муза знікла нядаўна. Тыдзень яе няма. Бах — і няма, можна падумаць, паднялася да неба, як залаты дым, і стала ледзь заўважнай хмурынкай над маёй галавой. Але мне не верыцца, шчыра не верыцца, што яна проста сышла. Яна б развіталася са мною.

Мая муза мае двайны пашпарт: адзін — з адной з краін Еўразвяза. Другі — беларускі. Гэта дужа зручна, бо яна ляціць пастаянна ў Беларусь, збірае інфармацыю пра людзей, пра пейзажы, пра зуброў і пра лес, пра шырокія вуліцы Мінска і пра ўтульныя беларускія вёскі. Потым вяртаецца сюды першым самалётам (так, у яе ёсць крылы, але ёй далёка лятаць туды і назад), распавядае мне пра ўсё, што бачыла, апісвае ўражанні, адчуванні і эмоцыі, а я, у сваю чаргу, пішу. Я працую на ноўтбуку, а яна даядае залішнія літаркі, памылкі друку і метафары, якія мы лічым занадта дзіўнымі ў працэсе стварэння. У выніку мне ёсць што дасылаць штомесяц у «Маладосць», а яна застаецца сытай і задаволенай. Але, сябры, я зноў выбіваюся з тэмы...

Я ўсё гэта вам распавядаю, бо ў мяне ёсць падазрэнне, што мая муза магла знікнуць менавіта ў Беларусі. Я яе ўжо шукала ў цэнтры Малагі, на сцэне рымскага тэатра, на вежах арабскага замка, на рыбацкім рынку горада і ў батанічным садзе. Шукала (а то раптам шукае візуальныя падказкі) ў родным доме Пабла Пікаса і, натуральна, хаджу штодня ў тое месца, дзе ёй падабаецца сядзець, калі сумна — на праменад каля пляжа. Там я яе чакаю, сяджу, гляджу на лінію, якая падзяляе неба і мора, уваходжу ў рытм пяшчотных, салёных хваляў. Але муза не прылятае, не вяртаецца. Я папыталася ў людзей, хоць я інтраверт, і мне цяжка звяртацца да незнаёмых на вуліцы, затое абсалютна тэрмінова музу знайсці. Ніхто яе, маўляў, не бачыў. Некаторыя глядзяць на мяне, як на вар'ятку. «Музы», кажуць, «феі, і іншыя магічныя істоты існуюць толькі ў казках. Магія — не рэальная з'ява, а вынік фантазіі пісьменнікаў і наіўных людзей». Мяне пытаюць, колькі мне гадоў, і аднойчы ледзь не патэлефанавалі па медыцынскую дапамогу.

Дарагія сябры! Я ведаю, што вы іншыя. Вы верыце мне, такім самым чынам, як я веру вам. І ведаю, што вы сутыкаліся з магіяй штодзённых цудаў, вялікіх і маленькіх. Вы — мая апошняя надзея ў гэтай жудаснай сітуацыі. Раз маёй музы няма ў Малазе, дык павінна быць недзе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Няважна, ці чытаеце вы часопіс у сталіцы, ці ў адносна вялікім горадзе, ці ў вёсцы, ці ў аграгарадку. Можа, вы

з’ехалі ў лес, таму што захацелі жыць па-сапраўднаму і не памерці, падумаўшы, што не жылі. Так здараецца. Няважна. Бо я не ведаю, дзе знаходзіцца цяпер мая муза. Дапамажыце, будзьце ўважлівымі, а то раптам убачыце побач. Зараз паспрабую яе апісаць як мага дакладней.

Мая муза вельмі малая, ростам 2 (два) сантыметры, прыкладна. У яе кароткія срэбныя валасы, залатыя вочы і ружовая скура, мяккая і прыемная, як персік. Крылы каляровыя, як у самых прыгожых матылькоў. Іх адценні зялёнага і блакітнага злёгку змяняюцца са святлом. У Беларусі яны крыху цямнейшыя, чым у Іспаніі, лагічна. Самая галоўная асаблівасць маёй музы — у яе мілагучны, пявучы голас, але яна заўжды кажа ўсё, што думае. Гэта стварае пэўныя побытавыя праблемы і падчас крэатыўнага пісання, і падчас камунікацыі з іншымі людзьмі і магічнымі істотамі. Дужа баюся, што яна магла пакрыўдзіць няўзнак не таго чалавека і што ёй зрабілі балюча. У яе моцны характар, нашмат мацнейшы, чым у мяне самой, і яна нікога не пакідае абыякавым. Такія істоты выклікаюць і станоўчую, і адмоўную ўвагу. Шмат хто ёй захапляецца, але і ворагаў хапае, так што не здзіўлюся, калі яна насамрэч сказала нешта не тое і нарабіла сабе залішніх праблем.

Мяркую, вы цяпер лепш разумееце, чаму мяне хвалюе гэты доўгі тыдзень радыёмаўчання. Яна не такая. Яна піша, тэлефануе ці хоць праз кагосьці перадае мне дакладна, што думае. Хай і гэта дзеля таго, каб мяне крытыкаваць, калі ёй не даспадобы тое, што пішу. Сябры, яна вельмі маленькая, фізічна слабенькая, і я за яе сапраўды моцна хвалююся. Я веру, што мы разам яе знойдзем. Калі ўбачыце яе — дайце знак адразу. Калі апынулася ў бядзе, перадавайце ёй пры магчымасці пару красамоўных кніг. Яна любіць паесці салодкае, калі хварэе. Паразмаўляйце з ёй: яна можа падтрымліваць размову фактычна на любую тэму. Не давайце адчуваць сябе такой самотнай, як я сябе цяпер адчуваю.

Дзякуй вам за ўвагу, мае чытачы, і загадзя за дапамогу. Няма сілаў пісаць больш (асабліва без сваёй музы побач), так што зайду яшчэ на пляж. Можа быць, да вечара прыляціць назад да мяне.

## АПОШНІ ПЕРЫПАТЭТЫК

Дарагія сябры, у мяне сёння два пытанні да вас: 1. Ці вы таксама лепш думаеце ходзячы? і 2. Якія ў вас асацыяцыі з Азіяй? Пра першае пытанне я распавяду крыху пазней, дзеля звычайнага непарадку маіх тэкстаў (не сёння ж пачну знішчаць традыцыю). Наконт другога... Калі задаць гэтае пытанне іспанцам, яны (эм, мы?) хутчэй за ўсё адкажуць пра Японію, тэхналогію, робатаў і анімэ. Будзе, натуральна, нешта пра Кітай. І яшчэ нейкі адзін чалавек раскажа, як «з’ездзіў у Таіланд, каб знайсці сябе». Стаўце мне падабайку, калі маеце такога сябра. Шчыра кажучы, я не ведаю дакладна, як карціна выглядае ў Беларусі. Кітайскую мову, ведаю, людзі апантана вывучаюць: я гэта заўважыла ў мінскім аэрапорце, калі паглядзела ўверх, а ўся інфармацыя пра рэйсы была напісаная на ёй. Так, я спалохалася, што «Мадрыд» мне там не вычытаць. Японія, я думаю, мае фанатаў амаль у кожнай краіне нашай старой Еўропы, і, што вельмі няблага, асабіста ведаю людзей, якія распаўсюджваюць культуру і літаратуру Індыі (дазвольце мне перадаць прывітанне геніяльным Міхасю Баярыну і Ігару Кулікову). Я не ўпэўненая, колькі беларусы ведаюць пра, скажам, меншыя краіны Паўднёвай Азіі, але скажу вам, што я была дужа прыемна здзіўленая, калі даведалася, што ў «Маладосці» будзе нумар з кантэнтам пра Бангладэш.

Сядзела я спакойна, планавала свае калонкі на наступныя месяцы. Так, я аптыміст і спадзяюся, што буду яшчэ цікавай вам праз некалькі месяцаў. Задала пару пытанняў, а намеснік рэдактара параіў не спяшацца: у студзені, маўляў, тэматычны нумар, можам прапусціць калонку. Я спытала пра тэмы і ледзь не памерла ад шчасця, калі даведалася, што можна пра Бангладэш. Чаму? А таму, што адна з маіх найлепшых і найстарэйшых сяброўак (мы сябруем больш за 10 гадоў, калі не памыляюся), Рыма — менавіта з Бангладэш і паходзіць. Рыма патрапіла ў маю школу, калі нам было па 14-15. Яна яшчэ мела моўныя цяжкасці, ды й не толькі (пераязджайце ў абсалютна іншую краіну і ўбачыце, як бывае). Мы вельмі хутка пасябравалі, таму што я таксама была дзівачкай, толькі тамтэйшай, бо

мелі шмат супольных хобі і былі падобныя характарам. І яшчэ таму, што... Добра, хто мае замежнага сябра? Каб зусім замежнага, з Аўстраліі, Бангладэш ці Кеніі*? Справа ў тым, што калі ты сябруеш з чалавекам, у якога абсалютна адрозны культурны фон, чым у цябе, і ты, у дадатак, яшчэ малады і добры, то канфліктаваць вельмі цяжка: кожны расказвае пра сваё — пра культуру, мову, літаратуру, і няма часу быць нязгодным, настолькі ўсё цікава. Вось так і склалася нашае сяброўства. Дзякуючы Рыме я пачула ўпершыню загадкавую бенгальскую мову (яшчэ не вывучыла — усяму свой час), пакаштавала бенгальскую ежу, прыняла ўдзел у бенгальскіх і мусульманскіх святах. Аднойчы, яшчэ ў далёкім 2009 годзе, Рыма пазычыла ў маці два сапраўдныя сары, і мы зладзілі фотасесію ў мяне. Натуральна, мы з Рымай гаварылі яшчэ і пра літаратуру. Я дапамагала ёй разумець іспанскую школьную праграму, а яна часам гаварыла пра выбітных бенгальскіх пісьменнікаў. Мне хацелася б, каб вы самі калі-небудзь паразмаўлялі пра літаратуру з чалавекам з Бангладэш. На бенгальскім літаратурным небасхіле ёсць ясныя зоркі неверагоднага хараства, і чытачы не блукаюць цёмнай ноччу. Затое бенгальская літаратура застаецца амаль нябачнай для прадстаўнікоў іншых народаў. Таму, калі людзі расказваюць пра сваіх літаратараў, у іх узнікаюць два розныя пачуцці: па-першае, шчырая пашана (заслужаная аўтарамі!), а па-другое: патрэба даказаць, што бенгальская літаратура насамрэч існуе, што яна вартая ўвагі. Колькі бенгальскіх аўтараў можаце назваць? Калі ніводнага — нічога страшнага: я сёння паспрабую, каб надалей вы ведалі аднаго, таго, які мяне найбольш уразіў, не толькі як літаратар, а таксама, як асоба. Гэта Бенгальскі Бард: Рабіндранат Тагор.

Невымоўна цікава назіраць, як складаецца чалавечы лёс. Кожны чалавек ёсць сусветам, і калі зірнуць з дзіцячаю цікаўнасцю — то ўжо не адарваць вочы. Рабіндранат Тагор... Супярэчлівы чалавек, як мы ўсе супярэчлівыя ў пэўнай ступені. Паэт, музыка і мастак. Аўтар гімнаў дзвюх сучасных краін (Індыі і Бангладэш). Народжаны ў інтэлігентнай сям'і,

* То толькі прыклады, але вы разумееце, пра што я.

ён пазбягаў фармальнай адукацыі. Жорсткі крытык еўрапеізацыі сваёй зямлі і першы не-еўрапейскі літаратар, які атрымаў Нобелеўскую літаратурную прэмію. Гуманіст, універсаліст і нават антынацыяналіст, які больш за каго іншага паспрыяў бенгальскаму нацыянальнаму рэнесансу. Дарэчы, Рабіндранат Тагор, як (наш? польскі?) Адам Міцкевіч, з'яўляецца аб'ектам этнічна-літаратурных канфліктаў: народжаны ў Калькуце, у сваіх творах развіваў новую літаратурную бенгальскую мову, апісваў, у тым ліку, рэаліі і традыцыі Бангладэш, заходні ўплыў на цэлы рэгіён. Як зразумець такога чалавека? Як зразумець любога чалавека? Ці магчыма дайсці да сутнасці? А ці трэба? Каб вы бачылі, як у сяброўкі запальваецца святло ў вачах, калі размаўляе пра Тагора! А я адчуваю, што заўжды буду глядзець на яго чужынскім позіркам. Але прысутным. І гэта, бадай, галоўнае.

Рабіндранат нарадзіўся ў 1861 годзе, і хутка стала відавочна, што ён «іншы», менавіта «іншы», нават сярод сваіх неверагодна таленавітых 13 братоў і сясцёр. Выраслі з іх філосафы, паэты, музыкі, дыпламаты і празаікі. Такія ёсць амаль у кожнай сям'і. А вырас і Рабіндранат Тагор — чалавек, які пачаў найбуйнейшую культурную рэвалюцыю ў Бангладэш сваім пяром. У паэзіі Тагор пазбягаў тыповых лінгвістычных канструкцый, строгіх форм, умеў гуляць словамі і стварыць тое, што дагэтуль называюць «магічныя радкі». Жывыя. У прозе, асабліва ў кароткіх апавяданнях на бенгальскай мове, ён не баяўся натуралізму, ламання стэрэатыпаў і шчырасці. Хто, калі б не ён, напісаў бы пра галечу датуль ідэалізаванай бенгальскай вёскі, ды й такой даступнай гутарковай мовай? Хто б напісаў такую крытыку каставай сістэмы без кроплі еўрацэнтрызму? Хто б здолеў запярэчыць самому Гандзі, калі той патлумачыў землятрус у Бігары кармай? Хто б мог сумяшчаць мадэрністычную, наватарскую паэзію з эсэ аб тым, наколькі важная павага да навукі і навуковых працэсаў?

Ніхто, мабыць, не адважыўся б на такое і ў такой колькасці, каб не гэты вечны падарожнік, Бенгальскі Бард, апошні арыстатэлічны, сусветны перыпатэтык. Цягам свайго жыцця, Рабіндранат Тагор бываў у 30 краінах на пяці кантынентах,

што толькі пераканала яго ў тым, наколькі чалавек маленькі і вялікі: маленькі, бо яго досвед абмежаваны часам і прасторай; вялікі, бо ўнутры кожнага чалавека хаваецца космас, і за кожнай парай стомленых вачэй хаваецца цэлая гісторыя чалавецтва. Зірнуць бы за вочы Тагора! У душу чалавеку не пазглядзіш, але задумайцеся — трэба ж быць удзячнымі за магчымасць запісваць свой вопыт і перадаваць, хоць часткова, наступным падарожнікам, бы мапу да каштоўнага скарбу.

Хачу, каб вы заўважылі, што Тагор ніколі не перастаў пісаць і расці. Каб не былі вымушаныя паверыць мне на слова, я набралася смеласці, папрасіла Рыму, бенгальскую сваю сяброўку, крыху дапамогі, і пераклала на беларускую мову яго «Апошні верш». Верш, які на справе ніякі не апошні, проста завяршае яго агульнавядомы (у Бангладэш, не хвалюйцеся, калі вы не ведаеце) раман «Шэшэр кабіта», які быў выдадзены ў 1929 годзе. Сяброўка запісала мне аўдыяварыянт верша, даслала версію лацінкай, каб я магла захоўваць (хоць падобныя) рыфму і рытм, інтэрпрэтавала метафары і параўнанні, адказвала на ўсе мае пытанні, за што я ёй бязмерна ўдзячная. Мы пастараліся, так што пачытайце спакойна. Заварыце сабе гарбату вось зараз. Ёсць? А цукар, малако, цытрына? Добра, то працягваем. Звярніце ўвагу на тое, што аўтар атрымаў нобелеўку ў 1913 годзе — болей чым на дзесяцігоддзе раней, і меў права сядзець спакойна, спачываць на лаўрах. Да таго ж, маладыя літаратары крытыкавалі яго за тое, што «перажыў свой час». Паэт, казалі, мае права жыць не болей за пяць гадоў, а Рабіндранат Тагор сядзіць, перашкаджае маладым знаходзіць сабе месца ў нашай (маленькай) бенгальскай літаратуры. З перспектывы часу, такая крытыка гучыць нават смешна, а тады... Пераклад ёсць у гэтай жа кнізе, у адпаведным раздзеле. Папрашу вас пачытаць яго, а потым вярнуцца сюды ў публіцыстыку, не пашкадуеце.

І светла, і сумна, і філасофска, і проста па-чалавечы. Я не ведаю, ці здолела я перадаць вам усё сваёй спробай перакладу, але гэта словы чалавека, які ўмеў бачыць звычайнае жыццё (і, паслядоўна, звычайную смерць) па-свойму. Словы паэта. Слова апошняга перыпатэтыка. Як сказаў бы Максім

Багдановіч, словы нашага «папутніка сярод нябёс». Словы, якія дагэтуль лунаюць над небасхілам сусветнай літаратуры, і сёння станучь, спадзяюся, вядомымі беларусам.

Памёр глыбока хворы Тагор у 1941 годзе, калі яму было 80 гадоў. Перад апошняй аперацыяй, пакінуў такія радкі, дыктаваў давераным людзям свой сапраўдны апошні верш, якім я развітаюся з вамі зараз: «Я згублены пасярэдзіне свайго дня нараджэння. Хачу сваіх сяброў, іх дотыкаў, апошняй зямной любові. Я вазьму апошні дар жыцця. Я вазьму апошняе чалавечае бласлаўленне. Сёння мая торба пустая. Я аддаў усё, што мог аддаць. Калі ў адказ атрымаю што-небудзь (крыху любові, крыху прабачэння), дык я вазьму гэта з сабой, калі сяду на лодку, якая давязе мяне да свята бясслоўнага канца».

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ПЕРАКЛАДЫ

*Было б сумна, калі б я не выкарыстоўвала свае моўныя веды (горшыя ці лепшыя, але наяўныя) дзеля таго, каб па-беларуску прагучалі інтрыгоўныя творы замежных літаратур. У зборніку друкаваліся ўсе пераклады, якія я назбірала за той час, як працую з беларускай мовай. Іх нямнога, але патроху ўсяго: ад бенгальскай класікі да Боба Дылана; ад японскага мадэрнізму да Гарсіі Лоркі.*

# Бангладэш

***Рабіндранат Тагор***

## АПОШНІ ВЕРШ

Ці чуеш ты, як несмяротны час
Ляціць удалеч, мінае нас,
І калясніца часу мкне праз цемру ў небасхіл,
І з вечнай цемнаты нябёс пяе, крычыць, міргае зорны пыл?
О сябар мой,
У часу тонкай сетцы
Ў палоне я — ляцім, а месяц свеціць,
Дарогу асвятляе нам,
І час мне шэпча ў вуха, «не аддам»...
О сябар мой, бывай!
Любоў мая!
Плыву аж да світання я па Леце:
І берага даб'юся, зноў хрышчоны,
Мае жыцці, мінулыя імёны
Нясе халодны вецер.
За гэтым вымярэннем
Пакутаў ды цярпення,
Душа, цябе чакае рай.
Любоў мая, бывай!
Калі самотнай ноччу, ціхай, яснай,
Душой адчуеш сум той пазачасны,
Калі вятры вясной
Задзьмуць завялай кветкай над табой,

І сэрца закрычыць — шукай мяне:
У цемры дзесь яшчэ мой дух жыве
Ўнутры цябе, як сон,
Мае ўспаміны й вобразы спяваюць ва ўнісон.
Але гэта не мара!
То ісціне ахвяра,
Над смерцю перамога,
Любоў мая, трывога!
І ты, любоў, ляціш,
Каханне запаўняе твае вены,
Нясе цябе брыз хуткіх пераменаў
У невядомы край.
О сябар мой, бывай!
Каханы мой, мяне ты не згубіў,
Бо статую маю зляпіў з зямлі.
Маліся мне штодня,
І пераможам цемру, смерць і час.
Хай дотыкі й экстаз
Не перашкодзяць чысціні кахання,
Малітвы ды чакання,
Хай гонар твой лунае напаказ,
І хай не прагучыць тужлівы сказ:
Твая малітва ўзвысіцца да неба
Прыгожай, шчырай, белаю любоўю,
Без суму ды без болю.
Душа ўжо не ў цяжар:
Вясёлыя ўспаміны — божы дар.
Мяне не забывай,
Але сыходжу, сябар мой: бывай!
Не плач, мая любоў,
Бо трэба запаўняць пустэчу зноў,
Сярэбранай каметай
Ты будзеш асвятляць маю планету.
Як хтось будзе чакаць — я буду рады,
Пад вечным зарападам
Збіраць мне будзе кветкі ціхай ночы,
Паглядзіць неба ў вочы,

І небу ж хтось падорыць свае мары
Каштоўным, шчырым дарам...
Затое сёння я пайду ў палон,
Таму, хто сумяшчае нада мной дабро са злом.
Усё, што я аддаў табе, — тваё, ды назаўсёды!
Не плач і не бядуй — бяры,
Усё тваё, бо мы — сябры.
Як будзеш ты багатым, то багатым будзе й рай,
О сябар мой, бывай!

# Вялікабрытанія

***Геры Гельд, Пітэр Удэл***

**ЛІСТ З ПАЦАЛУНКАМ**

Хоць нам трэба развітацца на лета,
Сонца, абяцаю табе,
Што новы ліст крылаты з маім пацалункам
Штодня прыляціць.

Будзе сумнае халоднае лета,
А ты, як святло ў чарнаце,
І новы ліст крылаты з маім пацалункам
Штодня прыляціць.

Твой твар у белых хмарах,
Твой голас — брызам дзьме,
У снах я абдымаю,
Але няма цябе.

Не хачу я развітацца на лета.
Як без кахання трываць?
Дамовімся з табой, што сустрэнемся ў верасні,
І буду цалаваць.

# ЗША

***Боб Дылан***

## КАБ ВЕДАЎ, ШТО ЛЮБЛЮ

Як пацямнеюць хмары над табой,
І зноўку з’явіцца дурны настрой,
Абдыму цябе, каханы мой,
Каб ведаў, што люблю.

Калі на небе сонца ўжо зайшло,
І нават знікне зорнае святло,
Я паляжу з табою сто гадоў,
Каб ведаў, што люблю.

Я разумею, ты не вырашыў,
І не спяшайся — пацярплю:
Заўсёды ведала, што гэта ты,
Я табе балюча не зраблю.

Хай галоднай буду, хай памру,
Хай адчай разаб’е маю душу,
Не сумнявайся, я на ўсё пайду,
Каб ведаў, што люблю.

Самота ў горадзе быццам турма,
Шкадаванне ў сэрцы б’е,
А немагчымага для нас няма:
Ты яшчэ не ведаеш мяне.

Будзе нам шчасце й нашым снам збыццё,
Дзеля цябе, каханне ты маё,
Я гатовая й аддаць жыццё,
Каб ведаў, што люблю.

# Іспанія

***Федэрыка Гарсія Лорка***

## МАЛЕНЬКІ ВЕНСКІ ВАЛЬС

У Вене ёсць дзесяць дзяўчат,
Ёсць плячо, дзе сама смерць ліе слёзы,
Ёсць лес памерлых птушыных чарод,
Ёсць вялікі кавалак світання
У музеі, дзе спіць лістапад,
Дзе сто вокнаў выходзяць у расстанне.

Хай-ай-ай-ай
Прагучыць гэты вальс,
Як маўчанне ды смутак гучаць.
Вальс ты мой, вальс ты мой, вальс ты мой,
Каньяк, і смерць, і сам сабой,
Купаешся ў пене марской.

Кахаю, кахаю, кахаю
Там, дзе кніга ляжыць нежывая,
Па меланхалічным калідоры,
Кахаю ў лілеях, што гарышча нам дорыць,
У нашым ложку з язмінавым пахам
І ў танцах, аб якіх марыць чарапаха.

Хай-ай-ай-ай
Зламаны вальс уздымецца над дахам.

У Вене ёсць чатыры люстэркі,
Дзе гуляюць твой голас і маё рэха,
Ёсць яшчэ смерць для фартэпіяна,
Што фарбуе хлопцаў у колер акіянаў,
Ёсць мужчыны, што на небе жабруюць,
Ёсць вянкі вечназялёнага плачу.

Хай-ай-ай-ай
Не памрэ вальс, маленькі, дрыжачы.

Больш за ўсё цябе кахаю на свеце,
У гарышчы, дзе бавяцца дзеці,
У вугорскіх светлавых марах,
У ранняга вечара хмарах,
Дзе снег у вокны кветкамі б’е,
Як па цёмнай цішы на ілбе.

Хай-ай-ай-ай
Скажа вальс «я кахаю цябе».

У Вене патанчым з табой
У касцюме, што пацячэ ракой,
На беразе гіяцынтаў сярэбраны рой!
Пакіну голаў у цябе між ног,
Душу ў фотаздымках, і лілеях ля дарог,
І ў хвалях мімалётных тваіх жа шляхоў,
Хацелася б пакінуць, мая ты любоў,
Вальс, скрыпку ды грабніцу — і станчыць ізноў.

***Луіс Сэрнуда***

* * *

Калі б чалавек мог сказаць пра тое, што кахае,
Калі б чалавек мог падняць сваё каханне да неба,
Быццам хмара ў моры святла;
Калі б, як сцены, якія звальваюцца,
Каб павітаць праўду, якая падымаецца пасярэдзіне,
Чалавек мог бы знішчыць сваё цела
І пакінуць толькі праўду пра сваё каханне,
Праўду пра самога сябе,
Якая называецца не славай, поспехам альбо амбіцыяй,
А каханнем альбо жаданнем.
Я быў бы тым, кім марыў быць;
Тым, хто сваім языком, сваімі вачыма, сваімі рукамі
Прамаўляе перад чалавецтвам праўду, якой пазбягаюць,
Праўду пра сапраўднае каханне.

Не ведаю свабоду, апроч за свабоду жыцця ў палоне таго
чалавека,
Чыё імя я не магу пачуць без мурашак;
Чалавека, дзеля якога я забываю гэтае ганебнае
існаванне,
Дзякуючы якому дзень і ноч для мяне ёсць такімі,
якімі я хачу,
І маё цела, і мой дух плывуць у ягоных
Быццам згубленае дрэва, якое мора глытае альбо падымае
Свабодна, свабодаю кахання,
Адзінаю свабодаю, якая мяне ўзрушае,
Адзінаю свабодаю, дзеля якой я гатовы аддаць жыццё.

Ты надаеш сэнс майму існаванню:
Калі я цябе не ведаю, значыць, я не жыў;
Калі памру, цябе не пазнаўшы, значыць, не памру,
бо не жыў.

* * *

Я прыйшоў паглядзець на твары,
Ласкавыя, як старыя венікі;
Я прыйшоў паглядзець на цені,
Што ўсміхаюцца мне здалёку.

Я прыйшоў паглядзець на сцены,
Няважна, ці ляжаць, ці стаяць;
Я прыйшоў паглядзець на рэчы,
На тутэйшыя снатворныя рэчы.

Я прыйшоў паглядзець на моры,
Што спяць у італьянскім кошыку;
Я прыйшоў паглядзець на дзверы,
На працу, на дахі, на якасці
Жоўтага, ужо восеньскага колеру.

Я прыйшоў паглядзець на смерць
І яе грацыёзны сачок для лоўлі матылькоў;
Я прыйшоў чакаць цябе,
Рукамі злёгку ў паветры,
Я прыйшоў, не ведаю, чаму;
Аднойчы я расплюшчыў вочы: я прыйшоў.

Таму хачу ненастойліва павітацца
З такой колькасцю больш чым ласкавых рэчаў:
З сябрамі колеру неба,
З днямі пераменнага колеру,
З вольнасцю колеру маіх уласных вачэй;

З дзецьмі настолькі тонкага шоўку,
З пахаваннямі, сумнымі, як камні,
З упэўненасцю, з тым насякомым,
Які ўе гнёзды на фальбонах святла.

Бывайце, мае салодкія, нябачныя каханкі,
Выбачайце, што не спаў у вас на руках.

Я прыйшоў адно па тыя пацалункі;
Захавайце вусны: можа, я вярнуся.

## ЖАДАННЕ

Калі спакойна ў вераснёўскім полі,
Як быццам зорка вырвалася з неба,
Прылятае на глебу
Ліст залатой таполі.

Калі б так несвядомая душа,
Ох, Уладару зорак і лістоты,
Ішла б ценем самоты
Да смерці ад жыцця!

## З ТАБОЮ

Мая зямля?
Мая зямля — гэта ты.

Мой народ?
Мой народ — гэта ты.

Выгнанне і смерць
для мяне знаходзяцца там,
дзе цябе няма.

А маё жыццё?
Скажы, жыццё маё,
Што ж яно, калі не ты?

* * *

Скажу, як ты нарадзілася, нячыстая асалода,
Як нараджаецца жаданне над вежамі страху,
Над пагрозлівымі кратамі, над выцвілаю жаўцізною,
Над ноччу, якая скамянела кулакамі,
Перад усім, нават самым мяцежным,
Які ўмее толькі жыць па-за сценамі турмы.

# Польшча

*Збігнеў Герберт*

## ПАСЛАННЕ ПАНА КОГІТА

Ідзі туды, адкуль тыя пайшлі на цёмную мяжу
Па залатое руно небыцця, тваю апошнюю узнагароду

ідзі ты на нагах сярод тых, хто на каленях
сярод тых, хто спінаю павярнуўся і перакуліўся ў пыл

ты выратаваўся не для таго, каб жыць
у цябе мала часу, трэба даць паказанні

будзь адважным, калі розум падводзіць, будзь адважным
у рэшце рэшт толькі гэта лічыцца

а Гнеў твой бездапаможны няхай будзе як мора
кожны раз, калі пачуеш голас зняважаных і збітых

няхай цябе не пакіне твая сястра Пагарда
для даносчыкаў катаў баязліўцы — яны выйграюць
пойдуць на тваё пахаванне і з палёгкай кінуць глыж
а караед напіша твае спарадкаваныя мемуары

і не даруй, бо сапраўды ты не ў стане
дараваць у імя тых, якіх прадалі на досвітку

затое сцеражыся непатрэбнай ганарыстасці
назірай у люстэрку свой блазны твар
паўтарай: мяне паклікалі — бо лепшых не было

сцеражыся сухасці сэрца, любі ранішнюю крыніцу
птушку з невядомым імем зімовы дуб
святло на сцяне пышнасць неба
ім не трэба тваё цёплае дыханне
існуюць каб гаварыць: ніхто цябе не суцешыць

пільнуй — калі святло на гарах дае знак — уставай і ідзі
пакуль кроў круціць у грудзях тваю цёмную зорку

паўтарай старыя змовы чалавецтва казкі і легенды
бо так здабудзеш дабро, якога не забудзеш
паўтарай вялікія словы, паўтарай іх ўпарта
як тыя, хто ішоў цераз пустыню і памёр ў пяску

і яны узнагародзяць цябе за гэта тым, што маюць
пад рукой
лупцоўкаю смеху з забойствам на сметніку

ідзі, бо толькі так прымуць у кола халодных чэрапаў
у кола тваіх продкаў: Гільгамеша, Гектара, Раланда
абаронцаў каралеўства без межаў і горада попелу

Будзь верным, Ідзі

# Расія

*Святаслаў Логінаў*

## АНТЫНІКАЦІНАВАЕ

У кватэры ў Сямёнава была чорная дзірка. Яна лунала над пісьмовым сталом і ледзь чутна гула, нібы лямпачка, якая збіраецца згарэць. Хаця згараць дзірка не збіралася. Гэта была дабраякасная чорная дзірка, у якой калапсаваў цэлы сусвет такіх самых памераў, як наш.

Чорная дзірка была абсалютна не патрэбная Сямёнаву, але, паколькі яна лунала над сталом, то Сямёнаў выкарыстоўваў яе замест попельніцы: ссоўваў у дзірку недапалкі, стрэсваў попел, а часам пускаў тоўсты струмень дыму і назіраў, як дзірка з лёгкім шыпеннем засмоктвае яго.

Сямёнаў не ведаў, што праз гэтыя ягоныя гульні сусвет на тым баку дзіркі забіты зжаванымі, смярдзючымі бычкамі, а ад дыму на планетах таго сусвету стала немагчыма дыхаць, і жыццё на іх хутка загіне.

Але нават калі б Сямёнаў ведаў гэта, паліць ён бы ўсё адно не кінуў.

## ЯК ЗАГІНУЛА АТЛАНТЫДА

Ніхто не мог абвінаваціць атлантаў у прагнасці. За чужым яны ніколі не ганяліся, але затое сваё абавязкова павінна быць найлепшым.

— Ці чулі, — гаварылі атланты адно аднаму, — якую піраміду ў Егіпце стварылі? Пабудуйма ж мы сабе ў пяць разоў большую!

І рабілі.

— А вось у Галіі, — распавядаў хтосьці, — менгіры каменныя паставілі. Дзесяць тысяч штук.

— Нічога! — крычалі яму. — Мы сто тысяч паставім!

— Навошта нам менгіры, ды яшчэ сто тысяч? — спытаў не такі як усе, але на яго не звярнулі ўвагі.

Добра жылі атланты. Усё ў іх было, і ўсё самае лепшае, але тут адзін падарожнік прывёз дзіўную навіну: у Італіі прачнуўся вулкан Везувій. Ва ўсім свеце толькі пра гэта і гавораць.

— Падумаеш, — адказалі атланты, — мы ў сябе сто вулканаў разбудзім!

— Можа, не трэба вулканаў? — але яго і гэтым разам слухаць не сталі.

Вулканы разбудзілі. Атлантыда згінула. А самі атланты выплылі, рассяліліся па свеце і жывуць сярод людзей, і зусім не мяняюць сваіх ранейшых звычак.

## ЛІТАРА ЗАКОНУ

Вынаходнік Шумоўкін у вольны час ад асноўнай працы пабудаваў вечны рухавік і з'явіўся з ім у патэнтнае бюро.

— Андрыян Ягоравіч! — дакорліва сказалі яму там, — вы наш найлепшы вынаходнік — і раптам такая несур'ёзная прапанова. Ці вядома вам, што нават Французская акадэмія і тая ўжо не разглядае праекты perpetuum mobile?

— А ўсё ж такі, яна круціцца, — адказаў Шумоўкін, збянтэжаны, але не пераможаны.

Пярэчанне было неарыгінальным, але на кіраўніцтва падзейнічала.

Была прызначаная кампетэнтная камісія, якая пасля пільнай праверкі прызнала рухавік існуючым, змяніўшы толькі назву «вечны» на больш узрушальную «даўгавечны рухавік».

# Чылі

*Пабла Неруда*

**ВЕРШ XX**

Магу напісаць сёння найсумнейшыя словы.

Напісаць, напрыклад, што ноч поўная зорак,
і блакітным святлом дрыжаць яны здалёку.

Спявае начны вецер у высокіх нябёсах.

Магу напісаць сёння найсумнейшыя словы.
Кахаў яе, а часам яна мяне кахала.

Многа такіх начэй правялі мы ў абдымках.
Я цалаваў яе пад бязмерным надзор'ем.

Яна мяне кахала, а часам я таксама,
А як жа не кахаць так натхнёныя вочы!

Магу напісаць сёння найсумнейшыя словы,
І думаць пра яе, і чуць яе адсутнасць,

І слухаць без яе, як ноч глыбейшай стала,
І падае радок, як раса на траву.

І што, калі каханне маё яе згубіла:
Поўная зорак ноч, яе няма са мною,

Гэта ўсё. А здалёку чуваць песню. Здалёку.
Мая душа не можа ўспрымаць такую страту.

Вочы верацъ у цуды і зноў яе шукаюць,
Сэрца яе шукае, яе няма са мною.

Ноч, у якой бялеюць тыя самыя дрэвы,
А з ёю мы, бадай, ужо даўно не тыя.

Яе ўжо не кахаю, але як кахаў моцна!
Мой голас шукаў вецер, каб знайсці яе вуха!

Будзе належаць іншым, як раней пацалункам
Маім. Стануць чужымі яе вечныя вочы.

Яе ўжо не кахаю; можа, яшчэ кахаю.
Каханне памірае, а забыццё трывае.

Многа такіх начэй мы правялі ў абдымках;
мая душа не можа ўспрымаць такую страту,

Не, нават калі гэты — апошні яе боль,
і нават калі гэты — апошні ёй радок.

# Чэхія

*Ярамір Ногавіца*

## МІКІ МАЎС

Разбудзіць зранку цемра, я падхаплю запясце,
Паглядзім, што б’ецца, ці жывы яшчэ, на шчасце,
Альбо памёр я ноччу і ў пахавальным строі,
Прачнуўся зноўку ў нябыт, са мной штoранак тое ж.

Няма чаго, чаму, як, няма куды, няма дзе,
Няма для каго, ні з кім, замкнёны кожны ў сабе,
Вярхом на Расінанце худы Кіхот вандруе,
А Бог — бязглузды рыцар, што ездзіць усляпую.

Падняў я слухаўку — там чужыя спачуванні,
Тыя навіны ходзяць, як паліцыя на світанні.
Нібыта ўжо прачнуўся, яшчэ начная паўза,
Трэба смяяцца, а ў мяне ўсмешка Мікі Маўса,
Ранак — адмяніць!

Радыё неяк цешыць, там грае Чык Карыя,
Забава як забава, як і перад маўзалеем.
Стаю ў чарзе, чакаю, а пад вачыма колы.
Ружовае світанне мне цяпер здаецца кволым.

Гаворыш, што нам трэба, пра справу, што нас ціснe,
Патроху халадзее след кахання на бялізне,
А цемра ўсё з’ядае: не засталося веры,
Чыя ж віна? Між намі падымаецца сякера.

